Сродкі на выданне кнігі былі сабраны дзякуючы краўндфаўндынгавай кампаніі ULEJ.BY.
Праект завершаны дзякуючы 57 спонсарам.

Аўтар ілюстрацый — Раман Петрашка.

**Садоўскі, Ул.**

1813 / Уладзімір Садоўскі. — Мінск : ІП А.М. Янушкевіч, 2016. — Электрон. тэкст. дан. (1 Мб). — Лічбавае электрон. выд. — Загал. з тытул. экрана.

ISBN 978-985-7165-04-9.

У кнізе змешчана навэла «1813» і пяць апавяданняў.

Дзеянне навэлы адбываецца ў 1813 годзе ў апошнія дні зімы. У разбуранае Вялікай вайной мястэчка на ўскрайку Мінскай губерні наведваецца госць са сталіцы. Міхал Клеафас Агінскі — дыпламат, кампазітар, а зараз сенатар Расійскай Імперыі — прыязджае пагасціць да свайго дзядзькі ў фамільны замак ля Маладэчна. З надыходам адлігі ў наваколлях мястэчка пачынаюць адбывацца незразумелыя рэчы: забітыя

жаўнеры паўстаюць з поля мінулай бітвы і нападаюць на жыхароў паселішча. Хутка замак Агінскіх апынаюцца ў аблозе хадзячых мерцвякоў. Міхалу Клеафасу не застаецца нічога іншага, як зноў узяць у рукі зброю і змагацца за свабоду роднага края. Толькі гэтым разам ворагам будуць не жывыя людзі, а паўсталыя пачвары.

# 1813

Янка любіў зімовы лес.

Хлопцу падабалася шапаценне галінак над галавой. Падабалася назіраць, як ад раптоўнага парыву ветру белымі аблачынкамі сыплецца з дрэваў снег. Падабалася тое пачуццё спакою і адзінства з прыродай, якое абуджаў лес у хлапечай душы.

Але сёння ўсё было не так. Чым бліжэй Янка падыходзіў да ўзлеску, тым мацней у ягоным нутры распальвалася трывога. Хлопцу здавалася, што за сцяной цёмных, пакрытых шэранню ствалоў стаілася нешта небяспечнае. Гасцінны і шчодры лес падаваўся чужым і незнаёмым.

Яшчэ раніцой, атрымаўшы загад збірацца на паляванне, Янка ўзрадаваўся выправе за муры замка. Кашталян даў яму стрэльбу, з тузін набояў са шротам і паўжартам прыстрашыў без дзічыны не вяртацца. Учора ў госці да графа прыехаў пляменнік з Пецярбурга, і кашталян паабяцаў гаспадару разнастаіць стравы да вячэры. Янка апрануў кажух, нацягнуў аблавушку, пачапіў шырокі паляўнічы пас і выйшаў на двор. Там ён напаткаў пакаёўку Паліну, якая несла праз замкавы дворык ваду са студні. Янка зрабіў сур’ёзную міну, выпрастаўся, па-заліхвацку ўскінуў ружжо і, нібы жаўнер на муштры, прайшоў міма дзяўчыны, высока ўздымаючы ногі. Паліна пырснула са смеху. Юнак зірнуў у ейны бок і падміргнуў. Прыемны

ўспамін ускалыхнуў ягонае сэрца. На дарогу да лесу Янка выйшаў з усмешкай на вуснах.

На бязвоблачным блакітным небе на ўсю моц прамянілася сонца. Не зважаючы на гэта, над наваколлем панаваў мароз. Але Янка не адчуваў холаду. Начная завіруха замяла ўсе дарогі, і хлопцу давялося самастойна пракладаць сабе дарогу праз снежныя гурбы. Кожны крок даваўся цяжка. Месцамі юнак правальваўся ў рыхлы снег па грудзі. Янка ўвесь сапрэў, пакуль дайшоў да ўзлеску, дзе нарэшце прыпыніўся адпачыць. Абапёршыся на стрэльбу, ён агледзеўся. Непадалёк ён заўважыў цёмныя плямы прыцiснутага снегу. Свежы зайцаў след вёў у лясны гушчар.

— Вось і першая здабыча, — падумаў Янка, узняў зброю і зрабіў крок да лесу.

У гэты момант з галінаў бліжэйшых дрэваў з крыкам і гоманам узнялася ўгору чорная чарада варон. Янка замёр на месцы. Ад спуду ў яго перахапіла дых і шалёна закалацілася сэрца. Вылаяўшыся, юнак зняў з паса шротніцу і выцягнуў шомпал. Набіўшы стрэльбу, ён зірнуў на цёмную сцяну дрэваў, што грувасцілася за некалькі крокаў. Яго ахапіла няясная трывога.

Янка ўзняў стрэльбу і ўвайшоў у гушчар там, дзе перарываліся зайцавы сляды. У лесе панаваў паўзмрок. Зыркае сонца знікла за дрэвамі, і здавалася, што надышоў вечар. Янка з цяжкасцю прадзіраўся скрозь зарасці і паваленыя ствалы, але не губляў следу. Месцы, куды скакала жывёліна, на снезе былі добра бачныя. Хлопец ускінуў стрэльбу і стараўся ісці як мага цішэй. Неўзабаве

пачалася прагаліна з паваленых ураганам дрэваў. Тут след зайца згубіўся. Янка доўга ўзіраўся ў зямлю, пакуль не заўважыў цёмную пляму на белым покрыве. Ён падышоў бліжэй і ўбачыў, што на снезе ў лужы крыві ляжала адарваная заечая лапа. Страх зноў закраўся ў душу. Янка стаў азірацца і вадзіць стрэльбаю з боку ў бок. Сярод змрочных ялін прамільгнуў цень. Хлопец адступіў на крок. Яго ўсё больш не адпускала трывога. Янку захацелася як мага хутчэй пакінуць гэты негасцінны лес. Ён яшчэ раз азірнуўся і накіраваўся да таго месца, адкуль выйшаў на прагаліну. Страх падганяў. Янка не стаў болей цішыцца. Да ягонага слыху, апроч трэскату сухіх галін пад нагамі і грукату уласнага сэрца, з-за спіны даносіўся яшчэ адзін гук. Сухі працяглы стогн. Янка паднаціснуў і выбег з лесу. Па інерцыі ён прабег яшчэ колькі крокаў, пакуль не спыніўся і не азірнуўся. Узлесак быў пусты, за хлопцам ніхто не гнаўся. Сэрца яшчэ шалёна калацілася, а дыханне не сцішылася. Янка павярнуў да замка. Шаноўны госць застанецца без дзічыны.

***

Міхал падняўся рана, за вокнамі толькі ўздымалася сонца. Бясконцыя заснежаныя палі зіхацелі ў ранішнім праменні. Граф памыўся вадой, што стаяла ў пакоі з вечара. Халодныя кроплі канчаткова прагналі рэшткі сну. Агінскі вырашыў пакуль не спускацца на сняданак і на свежую галаву выкласці на паперу перажыванні ўчарашняга дня.

Балазе, паходны набор для пісьма быў у графа заўжды пад рукой.

Праз пэўны час Міхал Клеафас Агінскі адклаў пяро і прысыпаў аркушы паперы дробным пяском, каб атрамант хутчэй высах і не пакідаў слядоў на іншых рэчах. Гэта быў ліст да жонкі, першы ліст, напісаны ім пасля доўгай дарогі да дзядзькавага замка. Міхал страс пясок з аркушаў і ўзяўся перачытваць напісанае: «…Мяне чакала расчараванне. Мне дагэтуль горка пра гэта думаць.

Тое, чым прывітала мяне родная старонка, уразіла самым непрыемным чынам. Усё, што мы з табою ведалі пра вайну са сталічных газет, не адпавядае і дзясятай долі праўды аб тым, што адбылося тут.

Спачатку шлях па рускіх губернях засмучаў мяне. Здавалася, мы будзем ехаць бясконца. Але як толькі мы перасеклі межы Краю, у душы маёй пасвятлела. Я адчуў, як бадзёрасць забруілася ў маіх жылах, нібыта паветра Радзімы вярнула мяне ў гады маладосці. Апошнія вёрсты ад Полацка я загадаў фурману ехаць без перапынкаў. Мы ляцелі цэлы дзень і ўвечары дабраліся да Будслава, дзе змянілі коней. Уночы мы праскочылі Вялейку, і на світанні я быў у замку. Там мяне ніхто не чакаў. Усе былі здзіўленыя, хоць і вельмі радыя майму прыезду. Напэўна, той ліст, што я даслаў дзядзьку перад ад’ездам, затрымаўся ў дарозе, і я апярэдзіў яго. Прыняўшы мяне, стомленага і змерзлага, дзядзька загадаў слугам распаліць лазню і накрыць на стол. І няхай мая душа імкнулася хутчэй павітацца з роднымі мясцінамі, я з радасцю прыняў дзядзькава запрашэнне.

Каб прывітаць мяне, дзядзька запрасіў на сняданак усіх насельнікаў замка, у тым ліку пакаёвых і дваровых слуг. Але гэта не так шмат людзей, як можа здавацца. Я сядзеў побач з гаспадаром і старым замкавым кашталянам Юзафам Шыдлоўскім, які дзядзьку служыў спрадвек.

Дзядзька быў у гуморы, ён не раз падымаў поўны кубак, і зычнае «Віват, Міхале!» узносілася да высокай столі замкавай гасцёўні. Сам сабе я адзначыў, што дзядзька прыкметна пастарэў. Я памятаў яго поўным сілы мужчынам, а цяпер пабачыў змарнелага і сівога старога. Разам з дзядзькам пастарэў і замак. У гасцёўні паўсюль былі відаць сляды заняпаду. Ад свечкавага чаду закурэла столь і шыбы ў вокнах. На сценах праступілі шчыліны, а ў некаторых месцах адваліўся тынк. Скасабочаная нашараваная мэбля патрабуе тэрміновага рамонту.

Пад'еўшы і сагрэўшыся, я выказаў дзядзьку сваё жаданне праехацца конна па палях юнацтва. Дзядзька адказаў, што гэта не самая лепшая ідэя, тым больш з улікам майго цяперашняга ўзросту. Ён узяўся адгаворваць мяне ад блазнаватай задумы. Да яго далучыўся кашталян Шыдлоўскі. Але я быў непахісны. Сядлай найлепшага каня, Юзік, — сказаў я. Так па-свойску я называў кашталяна з дзяцінства. Дзядзька і Юзаф разам змоўклі. Тады мяне напаткала першае глыбокае расчараванне гэтага цяжкага дня.

Памятаеш, любая, колькі я расказваў табе пра знакамітую дзядзькаву стайню? Пра зграбных, хуткіх, прыгожых конікаў, якіх дзядзька збіраў па ўсім свеце.

Памятаеш тую гісторыю, як я хлапчуком прабраўся туды, скраў найлепшага варанца і цэлы дзень лётаў па сенажацях, ловячы рукамі вецер? А потым атрымаў такіх бізуноў, што тыдзень хадзіць не мог.

Дык вось, стайні больш не было. Дзядзька расказаў, што спачатку французскія войскі, што ішлі праз Маладэчна на Маскву, рэквізавалі, а па-простаму адабралі на патрэбы арміі самых лепшых дзядзькавых коней. А потым імперскія войскі, што гналі Напалеона на захад, рэквізавалі рэшту. Застаўся толькі стары конь па мянушцы Бакас, якому было добра за дзесяць гадоў і таму ён нікому не спатрэбіўся.

Юзаф правеў мяне да апусцелых стойлаў, дзе загадаў маладому конюху Ерамею рыхтаваць Бакаса да выезду. Старое выпацканае сядло доўга не хацела трымацца на правіслай спіне каня. Кашталян спытаў, ці не перадумаў я, і, пачуўшы адмоўны адказ, перажагнаў мяне. Праз некалькі хвілін я ўжо быў за межамі замка і скіроўваўся ў бок Маладэчна.

Мястэчка сустрэла мяне цішынёй і горкім пахам пажару. Гэта было жахліва. Месца маёй маладосці ператварылася ў суцэльнае папялішча. Паўтузіна каменных будаў сярод руінаў — вось і ўсё Маладэчна.

Я ехаў па спустошаных вуліцах і аглядаўся навокал. Там-сям сярод занесеных снегам спаленых хат курэў дымок. Я бачыў уваходы ў зямлянкі, бачыў буданы з абпаленага бярвення, намёты. Нехта працягваў жыць у мёртвым мястэчку. Колькі разоў мне трапляліся мінакі, якіх цяжка было прыняць за людзей. Проста нейкія камякаватыя гурбы

рыззя, што бадзяліся па вуліцы без справы і без кірунку. Мне запомніліся вострыя халодныя вочы дзіцяці, якое спынілася ля ўзбочыны і доўга праводзіла позіркам мяне і майго каня. Я не мог нічым ім дапамагчы.

Вайна прайшлася па мястэчку агнём і мячом. Як пазней расказваў дзядзька, ля Маладэчна і ў самім мястэчку адбылася адна з апошніх бітваў Вялікай вайны. Не менш жорсткая, чымся іншыя. Імперскія бамбардзіры дзень абстрэльвалі пазіцыі французаў, спаліўшы такім чынам вялікую колькасць хат. Добра, што дзядзькаў замак знаходзіцца наводдаль ад паселішча, ад артабстрэлу ён не пацярпеў. А потым была сеча. Змучаныя бясконцым адступленнем напалеонаўскія войскі далі бой на полі ля Вушы. Дзядзька казаў, што там і цяпер пад снегам ляжаць сотні непахаваных салдат Вялікай арміі Напалеона.

Я ехаў па мястэчку, і вочы мае напаўняліся слязьмі. Ты ведаеш, родная, што падчас душэўных узрушэнняў я больш здольны да стварэння музыкі. Але тая мелодыя, што нараджалася ў маім сэрцы, калі я глядзеў на разбурэнні, — не для старонніх слухачоў. Яна назаўжды застанецца са мною, разам з маім смуткам і болем.

Ля паскубанага гарматамі кляштарнага будынка я пабачыў натоўп. Манахі-трынітарыі, якія заставаліся ў мястэчку на працягу ўсёй вайны, зладзілі там раздачу гарачай поліўкі. Нешматлікія выжылыя местачкоўцы ціснуліся бліжэй да цеплыні вогнішчаў. Гэта быў адзіны светлы прамень сярод цемры расчараванняў. Я рашыў выказаць падзяку манахам за іх самаадданасць ад свайго імя

і ад імя імператарскай улады, якую я, па вялікім рахунку, тут прадстаўляў. Зрэшты, у той момант турбаваць манахаў я не захацеў і пастанавіў здзейсніць сваё рашэнне ў больш афіцыйнай абстаноўцы.

Я вярнуўся ў замак засмучаны. Шыдлоўскі дапамог мне выбрацца з сядла і завесці Бакаса ў стойла. Я сказаў кашталяну, што не буду абедаць, і яшчэ папрасіў не турбаваць мяне некалькі гадзін. Потым падняўся ў свой пакой і доўга праляжаў на ложку без сну сам-насам са сваімі пачуццямі. Спусціўся ў гасцёўню я толькі пад вечар, тады, калі там ужо рыхтавалі стол да вячэры. За ежай я падзяліўся сваімі ўражаннямі з дзядзькам і нарэшце змог падрабязна распытаць яго пра жыццё падчас вайны…»

Міхал у задуменні паглядзеў у акно. Хвіліну ўзіраўся ў далягляды, а затым абмакнуў пяро і прыпісаў яшчэ колькі словаў на аркуш. Потым акуратна склаў аркушыкі ў каперту. Разагрэў над полымем свечкі кавалак сургучу і запячатаў ліст, пакінуўшы пярсцёнкам адбітак. Пакуль сургуч застываў, Агінскі зноў пракруціў у галаве падзеі ўчорашняга дня. Была адна рэч, пра якую Міхал вырашыў пакуль не казаць жонцы ў лісце, каб не засмучаць яе яшчэ больш.

Учора пасля вячэры Міхал разам з дзядзькам прайшлі ў бібліятэку. Вялікае памяшканне было застаўлена шафамі з кнігамі. Ля супрацьлеглай да ўваходу сцяны было абсталявана месца для чытання і прыватных размоваў. Два глыбокія фатэлі і столік месціліся побач з галандскаю печкай, аздобленай кафляй. У каміне ўжо разгараліся

паленцы, а на століку быў пакінуты падсвечнік з запаленымі вогнікамі. Дзядзька жэстам паказаў Міхалу на стары пашарпаны фатэль, які ў цьмяным святле свечак выглядаў яшчэ больш-менш прыстойна. Міхал пазнаў гэты гарнітур — за масіўным столікам з граніту яны з дзядзькам калісьці адгулялі не адну партыю ў шахматы.

— Міхале, я бачу, што ты ўжо трохі ачуняў ад пабачанага, — пачаў дзядзька. — Сапраўды, наш край зведаў шмат гора.

— Так, гэта было жахлівае відовішча.

— Але гэта далёка не ўсе разбурэнні, што… — дзядзька на імгненне задумаўся. — Ведаеш, Міхале, не хацелася б сёння яшчэ больш вярэдзіць табе душу, але скажу як ёсць: наша сядзіба ў Залессі згарэла.

— Як? — у Міхала заняло дых ад такой навіны. Сядзібы, дзе граф пражыў з сям’ёй амаль дзесяць гадоў, дзе нарадзіліся ягоныя тры дачкі і дзе ён напісаў свае найлепшыя музычныя творы, больш не існуе?

— У пачатку зімы. Падпал, ці праз чыюсьці нядбайнасць, я не ведаю. У Залессі ад моманту, як вы з’ехалі ў Пецярбург, стаялі французскія войскі. Магчыма, пры адступленні хтосьці дадумаўся спаліць сядзібу.

Ці гэта была гульня ценяў у паўзмроку, ці напраўду так было, але Міхалу падалося, што на словах пра сталіцу Расійскай імперыі твар дзядзькі сказіўся ў грэблівай грымасе.

— Але чаму вы не паведамілі мне раней! — пасля наведання дзядзькі ў Маладэчне Міхал планаваў заехаць і ў

Залессе, але цяпер яму трэба было перагледзець свой маршрут.

— Я сам пабываў там толькі месяц таму і пабачыў усё на ўласныя вочы. Цэлы застаўся хіба мураваны млын.

— Калі б я ведаў пра гэта, я б папрасіў кампенсацыі з дзяржаўнай скарбніцы на аднаўленне сенатарскай маёмасці. Я б прыехаў сюды з калежскім рэгістратарам царскай канцылярыі, і мы б разам падлічылі суму стратаў... — Міхал, які ўжо жвава прыкідваў у галаве план дзеля аднаўлення сядзібы, раптам запнуўся, пабачыўшы выраз твару дзядзькі.

— Не, Міхале, мне ад твайго цара дапамогі не трэба, — стары граф падняўся з фатэля і рушыў да выхаду. — Позна ўжо, пайду спаць, — кінуў ён праз плячо не азіраючыся.

Міхал застыў агаломшаны. З аднаго боку, яму было сорамна за тое, што ён прапанаваў старому інсургенту дапамогу ад тых, з кім дзядзька ў свой час змагаўся. З другога боку, ён сам свядома абраў гэты шлях супрацоўніцтва з імперскімі ўладамі, бо лічыў, што так ён будзе мець значна больш магчымасцяў для дапамогі Радзіме.

Міхал узяў са століка падсвечнік і ў змрочных пачуццях накіраваўся ў свой пакой.

***

Раніцой, нягледзячы на засмучанасць і заняпад сіл, выкліканы ўчорашнімі падзеямі, Міхал задумаў зладзіць

яшчэ адну конную выправу. Гэтым разам у бок лесу. Сонечнае надвор'е якраз спрыяла такому баўленню часу, і граф адчуваў сябе бадзёра і ўзнёсла. Дарогай праз двор да стайні Міхал пабачыў, як кашталян распякае хлопца, які панура стаяў са стрэльбай у руках. Агінскі на хаду падміргнуў хлопцу і ўсміхнуўся. Конюх Ерамей зноў падрыхтаваў каня да выезду верхам. Міхал без староннняе дапамогі забраўся ў сядло і выехаў з замка.

Калі ўчора стары Бакас быў узорам паслухмянасці, то сёння жывёліну нібы падмянілі. Усю дарогу ад замка да ўзлеску Бакас марудзіў і запінаўся, ледзь-ледзь перастаўляў капыты. Вялейскі гасцінец, якім Агінскі выправіўся ад замка, быў не надта засыпаны снегам, таму граф не мог зразумець, што непакоіць каня. Ля лесу Міхал збочыў з дарогі ў поле. Бакас павольна прайшоў колькі крокаў па глыбокім снезе і стаў як прыкуты. Зрушыць яго не маглі ні словы, ні прышпорванне. Выглядала на тое, што і гэтая прагулка была сапсаваная. Узнёслы настрой, што з раніцы ахапіў Міхала, выпарыўся без следу.

— А бадай цябе, — Агінскі вылаяўся і саскочыў з каня. Бакас працягваў стаяць і не мігаючы глядзець на дрэвы. — Сам пройдуся.

Міхал прайшоў усяго пару крокаў і забурыўся тварам у рыпучы снег. Падымаючыся, граф Агінскі гучна прыгадаў некалькі асабліва яскравых выразаў з тых, што чуў ад сталічных рамізнікаў. Затым атрос кажух і азірнуўся. У тым месцы, дзе ягоная нага напаткала перашкоду, з-пад снегу вытыркалася штосьці даўгаватае. Міхал прыгледзеўся — гэта

была чалавечая рука. На імгненне яму падалося, што скручаныя бялявыя пальцы цягнуцца да яго, каб схапіць за калашыну. Міхал мімаволі адступіўся. Рука была нерухомая.

Агінскі спатыкнуўся аб скарчанелы труп аднаго з соцень забітых жаўнераў, пра якіх расказваў дзядзька. Пры падзенні граф вызваліў з-пад снегу не толькі руку, але і частку цела нябожчыка. Міхал схіліўся над жаўнерам, каб уважлівей яго разгледзець. Французскі грэнадзёр, — граф вызначыў гэта паводле колеру абмундзіравання. Сіні мундзір быў у двух месцах прадзіраўлены і абрынданы нечым чорным. Так абазначыліся месцы, дзе кулі ўвайшлі ў цела. Міхал не раз бачыў такое падчас паўстання. Твар нябожчыка, знявечаны грымасай болю, пакрыўся шэранню. Расплюшчаныя вочы ператварыліся на марозе ў два ледзяшы. На руцэ салдата бракавала безыменнага пальца і мезенца. Спачатку Міхал падумаў, што гэта марадзёры адсеклі іх разам з пярсцёнкамі, але ўгледзеўшыся, зразумеў, што пальцы былі проста вырваныя з рукі разам з добрым кавалкам мяса. Графу зрабілася млосна. Ён адвярнуўся ад нябожчыка і паглядзеў у бок лесу.

Дрэннае прадчуванне пачало зараджацца ў Міхалавай душы. Яму падавалася, што лес, да якога ён так імкнуўся зранку, хавае ў цёмных глыбінях нешта злое і небяспечнае. Здавалася, што з-за завесы галін на поле да самотнага падарожніка ў любы момант можа выскачыць… Агінскі не мог да канца абазначыць свае страхі, але адно ён ведаў дакладна — яму хацелася як мага хутчэй пакінуць гэтае месца.

***

Назад Бакас пайшоў спрытней. Міхал падумаў, што прычынай маруднасці каня стаўся той жа незразумелы жах, які адчуў ён сам на ўскрайку лесу. Неўзабаве граф наблізіўся да замка. Некалі трывалая абарончая пабудова, што здаўна належала роду Агінскіх, цяпер уяўляла з сябе сумнае відовішча. Сцены без догляду пачалі абсыпацца, закінутыя вежы, адкрытыя для непагоды, пакрыліся трэшчынамі і заімшэлі, роў абмялеў. Больш-менш дагледжанымі заставаліся толькі замкавы палац, дзе атабарыўся дзядзька з прыслугай, ды ўязная брама, на якой красаваўся родавы герб — святы Юры і агінец на чырвонасінім шчыце.

Калісьці замак хацелі перабудаваць у сядзібу і разбіць побач парк. У свой час дзядзька нават паспеў узвесці аранжарэю і адрамантаваць стайні, але праз беды, што абрынуліся затым на дзяржаву, дый проста праз нястачу сродкаў, далейшае будаўніцтва давялося спыніць.

Міхал праехаў праз адчыненыя вароты ва ўнутраны дворык і гучна паклікаў конюха. Адказу не было. Агінскі моцна змерз за час паездкі, таму не стаў доўга чакаць і самастойна злез з каня. Граф узяў Бакаса за аброць і павёў у стойла. Дзверы стайні былі прыадчыненыя, і з глыбіні памяшкання даносіўся гучны дзядзькаў голас. Міхал правёў каня ўнутр і прыслухаўся. Стары граф сварыўся на конюха.

— Я цябе прасіў асцярожна перанесці ўсё ўніз, а ты, цямцюр гэткі, палову тут вывернуў, — лаяўся дзядзька. Конюх нешта мямліў у адказ, але Міхал яго не чуў. — Вот жа, рукі крывыя, — не сунімаўся гаспадар, — лепей пакінь

усё як ёсць, толькі прыкрый больш ад марозу.

— Можа мне хто дапамагчы? — гучна прамовіў Агінскі. Дзядзька, які стаяў да яго спінай, страпянуўся і рэзка развярнуўся. Міхал паспеў заўважыць цень страху ў дзядзькавых вачах, які праз імгненне змяніўся радасцю пазнавання. Гаспадар махнуў рукой у бок Ерамея і з непрыхаванай злосцю ў голасе прагаварыў: — Гэты недарэка, Ярома, развярнуў бонду з зернем. А ў мяне яго не так шмат, каб раскідвацца! — Дзядзька павярнуўся да конюха: — Давай, дурыла, памажы Міхалу, што стаіш?

Хлопец падхапіўся, прыняў лейцы з рук графа і павёў каня ў стойла. Міхал заўважыў, што далоні Ерамея былі запэцканыя нечым чорным.

— Як прагулка, Міхале? — стары граф рашыў змяніць тэму.

— Добра, — схлусіў Міхал. Разам з дзядзькам яны накіраваліся да выхаду са стайні.

— У мяне для цябе цудоўная навіна, — усміхнуўся дзядзька, — Памятаеш, ты мне расказваў пра манахаў-трынітарыяў, што памагалі пагарэльцам у Маладэчне? Наколькі я памятаю, ты хацеў выказаць ім падзяку, ад імя... — былы інсургент запнуўся і апусціў вочы долу, — імператарскай улады.

Абодва Агінскія сталі на ганку замкавага палаца.

— Дык вось, Міхале, — працягнуў дзядзька, — плябан маладэчанскага кляштара брат Крыштоф прыняў маё запрашэнне на сённяшнюю вячэру.

— Выдатна. Такія людзі, як брат Крыштоф, вартыя

бязмежнай павагі. Я падзякую яму як асабіста, так і ў афіцыйнай форме, — Міхал зрабіў асаблівы націск на апошніх двух словах.

Стары граф некалькі секунд стаяў моўчкі. Ён вагаўся, ці варта працягваць непрыемную тэму.

— Добра, Міхале, пайду я на кухню ўзгадняць стравы да вячэры, — няўпэўнена махнуўшы рукой, дзядзька адчыніў дзверы і зайшоў унутр палаца. Міхал пачакаў, пакуль дзядзькавы крокі сціхнуць у далечы калідора, і ўвайшоў следам.

***

Брат Крыштоф з’явіўся ў замку ў суправаджэнні двух манахаў. Служка, пастаўлены сачыць за прыходам гасцей, здалёк заўважыў тры фігуры ў чорных плашчах, яны марудна сунуліся занесеным снегам маладэчанскім трактам. Пакуль манахі адолелі рэшту дарогі, у замкавым палацы было ўсё гатова да іх сустрэчы. Слугі дапамаглі манахам распранууцца і правялі тых у гасцёўню. Ля дзвярэй іх прывітаў гаспадар. Міхал Клеафас і кашталян Юзаф стаялі воддаль, пры сервіраваным стале.

— Шаноўны браце, я рады бачыць вас у сценах майго сціплага жытла, — дзядзька схіліўся, каб пацалаваць руку святара.

— Вітаю паважаных гаспадароў, — плябан — ладны мужчына арыстакратычнага выгляду — апусціў галаву ў паклоне. — Жадаю, каб не абмінула вас ласка Божая. —

Брат Крыштоф азірнуўся на сваё суправаджэнне. — Спадзяюся, прысутнасць брата Валянціна і брата Мікалая не прынясе вам дадатковага клопату. Часы ў нас цяпер неспакойныя, і кожная выправа за межы кляштара можа быць небяспечнай для адзінокага падарожніка.

— Ні ў якім разе. Нам вельмі прыемна прымаць вас усіх у нашым доме. Прашу, сядайце, — дзядзька жэстам паказаў манахам на месцы ў галаве стала.

Усе расселіся. Слугі прынеслі першую змену страваў і напоўнілі келіхі віном. Міхал, які сядзеў праваруч ад брата Крыштофа, падняў свой келіх і прамовіў: — Я хачу выпіць за самаадданасць вашага ордэна, што нават у самыя цяжкія часы не перастае рупіцца пра вернікаў. Днямі я наведаў мястэчка і пабачыў, як браты-трынітарыі дапамагалі маладэчанцам. Дазвольце мне выказаць вам словы падзякі ад мяне як жыхара тутэйшых мясцінаў, і ад мяне як сенатара — прадстаўніка імператарскай улады. Хай мне часцей даводзіцца бываць далёка адсюль, але сэрцам я адданы нашай зямлі, і мне вельмі прыемна ведаць, што яна знаходзіцца пад надзейнай абаронай. Віват, трынітарыі!

— Віват! — падхапілі дзядзька і кашталян.

— Гэта наш святы абавязак, — Крыштоф сціпла апусціў вочы.

Талеркі едакоў хутка апусцелі, і слугі прынеслі гарачае.

— На жаль, нашая сённяшняя вячэра не можа пахваліцца разнастайнасцю страваў, — паскардзіўся дзядзька, — у нашых лясах зусім не засталося дзічыны, гэтая праклятая вайна абабрала не толькі нас, але і прыроду.

— Што праўда, то праўда, — плябан паківаў галавой, — але я чуў ад людзей, што звяры пазнікалі з вакольных лясоў і праз нейкую іншую навалу. У мястэчку ходзяць плёткі пра прывідаў.

— Гэта так, — далучыўся да размовы Шыдлоўскі, — я нядаўна пасылаў Янку на паляванне, бо падыходзіў запас сушанага мяса. Дык гэты паскуднік адмовіўся ісці ўглыб лесу. Сказаў, што яму было страшна, бо ён убачыў нейкія цені, што блукалі ў глыбіні сярод дрэваў і нібыта пагражалі ягонаму жыццю.

Па спіне Міхала прабег халадок. Ён прыгадаў ранішнюю прагулку і тое пачуццё небяспекі, якое апанавала яго на ўзлеску.

— Прывіды! Чаго толькі ні прыдумаюць людзі, каб не працаваць, — усміхнуўся дзядзька. — Я ні ў якіх прывідаў не веру. Па нашых лясах, пэўна, французскія дэзерціры ды марадзёры рознага гатунку бадзяюцца. Вось гэтая свалата можа ўяўляць пэўную небяспеку. Але ж такім марозам наўрад ці хто доўга на двары працягне.

— А ведаеце, панове, прывіды не такая ўжо смешная тэма, — узяў слова брат Крыштоф. — На гэты конт у мяне ёсць адна цікавая гісторыя, якой я хачу з вамі падзяліцца. — Усе, хто быў за сталом, скіравалі сваю ўвагу на плябана. — Вядома, што для касцёла няма паняткаў «свой» ці «чужы» — усе людзі роўныя перад Богам. Таму ордэн падчас вайны даваў прытулак усім, хто прасіў нашай дапамогі. Не зразумейце мяне няправільна, пане сенатару, — брат Крыштоф лёгка нахіліў галаву ў бок Міхала, — але былі

сярод такіх і жаўнеры Напалеона.

— Ні ў якім разе. Вашая міласэрнасць робіць вам гонар, — Міхал пакланіўся ў адказ.

— Я хачу расказаць вам пра адзін дзіўны выпадак, што адбыўся падчас нядаўняга адступлення.

Плябан адклаў прыборы, зрабіў глыток віна з келіха і працягнуў: — За некалькі дзён да бамбардавання ў наш кляштар прынеслі параненых салдат. Мы размясцілі іх у нашым шпіталі, пад які давялося прыстасаваць яшчэ і некалькі манаскіх келляў. Сярод параненых быў афіцэр у цяжкім стане. Выбухам яму адарвала руку, і да таго ж ён пакутаваў ад ліхаманкі. Паранены быў неспакойны і трызніў. Браты па чарзе дзяжурылі пры ягоным ложку. Але час ад часу стан афіцэра паляпшаўся, і ён мог гаварыць. Дык вось, аднойчы, калі падышла мая чарга глядзець за параненым, афіцэр быў у прытомнасці і паміж намі адбылася гутарка. Ён сказаў, што яго завуць Мартэн Кале і родам ён з Валоніі. Даведаўшыся, што і я таксама ўраджэнец тых земляў, афіцэр вельмі ўзрадваўся. Не ведаю, ці таму віной ліхаманка, ці проста радасць ад сустрэчы з земляком, але тады Мартэн прызнаў мяне за свайго далёкага суродзіча. Я не стаў яму пярэчыць, бо разумеў, што гэта мо апошняя радасць у ягоным жыцці. Мартэн доўга расказваў пра свой дом, сям'ю і пра тое, як я нібыта прыязджаў да яго ў госці. Я сядзеў пры ложку і праціраў вільготнай анучай ягоны гарачы лоб. Праз некаторы час афіцэр змоўк, і я падумаў, што ён хоча адпачыць. Я ўжо збіраўся адысці, але Мартэн раптам схапіў

мяне за руку і пацягнуў да сябе. Ён прашаптаў мне: «Крыштоф, паслухай мяне. Ты павінен паверыць мне. Гэта ўсё прывід. Прывід пракляў мяне, і цяпер я паміраю. Я… мы былі ў Маскве. Пад Масквой. Мы знайшлі там… Я раскажу…» Тое, што ён апавёў мне тады, было надзвычай цікавым і… — Крыштоф на імгненне задумаўся, — …і страшным.

Усе, хто сядзеў за сталом, даўно перасталі есці і ўважліва слухалі плябана. Ні стукату прыбораў, ні шоргату і рухаў, поўная цішыня. Калі плябан змоўк, каб зрабіць яшчэ адзін глыток віна, у пакоі можна было пачуць, як патрэскваюць агеньчыкі на свечках у насценных свяцільнях.

— Мартэн расказаў мне пра сакрэтны атрад, які складаўся з адных толькі афіцэраў і ў якім быў ён сам. Кіраваў атрадам Жазэ дэ Венон — археолаг з Парыжа, якому на вайне надалі капітанскае званне. Наколькі я зразумеў, мэтай гэтага атрада быў пошук скарбаў расійскіх цароў у захопленай Маскве. У тым ліку яны шукалі знакамітую бібліятэку Івана Жахлівага. Атрад быў расквартараваны на тэрыторыі маскоўскага крамля. Штодзень Мартэн займаўся тым, што разам з іншымі афіцэрамі лазіў па кармлёўскіх падзямеллях, перабіраў каменне, пераварочваў горы смецця ды струхлелага ламачча. Гаворачы гэта мне, Кале з вымучанай усмешкай заўважыў, што іх кіраўнік — капітан дэ Венон — сур’ёзна называў усю гэтую брудную працу археалагічным вышукам. Мартэн расказаў, што аднойчы, на загад дэ Венона, афіцэры пачалі разбіраць кавалак сцяны ў склепе аднаго з сабораў. Як

толькі мураванне было парушана, стала зразумела, што за замшэлымі цаглінамі схаваны сакрэтны ход у сутарэнні. Капітан быў узрадаваны гэтай навіной і загадаў адразу ж па заканчэнні работ спускацца ў лабірынт. Мартэн спускаўся апошнім. У адной руцэ ён трымаў паходню, а другой трымаўся за сцяну. Ход выявіўся досыць высокім, таму можна было ісці не прыгінаючыся. Некалькі разоў тунэль разгаліноўваўся. Тады дэ Венон, паводле толькі яму вядомай методыкі, вызначаў патрэбны кірунак. Атрад доўга блукаў па сутарэннях, і Мартэн пачаў думаць, што ўжо ніколі не выберацца адтуль вонкі. Ён расказаў, як адчуваў на сабе чужыя позіркі, хоць у лабірынце атрад не сустрэў ніводнай жывой істоты. Не было там нават пацукоў, што напаўнялі іншыя крамлёўскія сутарэнні. Мартэн пачаў пастаянна азірацца і ўглядацца ў цемру. Адзін раз яму нават падалося, што ён бачыць фігуру за паваротам тунэля. Мартэна апанаваў страх. Ён зразумеў, што значна адстаў ад сваіх, і паспяшаўся нагнаць атрад. Як толькі ён параўняўся з апошнім афіцэрам, наперадзе пачуўся голас. «Знайшлі!» — пракрычаў Жазэ дэ Венон, калі першым увайшоў у падземную крыпту. Хутка следам за ім у памяшканне прабраліся астатнія чальцы атрада. Мартэн казаў, што ўнутранае ўбранне крыпты было ўкрай сціплым. Неапрацаваныя каменныя сцены, масіўная гранітная скрыня — вось і ўсё, што было ўнутры падземнага сховішча. Дэ Венон неадкладна загадаў самым дужым мужчынам з атрада зрушыць цяжкое вечка. Як толькі каменная пліта трохі адсунулася, са скрыні пачаў вырывацца задушлівы газ.

Крыпта была досыць цеснай і хутка напоўнілася брыдкімі выпарэннямі. Афіцэры закашляліся, але не спынілі работы. Вечка было скінута. Пад ім, на жаль, знайшліся не гурбы золата і не старажытныя фаліянты, а спарахнелы мужчынскі труп. Капітан быў абураны гэтым фактам. Ён загадаўператрэсці ўсю крыпту ў пошуках каштоўнасцяў, але дадатковыя высілкі плёну не далі. Брудныя і стомленыя афіцэры пачалі збірацца да выхаду. Дэ Венон ніяк не мог супакоіцца і працягваў капацца ў саркафагу. «Трэба ісці», — агучыў тады Мартэн думкі ўсяго атрада. Мужчыны выбіраліся з сутарэнняў той жа дарогай. Афіцэр зноў ішоў апошнім. У тунэлі ён азірнуўся і заўважыў цьмянае святло, што напаўняла пакінутую крыпту. Спачатку Мартэн падумаў, што гэта нехта забыў унутры запаленую паходню, але святло, што лілося з прахону, мела мала агульнага з водбліскамі агню. Афіцэр бачыў, як з няяснага святла фармуецца, нібы з цеста, празрыстая фігура — чалавечая постаць. Мартэн развярнуўся і ўжо больш не азіраўся. Ён прызнаўся мне, што баяўся тады нават дыхнуць. Ён быў упэўнены, што пабачыў прывід. «Гэта быў нябожчык з каменнай скрыні… Дакладна ён…» — сказаў мне афіцэр і скруціўся ад моцнага прыступу кашлю. Я падаў яму вады і змяніў кампрэс на ілбе. Праз хвіліну Мартэн зноў мог гаварыць. Ён расказаў, што пасля выхаду на паверхню капітан дэ Венон надоўга пакінуў іх атрад. Археолаг выправіўся ў стаўку імператара з дакладам. Таму цэлы тыдзень афіцэры маглі спакойна адпачываць. Неўзабаве французскія войскі пачалі рыхтавацца да адыходу з Масквы.

Атрад дэ Венона далучыўся да асноўных сілаў. Спачатку мужчыны трымаліся разам. Але потым прыйшоў загад камандавання, і атрад расфармавалі. Усіх афіцэраў прызначылі на камандныя пасады ў нейкім з палкоў. Калі захварэў адзін з іх — малады віконт Мішэль Пірэ, — Мартэн даведаўся пра гэта першым. Афіцэр разам з іншымі чальцамі пошукавага атрада часта наведваў маладога чалавека ў перасоўным шпіталі і з жахам назіраў за тымі зменамі, што адбываліся з Мішэлем падчас хваробы. Хлопец хутка губляў вагу, ягоныя некалі ружовыя шчокі ўваліліся і збялелі. Афіцэр разказваў мне, якімі чырвонымі і сухімі зрабіліся вочы маладога чалавека. Такія самыя вочы я сам мог назіраць у Мартэна падчас нашай з ім размовы. Малады афіцэр страціў магчымасць гаварыць, увесь час мычэў і калыхаў рукамі. Чым далей заходзіла хвароба, тым больш буяным і неўтаймаваным рабіўся Пірэ. Ён пачаў кідацца на наведнікаў і аднойчы ўкусіў за руку лекара, які спрабаваў яго пакарміць. Мішэль не змог сачыць за далейшым лёсам маладога афіцэра, бо іх полк увязаўся ў сутычку з нерэгулярнымі сіламі праціўніка. Афіцэру давялося прыняць камандаванне невялікім атрадам уланаў. Пазней ён чуў ад знаёмых, што дэ Пірэ сканаў недзе пад Смаленскам. Адступленне было неймаверна цяжкім. Штодзень войскі зазнавалі напады партызанаў або хуткаконных казацкіх атрадаў. Але які бы стомленым афіцэр ні быў, ён пачаў заўважаць у сябе прыкметы той хваробы, што загубіла маладога Мішэля. Ён з цяжкасцю мог хадзіць, страціў рэакцыю, пакутаваў ад мігрэняў. Да яго

даходзілі весткі, што шмат хто з былога пошукавага атрада гэтаксама злёг ад невядомай заразы. Да таго ж, некаторыя салдаты з ягонага палка звярталіся да лекара з падобнымі скаргамі. У адной з бітваў Мартэн трапіў пад абстрэл і быў моцна паранены ў руку. Палкавы лекар, нядоўга думаючы, адсек знявечаную канечнасць і праз адсутнасць магчымасці выхадзіць параненага ў палявых умовах, загадаў салдатам пакінуць афіцэра на ўтрыманне літасцівых манахаў. Так Мартэн апынуўся ў нашым кляштары. Скончыўшы свой аповед, афіцэр расплакаўся. Я ўзяў яго за руку і паспрабаваў супакоіць. Ён стагнаў і енчыў, што не хоча паміраць. Мартэн сцвярджаў, што смяротная хвароба, ад якой сканаў малады Пірэ і ад якой пакутуе ён, насланая на іх атрад маскоўскім прывідам. Што гэта праклён за тое, што афіцэры пасмелі патрывожыць ягоны спакой у закінутай крыпце пад крамлём. Мартэн аддаў размове шмат сіл і неўзабаве заснуў. Я ціха памаліўся над ім і пакінуў ляжаць на ложку. Праз некалькі дзён пакутлівай ліхаманкі афіцэр памёр. Следам за ім з жыцця пайшлі і два жаўнеры, якіх прывялі разам з Мартэнам. Браты аднеслі ўсе целы на кляшторныя могілкі. Зямля не паддавалася заступам, бо прамерзла на добрыя чатыры футы ўглыб, таму нябожчыкаў проста паклалі за агароджай і прысыпалі снегам, каб пахаваць пасля, калі пацяплее. На наступны дзень пачалося бамбардаванне. Мы хаваліся за моцнымі мурамі кляштара і маліліся, каб боская абарона выратавала нас ад бязлітасных гарматных ядраў. Бог паслухаў нас. На наступны дзень мы выбраліся з будынка. Браты, якія

наведвалі могілкі, расказалі мне, што целы афіцэра і французскіх жаўнераў зніклі. — Плябан на імгненне задумаўся. — Хутчэй за усё нябожчыкаў разарвала на шматкі пры адным з мноства выбухаў таго страшнага дня.

Брат Крыштоф змоўк. Ён узяў келіх з віном і напалову асушыў яго. Некалькі хвілін у гасцёўні замкавага палаца панавала мёртвая цішыня.

— Прывід маскоўскага цара! Я ў гэтыя казкі не веру, — парушыў маўчанне бадзёры дзядзькаў голас. — Сёлета такая сцюдзёная зіма, што ніякіх праклёнаў не трэба. Перамарозіліся гэтыя французы, адступаючы, вось і сканалі.

— Пэўна, так яно і было, — прамовіў плябан.

Далей гаворка пайшла пра больш паўсядзённыя рэчы. Дзядзька скардзіўся на суровае надвор’е і турбаваўся, ці стане яму запасаў да канца маразоў. Брат Крыштоф распавядаў пра асаблівасці кляштарнай гаспадаркі. Міхал расказваў байкі са сталічнага жыцця. Так незаўважна для ўсіх надышла ноч. Госці пачалі пазяхаць, і гаспадар загадаў Шыдлоўскаму правесці манахаў у пакоі, дзе яны змогуць пераначаваць. Міхал таксама падняўся з-за стала, развітаўся і пайшоў у свой кабінет.

Ідучы калідорам, Міхал спаткаў кашталяна, які размаўляў з манахам — братам Валянцінам. Усёй гутаркі Агінскі не заспеў, але краем вуха пачуў, што адказваў Шыдлоўскаму брат-трынітарый: — Я не знайшоў там ніводнага кавалка цела. Пуста. Яны зніклі без следу.

***

Зіма імкліва губляла пазіцыі. Халады змяніліся доўгачаканай адлігай. Штодня станавілася цяплей, і сонца, што раней толькі свяціла, цяпер добра прыпякала. З палёў паступова пачаў сыходзіць снег, ад чаго ўсе навакольныя дарогіператварыліся ў брудныя ручаі. Лясы, вызваліўшыся ад марознай скаванасці, сустракалі першыя павевы цёплых заходніх вятроў ветлівым шапаценнем галінак. У паветры лунаў дух вясновага адраджэння.

Міхал Клеафас Агінскі гасцяваў у дзядзькі трэці тыдзень. У хуткім часе граф збіраўся пакінуць замак і выправіцца дадому. Пра гэта ён напісаў у Санкт-Пецярбург жонцы. Міхал не губляў сувязі са сталіцай — амаль штодзень ён пісаў лісты і адсылаў іх з пасыльным на найбліжэйшую паштовую станцыю ў Будслаў. Конюх на старым Бакасе спраўляўся з гэтай задачай за светлавы дзень, і да заходу сонца ў руках графа з'яўлялася новая карэспандэнцыя з Пецярбурга.

Міхал сядзеў за бюро ў сваім пакоі і завяршаў чарговае пасланне да жонкі. Граф любаваўся заходам сонца праз вузкае акно, калі пачуў гоман, што даносіўся з унутранага дворыка замка. «Пэўне, Ерамей са станцыі вярнуўся», — падумаў Агінскі. Ён падняўся, накінуў на плечы жупан і спусціўся ўніз. На двары Міхал убачыў вершніка на кані, якога шчыльна абступілі людзі. Агінскі пазнаў старога Бакаса. Конь быў неспакойны, ён гучна чмыхаў і часта пераступаў нагамі. Мужчыны з дваровых дапамагалі конніку спусціцца, а жанчыны жаласліва галасілі. Граф падышоў бліжэй.

— Нясіце яго ў палац! — загадаў Шыдлоўскі.

Двое з Ерамеем на руках прайшлі міма Міхала. Конюх быў цяжка паранены. Ягоная правая калашына ўся набрыняла крывёй. Чырвоная вадкасць вялікімі кроплямі падала на дваровы брук. Хлопец стагнаў і нешта мармытаў сабе пад нос.

— Ён цапнуў мяне. Цапнуў. За нагу. Цапнуў, — данеслася да графа.

— Ды хто ён? Адкажы ты, — гучна спытаў кашталян.

— Француз! Цапнуў мяне. Шалёны француз, — енчыў Ерамей.

— Які такі француз? Сабака французскі?

— Француз! Ён мяне цапнуў! — працягваў лапатаць конюх.

Ерамея прыцягнулі на кухню, дзе паклалі на лаву каля цэбара з вадой. Шыдлоўскі, які ўзяў на сабе абавязкі лекара, загадаў слугам набраць кіпню, падаць медавухі і прынесці які-колечы чысты інструмент. Загад быў выкананы адразу ж. Спачатку кашталян уліў чарку ў перасохлыя вусны Ерамея, потым узяў нажніцы і адрэзаў набрынялую крывёй калашыну, каб агледзець рану. На сцягне конюха барвавеў глыбокі след ад укусу. Нечыя зубы пракусілі скуру і адарвалі шматок мяса. Уся нага конюха была чорнай ад крыві, і крывацёк яшчэ не прыпыніўся. Шыдлоўскі вяроўкай туга перацягнуў сцягно над ранай, узяў змочаную анучу і пачаў абмываць месца ўкусу.

— Гэта не сабачая хватка, — здзіўлена прагаварыў кашталян. Конюх усхліпваў і якатаў.

Калі ўдалося спыніць кроў, рану перавязалі, а пацярпелага перанеслі на ложак. Ерамею стала лепш, ён супакоіўся і змог нарэшце расказаць, што здарылася: — Французскі салдат. Ён выйшаў з лесу. Адзін. У драным мундзіры, без шапкі. Я не паспеў ачомацца, як ён кінуўся да мяне і ўхапіўся за нагу. Ён цапнуў мяне зубамі. Проста як сабака. Зусім ашалеў. Я закрычаў. Бакас спудзіўся і даў драпака. Француз застаўся там на дарозе. Я не глядзеў, можа, ён зноў у лесе схаваўся, — голас хлопца зрываўся і дрыжаў.

Конюха пакінулі адпачываць аднаго. Неўзабаве стан хлопца пагоршыўся. Пакаёўка, якая прыносіла яму вады, паведаміла, што ў таго гарачка. Бліжэй да ночы Ерамея пачало ліхаманіць. Ён увесь час пакутліва варочаўся і трызніў. Гаспадар, які не адыходзіў ад ложка конюха, вырашыў з раніцы паслаць некага да манахаў-трынітарыяў па дапамогу. Міхал, якому таксама было не абыякава здароўе Ерамея, выклікаўся паехаць у мястэчка.

З першымі промнямі сонца Агінскі пакінуў замак. Раскіслая дарога не дазваляла пусціць каня поўным ходам, таму калі Міхал уехаў у Маладэчна, сонца стаяла высока. Ад таго, што снег сышоў, мястэчка здавалася яшчэ больш знявечаным. Рэзалі вока чорныя драбы спаленых хат і плямы вырванай зямлі на месцах выбухаў бомбаў. Усё гэта раней было ўтоена ад вачэй пад белым покрывам. Дзіўная цішыня панавала навокал. Парушала яе толькі хлюпанне капытоў Бакаса па дарожным брудзе.

Каля каменнага будынка таксама было пуста, а сам

кляштар быў зачынены на ўсе засаўкі. Граф пад'ехаў да канавязі, прывязаў Бакаса і рушыў да ўваходу. Ён пагрукаў у дзверы і гучна назваў сябе. Доўгі час ніхто не адказваў. Агінскі стаў нервова азірацца па баках. Яму не падабалася падазроная ціша і спустошанасць навакольных вуліц. Раптам пачуўся скрыгат засаўкі і палавінка кляшторнай брамы павольна адчынілася. Скрозь невялікі прахон прасунуў галаву невядомы Міхалу манах і пільна паглядзеў на графа.

— Праходзьце. Хутка, — манах працягнуў Агінскаму руку і ледзь не сілком зацягнуў таго ўнутр. Калі дзверы з лязгатам зачыніліся, Міхал апынуўся ў поўнай цемры. Не ведаючы, да каго звяртацца, ён прамовіў: — Я прыйшоў па дапамогу.

— Вы не першы, — пачуўся голас трынітарыя. Той адчыніў іншыя дзверы. Невялікі пакой напоўніўся цьмяным святлом. — Увесь кляштар запоўнены пацярпелымі, — манах стаў у дзвярным прахоне і жэстам паклікаў графа за сабой.

— Што здарылася? — пераступіўшы парог, Агінскі спыніўся. У калідоры, куды вялі дзверы, панаваў паўзмрок. Усе вокны ў памяшканні былі забраныя аканіцамі. Але і пры такім дрэнным асвятленні Міхал змог пабачыць, што ў калідоры поўна людзей. Малыя, старыя, сярэдняга веку, яны купкамі і па адным сядзелі ці ляжалі на падлозе ля сценаў. Праз адчыненыя дзверы келляў бачыліся ложкі з пацярпелымі. Побач з хворымі стала знаходзіўся хтосьці з манахаў. Белыя плашчы з крыжамі вылучаліся сярод шэрай

масы зноскаў, у якія была апранута большасць выжылых жыхароў мястэчка. Нягледзячы на вялікую колькасць людзей, у памяшканні было ціха. Толькі час ад часу з келляў даносіўся стогн, а ў калідоры можна было пачуць прыглушаны шэпт — гэта бацькі супакойвалі сваіх дзетак. Здавалася, што ўсе, хто быў у Маладэчне, перамясціліся сюды.

— Французы напалі зноў, — манах шпаркім крокам пайшоў да лесвічнага пралёту, спрытна абмінаючы людзей. Міхал паспяшаўся за ім.

— Як? Адкуль тут могуць быць французы? Яны ж даўно адышлі за межы? — Агінскі незаўважна для сябе перайшоў на гучны шэпт.

— Гэтыя — з тых, хто застаўся, — шматзначна адказаў манах.

— Не разумею.

— Я таксама, — манах падняўся па прыступках да першай пляцоўкі і паглядзеў уніз на Агінскага, — Але з усяго выходзіць, што гэта памерлыя французы.

— Як памерлыя? — Міхал аслупянеў.

— Памятаеце, я расказваў пра Мартэна Кале? — данёсся з вышыні голас плябана. Брат Крыштоф спускаўся з другога паверха.

— Вітаю вас, браце, — Агінскі схіліўся ў паклоне.

— Адзін з местачкоўцаў бачыў афіцэра ўчора ў Маладэчне, — працягнуў плябан, не адказаўшы на прывітанне. Выглядаў ён украй стомленым.

— Вы ж сказалі, што ён памёр, — не зразумеў Міхал.

— Я сам так думаў. Але ўчора французскі жаўнер без рукі разбурыў адзін з намётаў і моцна параніў тых, хто быў унутры.

— Якім чынам?

— Ён пакусаў іх, — плябан змоўк.

— Вось і наш конюх, — прыгадаў Агінскі, — таксама казаў, што ў лесе яго пакусаў шалёны француз.

Плябан са шкадаваннем у голасе прамовіў: — І цяпер ваш конюх ляжыць з ліхаманкай.

— Так, адкуль вы ведаеце? — здзівіўся Міхал.

— Ва ўсіх пацярпелых такія ж сімптомы, — брат Крыштоф паказаў рукой у бок келляў. — Мы збіраліся ўчора накіраваць у ваш замак пасыльнага з папярэджаннем, але праз наплыў людзей не змаглі гэтага зрабіць. На ўліку былі ўсе працаздольныя людзі.

— Але як такое магло здарыцца? — бедаваў Агінскі. — Я не разумею.

— Пацяплела, — нібы сам сабе прамовіў плябан.

— Што? Я вас не чую, — Міхал падвысіў голас.

— Поле за Вушою было завалена трупамі, пасля бойкі ніхто не паруліўся іх прыбраць, — брат Крыштоф павярнуўся да Агінскага. Пачырванелыя, напоўненыя смуткам і болем вочы плябана, здавалася, глядзелі скрозь Міхала. — Сёння брат Валянцін быў там. Яно пустое. Усе нябожчыкі зніклі. Цяпер яны блукаюць па наваколлі.

— Вы нейкую лухту плецяце, брат. Вы доўга не спалі. Вам трэба адпачыць, — цвердзіў Міхал гучным шэптам. — Мерцвякі не могуць хадзіць.

— Я не спаў, гэта так, — голас плябана быў спакойны, ён нібыта размаўляў сам з сабою. — Але я бачыў усё тое на ўласныя вочы. Гэта так.

— Вы хочаце сказаць, што надыходзіць Апошні Суд? Ці вы проста наслухаліся страшных гісторый ад сваіх французскіх сяброў? — Міхал дазволіў сабе грубасць. Роспачны стан плябана пачаў выклікаць у яго раздражненне. Брат Крыштоф прамаўчаў.

— Добра, — граф вырашыў змяніць тэму. — Скажыце, вы можаце мне дапамагчы і паслаць да нас чалавека, які разбіраецца ў медыцыне?

— На жаль, не, пане сенатару, — не адразу адказаў плябан, — усе занятыя. Брат Крыштоф адвярнуўся да акна і скрозь шчыліну ў аканіцы паглядзеў на двор. — Але я хачу даць вам параду, — плябан усё яшчэ стаяў спінай да графа. — Вам трэба як мага хутчэй вярнуцца ў замак, зачыніць усе дзверы, усе вокны і нікога не ўпускаць. Дакладней, упускаць толькі тых, хто можа назваць сябе. Упускаць жывых, якія могуць гаварыць, бо мерцвякі не здольныя да словаў, — манах рэзка павярнуўся, сухія вочы ўтаропіліся ў Міхала. — Яны здольныя толькі забіваць, — прашаптаў плябан.

Міхал адступіў. Ён нічога не адказаў, моўчкі развітаўся і шпарка пашыбаваў да выхаду. Манах, які сустракаў Агінскага ў кляштары, кінуўся следам, каб зачыніць дзверы.

Выйшаўшы з будынка, граф вылаяўся. «Гэты Крыштоф, мусіць, непрытомны. Дарэмна толькі з'ездзіў», — думаў Міхал. На двары было ўсё гэтак жа ціха і пустынна, але

Бакас, які ўвесь час прастаяў на прывязі, моцна расхваляваўся. Конь узбуджана біў капытом, круціў вачыма ў розныя бакі і ржаў.

— Спакойна, Бакас. Усё добра, — Агінскі пагладзіў каня па шыі.

Забіраючыся ў сядло, Міхал думаў над словамі плябана: «Мерцвякі ходзяць, што ён выдумаў? Быць гэтага не можа». Агінскі накіраваўся да замка. Ён разважаў, як сказаць дзядзьку пра тое, што дапамогі ад трынітарыяў чакаць не варта. Краем вока граф заўважыў рух каля адной з разбураных хат. Там быў чалавек. Стоячы на каленях спінаю да Міхала, ён апусціў галаву і нешта рабіў рукамі перад сабой. «Пэўна, вогнішча раскладае», — мімаходзь падумаў Агінскі. На мужчыне быў брудны шынэль вайсковага крою. Ён быў настолькі захоплены справай, што не звяртаў на конніка ўвагі. Міхал не стаў яго аклікаць і проста паехаў далей.

Праз хвіліну, калі вершнік знік за паваротам, чалавек азірнуўся. Зямлісты твар мужчыны быў выпацканы крывёй. Скрозь парваныя вусны бачыліся скрываўленыя дзясны з чорнымі зубамі. Здавалася, што чалавек усміхаецца.

***

Міхал пад’ехаў да замка. Ля адчыненай брамы яго сустрэў служка з дваровых. Хлопец пачакаў, пакуль вершнік праедзе ў дворык, зачыніў вароты і падбег да Агінскага.

— Пане Міхале, ваш дзядзька загадаў мне правесці вас да яго адразу, як прыедзеце, — выпаліў Янка. — На полі французы!

— Што? — Міхал паспешліва спусціўся з каня. — Вядзі мяне хутчэй.

Разам з хлопцам граф прайшоў у паўночную вежу замка. На другім паверсе іх чакаў дзядзька. Ён стаяў каля аконнага прахону з падзорнай трубой і глядзеў у даль.

— Міхале, як ты думаеш, што за людзі сабраліся там? — спытаў стары граф і працягнуў Міхалу трубу.

Той моўчкі стаў ля акна. Сярод поля, якое цягнулася ад берага ракі да блізкага лесу, Міхал налічыў з два дзясяткі чалавечых фігур. Некаторыя з іх стаялі на месцы, іншыя павольна перасоўваліся сярод плямаў нерасталага снегу. Міхал прыглядзеўся: усе людзі на полі былі апранутыя ў форму французскіх жаўнераў.

— Французы! — Міхал не верыў сваім вачам.

— Падобна на тое, — спакойна прамовіў дзядзька.

— Брат Крыштоф якраз расказваў мне нейкую лухту пра паўсталых мёртвых французаў, — і пляменнік апавёў дзядзьку тое, што сказаў яму плябан.

— Цікава, — прамовіў стары граф, даслухаўшы аповед.

— А як пачуваецца Ерамей? — пацікавіўся Міхал.

— Лепш. Прынамсі, цяпер ён спакойна спіць, — дзядзька не адводзіў вачэй ад поля. — Янка, прынясі маю стрэльбу, — кінуў ён служку. Хлопец імкліва выбег з вежы.

— Навошта яна вам? — запытаўся Міхал, назіраючы, як Янка перасякае дворык і знікае за дзвярыма палаца.

— Хачу праверыць адну рэч, — загадкава адказаў дзядзька.

Праз хвіліну служка вярнуўся. Стрэльба вайсковага ўзору была даўжынёй амаль у рост хлопца.

— Набіў? — спытаў гаспадар.

— Не, — цяжка ўздыхнуў Янка.

— Давай сюды, — дзядзька прыняў стрэльбу з рук служкі. — Патрон, — хлопец дастаў з кішэні папяровы скрутак з порахам. Стары граф, спрытна працуючы шомпалам, заштурхаў набой у рулю. Было бачна, што гаспадар дасведчаны ў гэтай справе. Набіўшы ружжо, дзядзька хвацка ўдарыў прыкладам аб падлогу і ўскінуў стрэльбу да пляча.

— А калі яны пачнуць страляць у адказ? — спытаўся Міхал, які з цікавасцю назіраў за дзядзькавымі рухамі.

— Ты бачыў у іх зброю? — стары граф прасунуў рулю ў акно. Міхал яшчэ раз правёў падзорнай трубой па постацях у полі. Усе жаўнеры былі бяззбройныя. Некаторыя насілі на тальмаху ножны альбо патранташ, але шпаг ці стрэльбаў у руках ніхто не трымаў. Увогуле граф не заўважыў за жаўнерамі ніякай арганізаванасці, уласцівай вайскоўцам — французы бадзяліся па полі хто як хацеў і між сабою не ўзаемадзейнічалі.

Дзядзька стрэліў. Куля ўзняла фантанчык бруду за фут ад ног жаўнера, які знаходзіўся бліжэй за астатніх да замкавых муроў. Француз спыніўся і павольна павярнуў галаву ў бок замка. Міхал, які назіраў за ягонымі дзеяннямі праз трубу, у жаху адхіснуўся ад акна. Твар француза быў

чорны ад закарэлай крыві. Ніжняя сківаца адсутнічала. З раструшчанай глоткі чырвонымі махрамі звісаў язык.

— Ён не можа быць жывы, — прамовіў Агінскі. — Плябан казаў праўду.

— Так, — адказаў дзядзька, — праўду. Я сам не адразу паверыў. Але з фактам не паспрачаешся. — Стары граф абапёрся на стрэльбу і працягнуў: — Гэта Шыдлоўскі, з яго недаверам да ўсяго няўцямнага, будзе доўга адбівацца ад праўды. А я слухаў плёткі і на вус матаў. Вось Янка — дзядзька кіўнуў у бок мальца, — расказаў мне пра свае лясныя прыгоды. Пра адарваную заечую лапу і пра цені сярод дрэваў.

Міхал таксама ўзгадаў тое пачуццё трывогі, што выклікаў у яго лес.

— Потым пайшлі чуткі з Маладэчна. Казалі, што людзі, якія хадзілі ў лес па дровы ці па дзічыну, не вярталіся. Казалі, што ўвечары на ўскрайку мястэчка бачылі незнаёмцаў у вайсковых мундзірах. Французскіх, — дзядзька абвёў позіркам поле, па якім павольна рухаліся мерцвякі. — Некалькі дзён таму я загадаў выставіць на мурах вартаўнікоў. І вось сёння яны пабачылі гэта.

— Што за поскудзь, — злосна выпаліў Міхал, — мала нам было разбораў, вайны, заняпаду, дый яшчэ гэтая навала дадалася. Бедны наш край.

— Край бедны, але сыны яго моцныя, — стары граф паклаў руку на плячо Міхала. — Мы адужаем.

***

Пэўны час Агінскія працягвалі назіраць з вежы за

перамяшчэннем французаў па полі. Дзядзька паспеў колькі разоў накіраваць сваю стрэльбу ў бок мерцвякоў. Адзін раз ён нават пацэліў. Куля, чмякнуўшы, увайшла ў бок жаўнера, але той амаль не адчуў удару. Трохі пахіснуўся і пайшоў далей грэбсці ботамі бруд. Увогуле памерлыя французы амаль не звярталі ўвагі на тое, што адбывалася вакол іх. Прынамсі, так здавалася на першы погляд.

— Коннік! На дарозе коннік! — даляцеў вокліч з замкавай брамы.

— Хадзем, — страпянуўся стары граф. — Паглядзім, што здарылася.

Дзядзька з пляменнікам і служкам жвава выбраліся з вежы. Перад брамаю і над ёй сабраліся дваровыя. Адзін з мужчынаў, што быў зверху, махаў рукамі і крычаў: — Сюды! Едзь хутчэй сюды!

— Ды што там такое? — дзядзька перадаў сваю стрэльбу аднаму са слуг і па драбіне залез на надбрамную пляцоўку. Міхал паспяшаўся за ім.

Вялейскім гасцінцам ад лесу спакойна ехаў вершнік. Агінскі, які прыхапіў з сабой падзорную трубу, заўважыў на полі за дарогай некалькі цёмных фігур — мёртвыя жаўнеры цяпер былі паўсюль. Коннік не звяртаў на іх увагі. Не чуў ён і вокрыкаў з замка.

— Эгэй! На кані, — крыкнуў слуга. Гэтым разам вершнік, здаецца, пачуў, што да яго звяртаюцца. Ён прыпыніўся, развярнуўся да замка і падняў руку ў прывітальным жэсце.

У гэты момант фігуры на полі заварушыліся. Міхал не

чакаў ад мёртвых такога спрыту. Французы, а было іх пяцёра, адзін за адным, нібы на загад, сарваліся з месцаў і пабеглі ў бок конніка.

— Сцеражыся, — закрычаў Міхал, але было ўжо позна.

Першы з пяцёркі мерцвякоў накінуўся на вершніка ззаду. Спуджаны конь брыкнуўся і нават збіў француза з ног, але тут наляцелі астатнія. Вершнік не паспеў агледзецца, як рукі мерцвякоў учапіліся ў вопратку і пачалі выцягваць чалавека з сядла. Французы імкліва накінуліся на зрынутага долу конніка. Ашалелы конь, адчуўшы палёгку, уздыбіўся і паскакаў прэч ад гаспадара. Але шлях яго быў не доўгі — з боку лесу паказалася новая група мёртвых жаўнераў. Яны кінуліся напярэймы каню. Мерцвякі з поля каля замка таксама ўчулі здабычу. Конь на ўсім скаку ўляцеў у натоўп пачвар. Ён пратрымаўся даўжэй за гаспадара. Конь брыкаўся, выварочваўся, біў галавой. Некаторыя мерцвякі, атрымаўшы ўдар капытом, ужо больш не падымаліся. Але французаў было шмат. Праз хвіліну ўсё было скончана. Мерцвякі паваліілі каня і пачалі жэрці яго проста на зямлі.

Дзядзька, які ўвесь гэты час спрабаваў набіць стрэльбу і хоць неяк дапамагчы вершніку, паглядзеў на поле і вылаяўся.

— Чэрці, — рыкнуў гаспадар. — Вы бачылі, наколькі яны небяспечныя, — звярнуўся ён да людзей у дворыку. — Нам як мага хутчэй трэба зрабіць усё, каб гэтая поскудзь не змагла на нас напасці.

Стары граф з дапамогай Міхала спусціўся з брамы.

Мужчыны абступілі яго.

— Па-першае, — пачаў гаспадар, — трэба праверыць усе выхады з замка — яны павінны быць зачыненыя. Потым паглядзець, ці няма ў мурах шчылін, праз якія можа пралезці чалавек. Калі ёсць, закласці іх. Па-другое, браце, з гэтага моманту кожны з вас павінен мець пры сабе зброю, — Міхала здзівіў такі паварот падзей: няўжо ў дзядзькі хопіць стрэльбаў на ўсіх слуг? — І па-трэцяе, з сённяшняга дня заводзіцца бесперапынны нагляд за перамяшчэннем пачвараў. Першым на варту заступае Казімір, астатнія могуць ісці.

Мужчыны разышліся. Разам з Агінскімі застаўся стаяць адзін слуга: высокі хударлявы хлопец з чырвонай рыскай шнару на правай шчацэ.

— Казік, схадзі адчыні схованку, там выбераш сабе стрэльбу на свой густ, — дзядзька пачакаў, пакуль слуга адыдзецца, і павярнуўся да пляменніка. У вачах старога графа блішчэў агеньчык маладжавай гарэзлівасці. На твары Міхала чыталася непаразуменне.

— Я не хацеў табе казаць пра гэта, але бачыць Бог, становішча такое, што таямніц між намі быць не павінна, — прамовіў дзядзька, гледзячы ў бок ад пляменніка. — Я даўно рыхтуюся да паўстання.

Міхал прамаўчаў. Дзядзька закінуў стрэльбу за плячо, узяў пляменніка за локаць і рашуча павёў у бок стайні.

— Ведаеш, Міхале, — пачаў граф, — у нас — у мяне і некаторых маіх сяброў — дык вось, у нас быў пэўны спадзеў на Напалеона. У тым, што ўдасца паўплываць на яго ў

пытанні адраджэння нашай дзяржавы. Дарэчы, ён быў тут у мяне, — Міхал акругліў вочы. — Так! Я меў размову з Імператарам Францыі. Але ведаеш, пасля той размовы я зразумеў, што Напалеон нам не памочнік. Ён быў занадта захоплены ідэяй усясветнага панавання, каб яшчэ рабіць ласку нейкім ліцвінам, — дзядзька хмыкнуў. — Натуральна, знайшліся і тыя, хто пайшоў за ім, але ты сам бачыш, чым усё скончылася, — граф махнуў рукой у бок поля, дзе мёртвыя жаўнеры даядалі небараку вершніка. — Мы вырашылі дзейнічаць самастойна. Гартаваць сілы і чакаць моманту, калі можна будзе іх выкарыстаць. Усе мае слугі, якіх ты бачыў, Міхале, усе яны са збяднелай шляхты і толькі дзеля прыліку прыслугоўваюць мне. Напраўду ж усе яны мае браты. Браты па зброі, браты па змаганні, браты па ідэі. А Шыдлоўскі, якога ты ведаеш з дзяцінства, — стары мой паплечнік ва ўсіх справах. У тым ліку і ў антыімперскіх, — дзядзька ўсміхнуўся. — Міхале, я спадзяюся, ты мяне зразумееш?

— Бог мой, дзядзька, чаму ты не сказаў раней? — Міхал распаліўся не на жарт. — Ты ж ведаеш, што Літва — не пусты гук для мяне.

— Шмат хто з маіх сяброў лічыць цябе здраднікам, — спакойна адзначыў стары граф.

— Так, няхай я і на імперскай пасадзе, але застаюся патрыётам сваёй Радзімы, — Міхал зменшыў запал. — Я нават прапанаваў Аляксандру ідэю адраджэння княства ў складзе Імперыі. Толькі вось праклятая вайна зблытала ўсе карты.

— Годзе, Міхале, годзе. Спачатку ў нас было пэўнае непаразуменне, але я бачу, што ты наш чалавек. Я веру табе, — дзядзька абняў пляменніка. — Хадзем — нешта пакажу.

Агінскія разам увайшлі ў стайню.

— Тут у мяне склад зброі, — сказаў гаспадар.

Дзядзька правёў Міхала за шэраг стойлаў углыб памяшкання. За купай сена ў падлозе знаходзіўся спуск у падзямелле. Казімір, які прыйшоў сюды раней, адцягнуў цяжкое вечка схованкі ўбок і цяпер распальваў ліхтар. Цьмяны праменьчык святла з цяжкасцю прадзіраўся скрозь паўзмрок стайні.

Гаспадар прыняў свяцільню з рук Казіка і першым пачаў спуск. Пляменнік рушыў следам. Падзямелле выявілася надзіва прасторным. Святло ліхтара выхоплівала з цемры шэрагі стрэльбаў, пастаўленых уздоўж сценаў. Шаблі, афіцэрскія шпагі і салдацкія цесакі грувасціліся ўперамешку проста на падлозе. Там-сям трапляліся паліцы, занятыя разнастайным вайсковым рыштункам: патранташамі, рамянямі, парахаўніцамі. У далёкім куце былі акуратна складзеныя бачуркі з порахам. Міхал не здзівіўся, калі пабачыў у схованцы невялікую гармату і горку ядраў да яе. Дзядзькавым арсеналам можна было ўзброіць цэлы полк паўстанцаў.

— Большую частку гэтага дабра ўдалося здабыць нядаўна, — стары граф абвёў наўкола рукой з ліхтаром. — Французы, калі адыходзілі, мала рупіліся пра ваенныя скарбы. Жаўнеры забралі ў мяне коней, а я забраў у іх

зброю, — злавесная ўсмешка сказіла твар дзядзькі.

Міхал падышоў да падстаўкі са стрэльбамі. Даўгія рулі ружжаў завяршаліся вузкімі металічнымі штыхамі. Побач да сцяны былі прычэплены пістолі. Агінскі зняў адну з іх і ўзважыў у руцэ. Драўлянае дзяржальна зручна змяшчалася ўдалоні і прыемна халадзіла скуру. Міхал мімаволі прыгадаў момант, калі апошні раз страляў у чалавека. У адным з баёў пад Варшавай на зыходзе паўстання ён з такой самай пістолі трапіў рускаму салдату ў плячо. Расейца адкінула назад за ўмацаванні, і больш Міхал яго не бачыў. Той салдат, хутчэй за ўсё, выжыў.

— Бяры, калі падабаецца, — дзядзькаў голас вырваў Міхала з успамінаў. — Не развучыўся яшчэ страляць?

— Не, — адгукнуўся пляменнік.

Гаспадар падыйшоў да суседняй шафы з вайсковым рыштункам. Пакорпаўшыся трохі сярод рэчаў, стары граф нарэшце дастаў патрэбны патранташ і кінуў Міхалу: — Здаецца гэты будзе для пістолі.

Агінскі спрытна злавіў тальмах і накінуў на плячо. Дзядзька, прыхапіўшы яшчэ некалькі торбаў з рыштунку, накіраваўся да выхаду. Ён выбраўся з падзямелля і развярнуўся, каб пасвяціць пляменніку на сходы. Праз колькі імгненняў Міхал быў ужо наверсе.

— А вось гэта, — гаспадар паказаў на крыты вазок, што стаяў у стайні ля сцяны, — мой апошні набытак. Цэлая фурманка з порахам з французскага абозу. Памятаеш, калі ты толькі прыехаў, я сварыўся на Ерамея за тое, што ён нібыта зерне мне перакуліў, — дзядзька падышоў да воза і

адкінуў полаг накрыўкі. — Напраўду ён зрынуў бонду з порахам, калі пераносіў яе адсюль у схованку.

— Вось яно што, — Міхал прыгадаў чорныя рукі конюха.

— Ну як табе, Міхале, мае запасы? — усміхнуўся дзядзька.

— Уражвае, — пляменнік заткнуў сваю пістолю за пас. — Шкада, што ў нас не так шмат людзей.

— Так, сапраўды, пачвараў нашмат болей. Але я спадзяюся, што муры майго замка змогуць нас абараніць, — дзядзька з задуменнем паглядзеў на двор скрозь расчыненыя дзверы. З вуліцы даносіўся стук малатка. Мужчыны закладвалі бярвеннем і дошкамі выяўленую ў сцяне шчыліну.

— А колькі гэта цяпер часу? — спахапіўся дзядзька. — Ці не пара нам абедаць? Хадзем, Міхале. Я загадаю, каб накрывалі малы стол — харчавацца будзем па чарзе.

Ля выхаду гаспадар спыніўся і павярнуўся да Казіміра, які падымаўся з падзямелля са стрэльбай у руцэ: — Казік, слухай, а падымі ты яшчэ з тузін ружжаў. Няхай на ўсялякі выпадак пастаяць набітыя пасярод двара. І на браму потым станьназіраць. Я скажу Кірэю, каб падмяніў цябе праз гадзіну.

Агінскія пакінулі стайню. Апынуўшыся ў палацы, Міхал накіраваўся да пакояў слуг: — Хачу паглядзець, як там Ерамей, — сказаў ён дзядзьку.

— Добра, — гаспадар пакрочыў да кухні.

У калідоры панавала цішыня. Усе мужчыны працавалі

на двары, а жанчыны займаліся гатаваннем у другім баку будынка. Міхал падышоў да конюхавага пакоя і лёгка пастукаў. Ніхто не адказаў. Агінскі асцярожна, каб не рыпнулі завесы, пасунуў дзверы і зазірнуў унутр. Адзінае акно ў пакойчыку было завешанае кавалкам тканіны. У цені пад акном стаяў ложак хворага. Міхал угледзеўся. Тое, што ён спачатку прыняў быў за постаць Ерамея, выявілася ўсяго толькі гурбай скамечанай бялізны. Конюха ў пакоі не было.

***

З дзённіка Міхала Клеафаса Агінскага: «Пасля таго, што адбылося, я разумею, наколькі наіўным быў яшчэ ўчора. Тое, што раней для мяне было немагчымым, мала того, недапушчальным, цяпер сталася нормай. Падумаць толькі, мне давялося страляць у жанчыну. Але аб усім па парадку.

Спачатку мяне не вельмі здзівіла тое, што Ерамей адсутнічаў у ложку. Дзядзька да гэтага казаў, што конюху стала лепей, і я падумаў, што хлопец проста захацеў прайсціся. Вядома, я памятаў, у якім дрэнным стане знаходзіўся Ерамей, калі я бачыў яго апошні раз. Наўрад ці ён мог так хутка ачуняць, але якіх дзіваў толькі не бывае ў свеце. Да таго ж, мая галава ў той момант была забітая зусім іншым. Мёртвыя французы не давалі спакою. Дый дзядзькавы словы аб падрыхтоўцы да паўстання былі навіной для мяне.

Я падняўся ў свой пакой, каб папрацаваць з дакументамі, але неўзабаве зразумеў, што не змагу гэтага

рабіць. Думкі мае запляталіся адна за адну, у душы панаваў хаос. Я адчуваў, як у глыбіні майго сэрца нараджаецца музыка. Я ўзяў чысты аркуш, абмакнуў пяро і пачаў пераносіць трывожныя гукі душы на паперу. Я страціў адчуванне часу. Так часта бывае, калі натхненне захоплівае мяне. Некалькі разоў мяне клікалі на абед, але я адмаўляўся. Нарэшце, калі сонца за акном пачало схіляцца да захаду, я адкінуў нотны запіс і спусціўся ўніз да стала.

У гасцёўні мяне сустрэў дзядзька. Ён спытаў, чаму я так доўга не прыходзіў, я адказаў яму, што быў заняты новай мелодыяй. Дзядзька з разуменнем паківаў галавой і запрасіў мяне прысесці. Ён расказаў, што ўсе мужчыны ўжо падсілкаваліся і цяпер нясуць па чарзе варту на мурах замка. Я падзяліўся з ім, як хадзіў да Ерамея і як не заспеў яго ў пакоі. Дзядзька моцна здзівіўся: — Ён не можа падымацца, з ім жа ўвесь час сядзіць Паліна. Я думаў, што і ў абед яна была з ім, бо да стала яна не прыходзіла.

Я адказаў яму, што нікога ў пакоі конюха не бачыў. Першыя парасткі хвалявання прараслі ў маёй душы.

— Калі Паліна ўвесь час назірала за Ерамеем, то, можа, яна проста адышла разам з ім, — паспрабаваў я знайсці зачэпку.

— Выключана, Ерамей хоць і быў удзень лепшы, чымся ўночы, але ён кубка вады падняць самастойна не мог, не тое што хадзіць, — дзядзька расхваляваўся не на жарт. — З імі напэўна здарылася нешта дрэннае.

Стары граф падняўся і выйшаў на двор паклікаць кагосьці са слуг (не магу пазбавіцца ад звычкі называць

дзядзькавых сяброў-інсургентаў слугамі). Вярнуўся ён з Казімірам. Абодва былі са стрэльбамі, Казік у дадатак трымаў у руках запалены ліхтар.

— Міхале, табе лепей набіць сваю пістолю. Ці мала хто мог пралезці да нас праз муры.

Я пакінуў зброю ў сваім пакоі, і таму мы спачатку зазірнулі туды. Потым спусціліся на першы паверх і прайшлі да слугавых апартаментаў. Я спадзяваўся, што Ерамей ужо вярнуўся, куды б ён ні адыходзіў, і адпачывае, але пакой быў такім жа пустым, як і папярэдні раз, калі я быў тут. Ясінскі (такое было прозвішча Казіміра) з ліхтаром падышоў да ложка. Завешанае акно прапускала мала святла, да таго ж на дварэ імкліва цямнела. Казік нешта разгледзеў і паклікаў нас падысці бліжэй.

— Паглядзіце, тут кроў, — ён нахіліўся над бялізнай.

Сапраўды, на тканіне былі бачныя чырвоныя плямы засохлай крыві. Я паглядзеў на падлогу ля ложка і заўважыў свежыя цёмныя кроплі на дошках. Я сказаў пра гэта ўслых. Казімір пасвяціў ліхтаром і нам стала бачна, што след з крывавых кропель вядзе з пакоя.

— Што б гэта ні было, яно выцягнула Ярому прэч, — са скрухай канстатаваў дзядзька.

— Разам з Палінай, — Ясінскі падняў з-пад ложка малітоўнік, з якога пакаёўка чытала каля хворага. Вокладка кнігі была выпацкана чырвоным.

Мы выйшлі на двор. Да дзядзькі падышоў Шыдлоўскі.

— Пане, гаспадар, — пачаў кашталян, — хлопцы кажуць, што мерцвякоў на полі паболела і яны сталі нейкія

неспакойныя.

— Зразумела, — адрэзаў дзядзька. — Скажы ўсім хлопцам, і тым, хто адпачывае, таксама, каб былі напагатове — пачвара ў замку, — стары Юзаф вохнуў. — Зніклі Ерамей і Паліна. Толькі дзеўкам пра тое не кажы. Мне не патрэбныя бабскія енкі.

Шыдлоўскі адказаў, што зробіць усё як трэба. Дзядзька працягваў: — Мы з Міхалам і Казікам абыдзем усе памяшканні. Можа, удасца знайсці нейкія сляды. Калі пачуеце стрэлы, то заставайцеся на месцах, я думаю, мы самі дамо рады, — дзядзька баявіта падняў стрэльбу.

Мы рушылі ў абход. Дзядзька прапанаваў вярнуцца да конюхавага пакоя, але спярша агледзець увесь палац. Мы прайшлі па другім паверсе, затым спусціліся ў кухню. Жанчыны, якія гатавалі там вячэру, спалохана пазіралі на нашу зброю і перашэптваліся. Дзядзька не стаў ім нічога тлумачыць. Скора мы стаялі ля дзвярэй у пакой Ерамея. Казімір асвятліў падлогу ў калідоры, і мы зноў пабачылі кроплі крыві на дошках. След вёў да задніх дзвярэй у двор. Мы выйшлі з палаца. Я агледзеўся. У дваровым брудзе нельга было разабраць ніякіх слядоў. Злева ад выхаду быў склеп з запасамі, але на дубовых дзвярах вісеў замок. Справа — загон для жывёлы. Дзверы ў хлеў былі прыадчыненыя. Дзядзька моўчкі паказаў на іх рукой. Ясінскі кіўнуў і пайшоў першым, выставіўшы ліхтар перад сабой. Дзядзька ўскінуў стрэльбу і пайшоў следам. Я з паднятай пісталяй зайшоў апошнім. У хляве было цёмна і сыра. Застаялы жывёльны пах біў у ноздры.

— Ёсць тут хто? — не вытрымаўшы, спытаў Казімір.

Адказам яму было рохканне парсюка ў найбліжэйшым загоне. Ясінскі прайшоў да канца хлява і павярнуўся назад: — Нікога.

Як толькі ён вымавіў гэтае слова, з-за ягонае спіны раздаўся аглушальны віск.

Я ажно падскочыў. Шалёнае екатанне рэзала вуха і наганяла жах. Я накіраваў пістолю ў бок загона, адкуль даносіўся гэты жудасны зык.

— А бадай цябе, — я пабачыў, што дзядзька з усмешкай пазірае на мяне. — Свіней сёння ўвогуле кармілі? — парсюк, пачуўшы голас гаспадара, заверашчаў яшчэ мацней. — Хадзем адсюль.

Я зразумеў, што схібіў, і апусціў зброю. Мы выйшлі на двор. Ад хлява ішлі дзве дарожкі, адна да стайні, другая да аранжарэі. Ясінскі абраў другую.

За ўвесь час, які я правёў у замку, я не раз наведваў гэтую дзіўную пабудову са шкла і металу. Сапраўдны цуд прагрэсу. Аранжарэя хоць і каштавала дзядзьку вялікіх грошай, але прыносіла добры прыбытак. У лепшыя гады гаспадар вырошчваў тут ананасы з далёкай Амерыкі і прадаваў іх у Вільню. Цяпер жа ў памяшканні гадавалі больш простыя расліны.

Мы наблізіліся да шкляной сценкі і падышлі да ўваходу. Пад ботам Казіміра нешта хруснула. Я пабачыў, што на парозе аранжарэі поўна аскепкаў, а ў дзвярной раме не стае некалькіх шыбінак. Мы насцярожыліся. Ясінскі павольна адчыніў створкі і зайшоў унутр. Я і дзядзька са

зброяй напагатове рушылі следам. У аранжарэі было цёпла, за сонечны дзень паветра пад шкляным купалам паспела добра прагрэцца. Мне нават стала спякотна ў маім зімовым паліто.

Мы павольна пасоўваліся ў глыбіню аранжарэі, праходзячы паміж стэлажамі з зялянінай. Я паглядзеў угору, туды, дзе паўкругам сыходзіліся металічныя рэбры пабудовы. Скрозь шкло праглядала цёмнае вечаровае неба, падсвечанае апошнімі промнямі сонца. У мяне склалася ўражанне, што я знаходжуся ўнутры шкілета нейкай дагістарычнай жывёлы.

— Справа, — раздаўся побач спалоханы голас дзядзькі. Я спахапіўся і азірнуўся. Краем вока паспеў зачапіць нейкі цень, што прашмыгнуў у праходзе правей ад нас.

Казімір нервова вадзіў ліхтаром з боку ў бок, выхопліваючы з цемры толькі зялёныя лісты раслін.

— Міхал, паглядзі, што там, — прашаптаў дзядзька і накіраваў рулю сваёй стрэльбы ў бок, дзе прамільгнуў цень.

Я выставіў пістолю перад сабой і пайшоў перад Ясінскім. Я стараўся ступаць вельмі асцярожна і як мага цішэй дыхаць, але сэрца маё так грукатала, што яго, здавалася, было чуваць нават у замкавым палацы. Дайшоўшы да крайняга стэлажа, я зазірнуў у суседні праход. Там нехта быў. Мае вочы прызвычаіліся да цемры, і я здолеў разгледзець нерухомае цела, што ляжала пасярод калідора, утворанага раслінамі. Я азірнуўся і жэстам паклікаў дзядзьку з Казікам да сябе. Падышоўшы, Казімір

накіраваў святло ліхтара ў праход. На зямлі ў лужыне ўласнай крыві ляжала жанчына. Уся верхняя частка тулава яе была моцна пакусаная. На шыі і плячах выгрызеныя цэлыя шматкі мяса. Твар уяўляў з сябе кашу з плоці, валасоў і раструшчаных костак. Нягледзячы на гэта, мы пазналі ахвяру.

— Божа мой, Паліна, што з табой зрабілі, — са скрухай прамовіў дзядзька.

У гэты момант за нашымі спінамі пачуўся прыглушаны стогн. Ясінскі імгненна зрэагаваў і развярнуўся. Прамень ліхтара выхапіў з цемры шэрую фігуру.

— Ерамей? — здзіўлена прамовіў Казімір.

Конюх стаяў ля крайняга стэлажа і глядзеў на нас, нахіліўшы галаву набок, як гэта робяць сабакі. Яго запэцканы крывёй рот раскрываўся і закрываўся, а з вуснаў звісала нітка чырвонай сліны. Здавалася, што Ерамей хоча нам нешта сказаць, але з ягонага горла выходзіў адно ледзь чутны хрып. Конюх працягнуў да нас свае акрываўленыя рукі і зрабіў крок наперад.

Першым са здранцвення выйшаў дзядзька. Ён падняў стрэльбу і накіраваў у грудзі Ерамея.

— Ярома, спыніся, калі ласка, — голас дзядзькі дрыжэў. — А то я буду страляць.

Конюх не спыняўся. Ён працягваў цяжка ступаць па зямлі, выцягнуўшы наперад рукі, нібыта хацеў заключыць нас усіх у абдоймы. Набітае свежым мясам пуза выпірала з-пад кашулі. Рот раскрываўся і закрываўся. Ерамей усё яшчэ хацеў есці. Я разумеў, што чалавекам ён ужо не быў.

Дзядзька ж усё ніяк не хацеў у гэта паверыць.

— Стой, дружа, спыніся, — у цьмяным святле ліхтара нічога немагчыма было разгледзець, але я ведаў, што па дзядзькавых шчаках каццца слёзы. Конюх не прыпыняўся.

Грукат стрэлу, шматкроць адбіўшыся ад шкляных сценак аранжарэі, моцна ўдарыў мне ў вушы. На імгненне я страціў здольнасць чуць. У поўнай цішыні я назіраў, як валіцца на зямлю цела конюха. Куля ўдарыла яго ў ключыцу і развярнула ў паветры.

Паваліўшыся, Ерамей не супакоіўся. Ён пачаў грэбсці рукамі і нагамі па зямлі. Было зразумела, што конюх спрабуе падняцца. Слых паступова вяртаўся да мяне, і я пачуў загад дзядзькі: — Хлопцы, дабіце яго. Хто-небудзь, я не магу… — дзядзька ўзяўся перанабіваць стрэльбу, шомпал дрыжэў у ягоных руках.

Казімір адрэагаваў раней, чым я. Ён сунуў мне свой ліхтар, узяўся абедзвюма рукамі за ружжо і асцярожна наблізіўся да конюха. Накіраваў стрэльбу долу, так што руля апынулася насупраць конюхавай галавы. Грымнуў стрэл. Конюх апошні раз здрыгануўся і заціх назаўжды. Я быў падрыхтаваны, і каб зноў не аглухнуць, стаяў разявіўшы рот. Так рабілі імперскія гарматнікі, калі палілі з карцечніцаў па паўстанцах пад Вільняй.

Казімір нахіліўся, каб стрэсці з ботаў аскепкі конюхавага чэрапа. Дзядзька закінуў свінцовы шарык у рулю сваёй стрэльбы. Я азірнуўся назад, туды, дзе ляжала цела пакаёўкі.

Паліна стаяла на нагах. Ейны знявечаны твар быў

павернуты ў мой бок. Налітае крывёй вока — адзінае, што захавалася цэлым — не мігаючы глядзела на мяне. Жах пусціў кіпцюры мне ў душу і прымусіў дзейнічаць. Усё адбывалася, нібыта ў сне. Мая рука, тая, што сціскала пістолю, паднялася ўгору. Далонь накіравала рулю проста ў галаву мярцвячкі. Палец пацягнуў спускавую дужку. Цыркнуў крэмень і праз імгненне галава мёртвай пакаёўкі выбухнула, нібы пераспелы кавун. Абезгалоўленае цела мехам грымнулася на зямлю.

Гэты момант расцягнуўся для мяне ў вечнасць. Я назіраў, як павольна лятуць у паветры часцінкі Палінінага мозгу, як уздымаюцца ўгору бязвольныя рукі і падкошваюцца ногі пакаёўкі. Краем вока я бачыў, як павольна азіраецца дзядзька, як разварочваецца Казімір, як паступова мяняюцца выразы іх твараў. Я чуў кожны ўдар свайго сэрца, нібы бой гадзінніка, павольны і разважны. Я адчуваў, як смурод спаленага пораху ад майго стрэлу разлятаецца па памяшканні.

Час аднавіў для мяне свой нармальны ход тады, калі да майго слыху дайшлі першыя дзядзькавы словы: — І ты, Паліна… — стары граф запнуўся. — Значыць, укусы мерцвякоў заразныя, і пасля сам становішся такім жа.

Раптам змоўклі ўсе гукі. Усталявалася цішыня. Пасля стрэлаў і грукату, што яшчэ нядаўна скалыналі сцены аранжарэі, бязгучча падавалася абсалютным. Сонца даўно зайшло, і на дварэ запанаваў змрок. Святло даваў толькі ліхтар, які я працягваў трымаць у левай руцэ. Жоўты праменьчык выхопліваў з цемры абрысы знявечанага цела

пакаёўкі і рэбры стэлажоў з зелянінай паабапал яе. Пасля забойства — а я ўспрымаў свае дзеянні менавіта так — думкі ў маёй галаве не адразу змаглі вярнуцца да свайго звычайнага стану. Паступова да мяне дайшло тое, што сказаў дзядзька.

— Божухна, што ж тады адбываецца ў кляштары? — страшная думка абпаліла мой розум.

— Што, Міхале? Што ты сказаў? — дзядзька яшчэ не да канца адышоў ад гучных стрэлаў.

— Там цэлы шпіталь параненых. Калі ўсе яны ператворацца ў гэта, то… — мяне жахнуў вусцішны лёс, які чакаў манахаў. — …то ўсе загінуць, усе, хто там быў.

Мяне ахапіла прага дзеянняў. Я не мог стаяць на месцы. Я ўзяўся ліхаманкава перанабіваць пісталю. Ліхтар выпаў з маіх рук на зямлю, але не згас.

— Я павінен ехаць. Я павінен папярэдзіць іх, — амаль крычаў я.

— Пачакай, як ты паедзеш, на дварэ ўжо ноч, — дзядзька хутка ўцяміў, пра што я кажу і што хачу зрабіць. — Міхале, ты нічым ім ужо не паможаш.

Нават тады, апантаны, я разумеў, што ён мае рацыю.

Разумею і цяпер, калі пішу гэтыя словы. Тады дзядзьку ўдалося затрымаць мяне, але я ўсё роўна адчуваю, што мусіў зрабіць усё магчымае, каб дапамагчы тым выжылым, хто яшчэ мог заставацца ў кляштары. Я пастанавіў — і ні дзядзька, ні кашталян не спынілі б мяне, — што з раніцы, як толькі ўзыдзе сонца, паеду ў мястэчка. А цяпер я пастараюся заснуць.

P.S. Магчыма, гэта мой апошні запіс у дзённіку».

***

Міхал Клеафас Агінскі доўга не мог заснуць. Некалькі гадзін ён проста ляжаў у ложку з расплюшчанымі вачыма і глядзеў у столь. Перад ягоным унутраным зрокам стаяў вобраз мёртвай пакаёўкі: пагрызены твар, акрываўленае адзенне, вытарашчанае вока. Міхал усё намагаўся прыгадаць, якой Паліна была пры жыцці, але ў яго нічога не выходзіла. У ягоным запаленым розуме крывавым адбіткам замацавалася постаць пакаёўкі ў момант стрэлу. Ранейшыя ўспаміны былі выкрасленыя.

Перш чым пайсці ў свой пакой, Міхал папрысутнічаў пры спаленні нябожчыкаў у замкавым дворыку. Пасля стрэлаў у аранжарэю, нягледзячы на дзядзькаў загад, прыбеглі ўсе не занятыя вартаваннем мужчыны. Дзядзька не стаў іх за гэта дакараць. Ён сабраў хлопцаў вакол забітых мерцвякоў і расказаў, як усё было.

— Браты, не дапускайце, каб пачвара вас укусіла, — навучаў ён. — Ейная сліна — гэта атрута, якая з часам ператворыць вас у такую ж пачвару. Ні я і ніхто іншы не павінны праяўляць літасці да ўкушанага, — жорстка рэзаў дзядзька. — Кожны ўкушаны — гэта вораг у нашым доме, і ён павінен быць забіты. — Мужчыны сурова пазіралі адзін на аднаго, у іх вачах чыталася неразуменне і страх. — Перадайце мае словы вартавым. Так, гэта цяжка ўсвядоміць, але мы павінныя больш не дапусціць такога, — гаспадар

паказаў на раструшчаную куляй патыліцу конюха.

Пасля прамовы дзядзька загадаў раскласці на двары вогнішча і спаліць застрэленых мерцвякоў. Мужчыны асцярожна, каб не запэцкацца крывёй, выцягнулі целы з аранжарэі. Казімір разам з сябрамі нацягалі палення з дрывотні. У няясным святле паходняў Міхал назіраў, як на бярвенне кладуць нябожчыкаў: спачатку мужчыну, потым жанчыну. Гэта нагадала яму варажскі пахавальны абрад.

Першым да складзеных дроваў падышоў дзядзька. З хвіліну ён стаяў нерухома. Затым апусціў сваю паходню і ўзяўся падпальваць палены з розных бакоў. Полымя паступова разгарэлася і ўзнялося высока, паглынуўшы ў сваё жоўтае чэрава дзве знявечаныя фігуры. Агінскі стаяў блізка і мог бачыць, як агонь знішчае чалавечыя целы. Ён назіраў, як чарнее і згарае адзенне, як лупіцца і злазіць скура, як тапырыцца плоць. Гэтае відовішча ўразіла і захапіла яго. І цяпер, лежачы ў ложку, ён уяўляў, як і яго паглынае агонь.

***

Неўзабаве графа адолеў сон, праўда, назваць яго салодкім было нельга. Агінскаму нячаста сніліся жахі, ён увогуле рэдка запамінаў сны, але гэтым разам пабачанае моцна ўелася ў памяць. Міхал уяўляў сябе ў калідоры драўлянай сядзібы ў Залессі, той самай, што, са словаў дзядзькі, згарэла дашчэнту. Ён ішоў у бок гасцёўні, адкуль даносілася музыка. Міхала апанавала загадкавае пачуццё, ён адначасова пазнаваў і не пазнаваў гэтае месца. Знаёмыя

партрэты на сценах праз момант ператвараліся ў невядомыя карціны. Шпалеры, да якіх ён прызвычаіўся за гады жыцця тут, мянялі свой колер, пакрываліся бруднымі плямамі, а затым зноў вярталіся да звыклага выгляду. Падлога, на якой Міхал, здавалася, памятаў усе рыпучыя дошчачкі, выдавала скрыгат у нечаканым месцы. І сама музыка, што лілася з адчыненых дзвярэй гасцёўні, падавалася графу нечым знаёмай, часам ён улоўліваў чутыя раней мелодыі, некаторыя з іх былі аўтарства самога Агінскага. Часам гукі рабіліся зусім чужымі і нават непрыемнымі, дысананс рэзаў слых кампазітара.

Міхал павольна пасоўваўся калідорам, які быў чамусьці даўжэйшы, чым звычайна. Нарэшце граф спыніўся ля ўваходу у гасцёўню. Гэтае памяшканне таксама ўспрымалася дваяка. Абрысы вокнаў, мэбля, жырандоля — усё, здавалася, знаходзілася на сваіх месцах, але пры гэтым выглядала незнаёмым і чужым. У цэнтры пакоя стаяла фартэпіяна. За клавішамі спінаю да Міхала сядзела дзяўчынка. Амелія, пазнаў Агінскі. Ён асабіста даваў дачцэ першыя ўрокі ігры на фартэпіяна і нават прывёз з Парыжа італьянскага кампазітара Джузэпэ Паліяні ў якасці настаўніка музыкі для таленавітай дзяўчынкі. Амелія сядзела нерухома, але інструмент перад ёй працягваў граць музыку сам. Агінскі павольна пайшоў да дачкі. Калі да фартэпіяна заставалася некалькі крокаў, мелодыя раптоўна сціхла. Міхал спыніўся і мімаволі агледзеўся навокал. Гасцёўня знікла, граф апынуўся пад хмарным шэрым небам сярод засыпаных снегам абпаленых бярвёнаў. Такую ж

карціну ён бачыў у знішчаным Маладэчне. Тым не менш, і фартэпіяна, і дачка ўсё яшчэ знаходзіліся за пару крокаў ад Міхала. Ён працягнуў руку, каб дакрануцца да пляча дзяўчынкі, але тут жа застыў. Тая перад графам імкліва змянялася, светлая сукенка пакрывалася чорнымі плямамі сажы і барвовымі разводамі, прычасаныя валасы змяніліся неахайнымі пасмамі. Белыя выпешчаныя рукі дзяўчынкі ператварыліся ў ссінелыя крывыя граблі. Амелія пачала сама разварочвацца ў бок бацькі. Міхал з жахам адступіў ад яе на некалькі крокаў. З-пад растрапаных валасоў на графа ўтаропілася пара нежывых шкляных вачэй. Дзяўчынка ўсміхалася і з яе жоўтых крывых зубоў сцякала на сукенку чорная жыжка.

Агінскі страсянуўся і падняўся на ложку.

— Гэтага не будзе! — нечакана вырвалася ў яго.

Міхал ўстаў, накінуў паліто, запаліў свяцільню і выйшаў з пакоя. Ён накіраваўся да дзядзькавай схованкі, каб выбраць сабе зброю для ранішняй выправы ў горад. На дварэ было холадна. Начны мароз моцна прыхапіў дваровы бруд. Тонкія коркі лёду на шматлікіх лужынках гучна хрусцелі пад ботамі графа. Міхал заўважыў на замкавых сценах агні ліхтароў. Ён некалькі разоў прыклаў далонь да сваёй свяцільні, падаючы такім чынам прывітальны сігнал вартавым. Агеньчыкі лыпалі ў адказ. Усміхнуўшыся, Агінскі зайшоў у стайню. У цемры ён дабраўся да спуску і высвеціў праход уніз. Схованка была адчыненая, частка зброі вынесеная вонкі. Міхал узяўся спускацца ўніз.

Ён прайшоў міма даўгіх шэрагаў са стрэльбамі і

спыніўся ля шафы з рыштункам. Тут Агінскі выбраў сабе шырокі армейскі пас, торбу з патронамі для пістолі і тальмах з афіцэрскай шпагай. Начапіўшы рыштунак на сябе, Міхал выцягнуў шпагу з ножнаў. Смяротная сталь была вельмі лёгкай, амаль бязважкай. Эфес зручна клаўся ў далонь, а клінок здаваўся працягам рукі. Кароткімі ўзмахамі Агінскі некалькі разоў рассёк перад сабой паветра.

— Вазьміце лепш гэта, — азваўся з-за спіны знаёмы голас.

Міхал азірнуўся. Каля лесвіцы стаяў Казімір. Ён працягваў Агінскаму цяжкі салдацкі цясак: — Мерцвяка трэба секчы, і секчы моцна. Гэтая цацка, — Ясінскі паказаў рукой на шпагу, — хутчэй для парадаў. Ад яе раны лёгкія, як драпіны. Мярцвяк іх нават не адчуе. А вось гэта ён адчуе, — хлопец са свістам секануў цесаком.

Агінскі адклаў убок шпагу і ўзяўся за прапанаваны цясак. Заточаная паласа металу цьмяна блішчэла ў святле ліхтара. Салдацкі цясак быў значна цяжэйшы за афіцэрскую шпагу, але гэта быў прыемны цяжар. Міхал адчуваў моц і сілу зброі, якую трымаў у руцэ. Ён прыняў ад Казіміра ножны і начапіў іх на свой тальмах замест старых. Затым ён падышоў да скрыні з пістолямі, дзе прыхапіў сабе яшчэ адзін самастрэл.

— Я бачыў з мура, як вы ідзяце да складу, — сказаў Ясінскі, — і вырашыў дапамагчы вам са зброяй.

— Дзякуй, — прамовіў Міхал. Ён накіраваўся да выхаду з падзямелля. — Дапаможаш мне яшчэ запрэгчы Бакаса, калі развіднеецца?

— Так, — кіўнуў Казімір.

Яны выбраліся са схованкі і накіраваліся да замкавага палаца. Міхал увайшоў у гасцёўню, дзе першым чынам запаліў ад свайго ліхтара свечкі на абедным стале. Ён усеўся каля падсвечніка і, паклаўшы перад сабой патранташ з пісталямі, пачаў іх набіваць. Ясінскі прысеў побач. Нейкі час мужчыны маўчалі.

— Я быў яшчэ дзіцем, калі пачалося паўстанне, — парушыў цішыню Казімір. — Мой бацька — Баляслаў — загінуў у адной з першых бітваў паўстання. Тады я застаўся адзін. Маці мая памерла, калі мне было тры гады. Бацькавы сябры клапаціліся пра мяне гэтак жа, як і пра ўласных дзяцей, але і яны пасля паразы вымушаныя былі мяне пакінуць. Мяне і некаторых іншых сірот прыняў у сваім замку ваш дзядзька. Ён вельмі добры чалавек. Ён даў нам адукацыю і выхаваў у любові да Радзімы, — у вачах Ясінскага застылі слёзы. — Ерамей быў мне як брат, мы ўсе тут былі братамі. Мне вельмі цяжка ад таго, што мне давялося сёння зрабіць. — Некалькі імгненняў Казімір маўчаў. — Вішнева. Мой бацька загінуў пад Вішневам, — працягнуў ён.

Міхал мімаволі страпянуўся. Менавіта ён кіраваў тым аддзелам паўстанцаў, які трапіў пад нечаканы ўдар імперскіх казакоў у полі пад Вішневам. Тады палегла шмат адданых сыноў Бацькаўшчыны. Сярод памерлых мог апынуцца і сам Агінскі: кулі двойчы прашылі ягоны капялюш, але граф ацалеў.

— Я ведаю, вы былі там, — сказаў Ясінскі. — Некаторыя

вінавацілі вас у той паразе, і хацелі, каб я таксама ўсклаў віну за ўсе мае страты на вас. Але я не стаў гэтага рабіць. І не толькі таму, што ваш дзядзька быў ласкавы да мяне. Проста я чуў пра вас шмат станоўчага. Я бачыў і бачу, што ўсё гэта праўда. Вы мужны і самаадданы чалавек. І ваш сённяшні ўчынак — доказ гэтаму. Я хачу пажадаць вам удачы ад усяго сэрца.

— Дзякуй, Казік, — Міхал расчуліўся. — Сонца падымаецца. Пойдзем рыхтаваць Бакаса.

Мужчыны выйшлі ў двор. За ўсходняй сцяной замка пачынала чырванець неба. Надыходзіў новы дзень. Міхал з Казімірам пайшлі ў стайню і пабудзілі Бакаса. Ясінскі дапамог Агінскаму забрацца на каня і праводзіў вершніка да замкавай брамы. З муроў іх прывіталі вартавыя.

— Ці ёсць пад замкам французы? — запытаўся ў хлапцоў Міхал.

— Няма, — адгукнуўся нехта з вышыні. — Але ў полі іх шмат.

— Прарвуся, — сказаў Агінскі хутчэй самому сабе, чым вартавому.

Казімір адчыніў цяжкую створку і адпусціў аброць. Міхал выехаў з замка. За спінай рыпнулі завесы, пакінуўшы Агінскага сам-насам з перадсвітальнаю цішынёй. Граф пастаяў імгненне, узіраючыся ў наваколле. Дарога перад ім была пустая, але ў смузе, што сцялілася над палямі, віднеліся змазаныя сілуэты хадзячых мерцвякоў. Міхал, узяўшы ў правую руку пістолю, пусціў каня наперад. Хлопцы на браме выставілі свае стрэльбы і суправаджалі

рулямі перамяшчэнне Агінскага аж да вялейскага гасцінца, гатовыя кожную хвілю адкрыць агонь па мерцвяках, якія б падабраліся занадта блізка да вершніка. Але французы мала рэагавалі на графа. Пасля ночы іхныя рухі былі соннымі, а перамяшчэнне — павольным. Міхал здагадаўся, што гэта мароз такім чынам уплывае на мёртвую плоць. Зразумеў ён і тое, што як толькі надыдзе дзённая цеплыня, да французаў вернецца іх неймаверная жвавасць. Міхал вырашыў паскорыць каня.

Зямля прамерзла з ночы, таму конь ішоў шпарка. Неўзабаве паабапал дарогі паказаліся першыя спаленыя хаты мястэчка. У сэрцы Міхала яшчэ быў жывы спадзеў на тое, што ўсё абышлося: манахі самастойна выявілі пагрозу і выратавалі людзей у кляштары. Але чым далей Агінскі ўязджаў у Маладэчна, тым меней ён верыў у станоўчы зыход справы. Мёртвае мястэчка наводзіла на графа смутак і аднаўляла боль, на які ён хацеў бы забыцца.

Неўзабаве з ранішняй імгі паказаўся кляштар — каменны будынак адзінокаю выспай узвышаўся над разбураным паселішчам. Міхал пад’ехаў да брамы, спыніў каня і агледзеўся. Недалёка два французы корпаліся на папялішчы спаленай хаты. Сонца блішчэла прамянямі ў алавяных гузіках іх вайсковых мундзіраў. На шчасце, мерцвякі пакуль не звярталі на Агінскага ўвагі. Міхал спусціўся на зямлю, наблізіўся да дзвярэй і пацягнуў за дужку. Дзверы былі замкнёныя. Міхал асцярожна пастукаў. Ён хацеў гучна гукнуць каго-небудзь, але баяўся звярнуць увагу французаў. Надзея зноў абудзілася ў душы Агінскага.

Значыць, звонку ніхто з мёртвых у кляштар не пранікаў.

Раптам да Міхалава вуха даляцеў гук удару дрэва аб дрэва, нібы пляскае аконная рама. Агінскі азірнуўся. Гук ішоў з боку ўсходняй сцяны камяніцы, на які выходзілі вокны келляў. Міхал прыслухаўся. Удар паўтарыўся. Узняўшы пістолю, Агінскі накіраваўся да рогу кляштара. Бакас ціха чмыхнуў, калі гаспадар адышоў ад яго на крок. Граф азірнуўся і пагладзіў каня свабоднай рукой па храпе.

— Ціха, Бакас, я хутка, — прашаптаў Міхал.

Адышоўшы ад дзвярэй, ён зазірнуў за рог. Усе вокны першага паверха былі забраныя ў аканіцы. Акрамя аднаго. Міхал заўважыў, як у самым канцы мура гайдаецца, нібы на вятры, драўляная рама. Толькі вось ніякага ветру на двары не было. Сэрца графа шалёна закалацілася, ён выцягнуў перад сабою пістолю і накіраваўся да акна. Пакуль Міхал асцярожна набліжаўся, аканіца колькі разоў гучна ўдарылася аб сцяну. Падышоўшы бліжэй, Агінскі пачуў яшчэ некалькі гукаў, акрамя рыпу завесаў і ўдараў. Прыдушаны стогн і прыціхлы рыкат. За акном нехта быў. Міхал сціснуў пістолю дзвюма рукамі і зрабіў вялікі крок убок, каб стаць насупраць аконнага праёму. Тое, што ён пабачыў, канчаткова разбурыла ўсе ягоныя надзеі.

У вузкім прамежку паміж прутамі чыгунных кратаў захрас чалавек. Ратуючыся ад смерці, мужчына вырашыў пакінуць кляштар праз акно, але не змог праціснуцца скрозь краты. Ён затрымаўся, прасунуўшы вонкі толькі правую руку, галаву і частку цела. Затым яго напаткала смерць і жудаснае пасмерце. Міхал бачыў перад сабой такога ж

самага мерцвяка, як і паўсталыя французы з палёў бітвы. Чырвоныя вочы, разяўленая зяпа, шэрая зямлістая скура. Мярцвяк сутаргава біў паветра рукой, час ад часу трапляючы па аканіцы. У цемры за спінай нябожчыка Агінскі змог разгледзець сілуэты іншых пачвараў, што сцягнуліся да сонечнага святла, як матылі да ліхтара. Калідор кляштара спрэс напаўнялі мерцвякі.

Нябожчык заўважыў Агінскага і зашыпеў. Кручкаватыя пальцы пацягнуліся да жывой плоці. З ненаеднай пашчы вырваўся працяглы стогн, які тут жа падхапілі глоткі ўнутры кляштара. Міхал мімаволі адступіў на крок. Ён цэліў у захраслага ў кратах мерцвяка, але не спяшаўся націскаць на спуск. Скажоныя смерцю рысы твару пачвары падаліся Агінскаму знаёмымі. Ён угледзеўся — перад ім быў той самы манах, які правёў графа ў кляштар мінулым разам. Граф апусціў зброю. Ягонае сэрца сцялася ад жалю і крыўды. Агінскі дакараў сябе за тое, што не змог нікога папярэдзіць і выратаваць. Уяўленне малявала яму страшныя карціны таго, што адбывалася ў кляштары ўночы.

Міхал развярнуўся, каб ісці да каня, і заўважыў цень збоку. З-за будынка на графа выбягаў французскі жаўнер. Агінскі адрэагаваў імгненна: ён узняў пістолю і амаль не цэлячыся разрадзіў яе ў мерцвяка. Грукат стрэлу скалануў мёртвую цішыню разбуранага мястэчка. Куля зваліла пачвару з ног. Лежачы на зямлі, мярцвяк сіпеў і сукаў нагамі. Міхал заткнуў пістолю за пас, дастаў з ножнаў цясак і зрабіў крок да падбітага француза. Патрывожаныя стрэлам пачвары з кляштара загыркалі глухімі галасамі.

«Скора тут будуць усе мерцвякі Маладэчна«, — падумаў Агінскі. Ён падышоў бліжэй да француза. Ад таго смярдзела тухлым мясам. У ноздры біў пах разлажэння. На твары пачвары захаваліся сляды нядаўняй трапезы: вусны, шчокі і нават шыя былі чорнымі ад засохлай крыві. Міхал стаў над жаўнерам, дзвюма рукамі ўзяўся за цясак і з усяе моцы апусціў яго на галаву нябожчыка. Чэрап мерцвяка з хрустам разламаўся на дзве паловы, выплюхнуўшы вонкі шэрую кашыцу мозгу.

Агінскі выцер клінок аб шынэль забітага і агледзеўся. З руінаў да кляштара набліжаліся мерцвякі. Пакуль іх было няшмат — з паўтузіна пачвараў, але Міхал здагадваўся, што гэта далёка не ўсе нябожчыкі наваколля.

— Трэба хутчэй адсюль сыходзіць, — сказаў граф сам сабе.

Раптам ад брамы пачулася конскае ржанне. Міхал кінуўся на гук. Забег за рог будынка і пабачыў, што да Бакаса з боку дарогі павольна падыходзіць пара мерцвякоў. Спуджаная жывёліна круцілася на месцы, нібыта вырашаючы, ці збегчы адсюль або чакаць гаспадара далей. Міхал не стаў прыпыняцца і з разбегу сакануў цесаком аднаго з жаўнераў. Удар адхапіў французу левую руку. Рязвярнуўшыся, Міхал пацэліў другому мерцвяку ў шыю. Цясак лёгка прайшоў скрозь цела і з хрустам ператнуў хрыбетнік. Галава мерцвяка павалілася на зямлю. Першы жаўнер цэлай рукой паспрабаваў учапіцца за паліто Агінскага, але Міхал ударам нагі паваліў яго ў гразь. Паставіўшы бот на спіну пачвары, граф шырока

замахнуўся, каб нанесці канчатковы ўдар. Цяжкі метал без перашкодаў увайшоў у мёртвую плоць.

Міхал стаяў над знішчанаю пачварай і цяжка дыхаў. Гэтая кароткая бойка далася яму цяжка. Граф даўно ўжо не быў тым маладым хлапцом, што змагаўся з імперскімі войскамі ў часы паўстання. Грукатала сэрца, гарэлі ад бегу лёгкія, свярбелі цяглiцы правай рукі — цясак хоць і надзвычай дзейсная зброя супраць мерцвякоў, але яго цяжар даваўся ў знакі. Нягледзячы на гэта, апантанае сэрца Агінскага прагнула працягу бітвы.

Міхал паглядзеў на два паскубаныя целы пад сваімі нагамі, глыбока ўздыхнуў і развярнуўся, каб ісці да каня.

— Но, Бакас, наперад, — крыкнуў Агінскі, забраўшыся ў сядло.

У гэты момант з-за сцяны кляштара выбег яшчэ адзін мярцвяк. Гэтым разам не француз, а былы мястэчковец, укушаны жаўнерам. Ён запаволіўся і стаў на дарозе, перагарадзіўшы вершніку дарогу ад кляштара. Чырвоныя зенкі памерлага ўтаропіліся ў Міхала. Бакас заржаў, але знайшоў у сабе сілы пайсці на пачвару.

— Наперад, — паўтарыў Агінскі і перакінуў цясак у левую руку.

Мярцвяк зрушыўся з месца. Коннік і нябожчык імкліва збліжаліся. Міхал моцна ўхапіўся правай рукой за лейцы, а левай сціснуў эфес, але ўсё роўна ў момант удару яго ледзь не выкінула з сядла. Цяжкі клінок, сутыкнуўшыся з цёмнаю плоццю, адкінуў мерцвяка ўбок і пакінуў на ягоных грудзях велічэзную рваную рану. Граф, з цяжкасцю ўтрымліваючы

раўнавагу, азірнуўся. Мярцвяк паваліўся крывавым рыззём на зямлю і пакуль не рабіў спробы падняцца. Бакас ляцеў далей.

На двары значна пацяплела. Вясновае сонца, узняўшыся над зямлёй, грэла напоўніцу. Пад яго гарачымі прамянямі хутка раставаў дарожны бруд. Нягледзячы на гэта, Міхал падганяў каня. У сэрцы Агінскага нараджалася нядобрае прадчуванне. З моманту, як ён выехаў з замка, мінула не болей за тры гадзіны, але граф хваляваўся, каб за гэты час там не здарылася чаго страшнага.

Конь імклівым скокам выбіраўся з разбуранага мястэчка. Некалькі пар мёртвых вачэй праводзілі яго позіркамі. Некалькі пар гнілых ног кінуліся ў пагоню. Але Бакас быў занадта хуткі для іх. Краем вока Міхал заўважыў цёмныя фігуры, што выбеглі з развалін наўздагон яму. Граф прыкінуў адлегласць і не стаў засяроджвацца на іх. Ён імкнуўся хутчэй апынуцца ў замку. Па меры набліжэння Агінскаму пачало здавацца, што за грукатам капытоў каня, за гулкімі ўдарамі сэрца, за гучным дыханнем ён чуе яшчэ адзін рытмічны гук. Гук стрэлаў. Міхал не збіраўся спыняць Бакаса, каб прыслухацца. Ён толькі мацней сціснуў бакі каня нагамі і прыкрыкнуў: — Хутчэй, Бакас, хутчэй!

Калі ў далечыні паказаўся замак, Міхал зразумеў, што грукат стрэлаў не здаваўся яму. На браме і на каменных мурах перыядычна шугалі выбліскі. У неба над замкам уздымаліся воблачкі парахавога дыму. Ішла бязлітасная бітва.

Агінскі спыніў каня пасярод вялейскага гасцінца за

паўвярсты ад брамы. З гэтай адлегласці графу было добра бачна ўсё, што адбывалася пад замкавымі мурамі, і сам ён пры гэтым знаходзіўся ў адноснай бяспецы. Тое, што ён пабачыў, моцна ўразіла яго: агромністы натоўп мерцвякоў узяў замак у аблогу. Сотні фігур кешкаліся пад мурамі. Здавалася, што тут сабраліся ўсе памерлыя жаўнеры з навакольных палёў. Нібы воды ўзбуранага мора, мерцвякі напіралі на замшэлыя камяні муроў, лезлі адзін на аднаго, каб толькі дацягнуцца да свежага чалавечага мяса. Людзі гыркалі ў адказ агнём стрэльбаў, але натоўп працягваў націск, не зважаючы на раненні і страты.

— Гэта ж я іх прыцягнуў! — страшная здагадка прыйшла ў Міхалаву галаву. — Дурань, разварэдзіў асінае гняздо сваёй выправай у мястэчка, — граф злосна стукнуў кулаком па сядле. Трэба было нешта рабіць.

Міхал выцягнуў з-за паса адну з пістоляў і ўзяўся яе набіваць. Пакуль рукі былі занятыя гэтай механічнай справай, граф ліхаманкава перабіраў варыянты далейшых дзеянняў. Душа імкнулася ўварвацца са зброяй у натоўп, прарубіць сабе шлях да брамы, каб апынуцца побач з абаронцамі замка, і разам з хлопцамі адбіваць напады мерцвякоў. Агінскі разумеў, што гэты парыў раўназначны самагубству. Адзінцом ён нічым дапамагчы дзядзьку не зможа. Трэба было шукаць дапамогі ў іншым месцы. Міхал прыгадаў, што яшчэ перад выездам з Пецярбурга нехта са знаёмых афіцэраў казаў яму, што недалёка ад Маладэчна ў вёсцы Краснае месціцца невялікі вайсковы гарнізон. Тылавы батальён з апалчэнцаў і ветэранаў, якія вярнуліся ў войска

пасля раненняў. Магчыма, іх камандзір выслухае імператарскага сенатара і вылучыць яму атрад у дапамогу.

Агінскі вырашыў скакаць у Краснае. Набіўшы пістолі, ён развярнуў каня назад на Маладэчна і азірнуўся. Над полем павісла дымная завеса, стракатанне стрэлаў не змаўкала ні на хвіліну. Міхал разумеў, што хутка пачварам замак не ўзяць. Каменныя муры могуць доўга стрымліваць мёртвую плоць. Дый мерцвякі, пры ўсёй іх моцы і жвавасці, тактычнай думкі былі пазбаўленыя начыста. Яны былі здольныя толькі на грубую і прасталінейную сілу. Але ж, у адрозненне ад абаронцаў, нябожчыкі не адчувалі стомы і маглі бясконца доўга не змяншаць націску. Замшэлыя муры, далёка не такія трывалыя, як раней, наўрад ці здольныя гэтак жа бясконца стрымліваць гэты ціск. Дый пэўне ж нешматлікія дзядзькавы памагатыя не змаглі цалкам выявіць усе слабыя месцы ў замкавай абароне. Міне час, і пэўны кавалак мура альбо вежы не вытрымае грубага напору мярцвячае сілы. Смяротная плынь імгненна праглыне замак і яго насельнікаў. Агінскі ні ў якім разе не хацеў гэтага дапусціць.

Міхал ударыў каня ў бакі і рушыў з месца. Дарога зноў павяла яго праз спаленае мястэчка. Калі сярод руінаў замаячылі постаці мерцвякоў, Агінскі ўзяў у правую руку адну з пістоляў, гатовы адбіць любы напад. Французы не прамінулі яго здзейсніць. На адной з вуліц напярэймы вершніку выбег мёртвы жаўнер. Міхал, не прыпыняючы каня, пранёсся міма. У тое кароткае імгненне, калі конь параўняўся з французам, граф накіраваў пістолю і пацягнуў

за спускавую дужку. Куля раздрабіла мерцвяку сківіцу і прайшла ўглыб чэрапа. Дробныя кропелькі крыві разляцеліся ў паветры вакол галавы нябожчыка. Француз мехам паваліўся ў прыдарожны бруд. Агінскі спрытна запхнуў стрэляную пістолю за пас і дастаў набітую.

Граф хутка мінуў руіны Маладэчна, але на выездзе з мястэчка за ім увязалася пагоня. Пяцёра мерцвякоў, што бадзяліся ў двары адной з разбураных гаспадарак, пабачыўшы вершніка, сарваліся з месцаў і пабеглі следам. Міхал азірнуўся і наўздагад разрадзіў пістолю ў пачвараў. Гэтым разам не вельмі ўдала: куля прабіла жывот аднаму з французаў, але мярцвяк гэтага нават не заўважыў і не спыніў бегу. Выехаўшы на гасцінец, Бакас змог паскорыцца, таму праследнікі пачалі паступова адставаць. Хутка іх сілуэты растварыліся ў дарожнай імзе за спінай Агінскага.

Адарваўшыся ад пагоні, Міхал змог перавесці дух. Ён прыструніў каня, бо адчуваў, што сілы пакідаюць старога Бакаса. Храпа жывёлы была ў пене, а скура мылілася ад поту. Бакас дыхаў часта і з хрыпам. Агінскі патрапаў каня за вухам: — Дзякуй, родны, выбраліся, — выдыхнуў граф.

***

Дарога ад Маладэчна да Краснага была бязлюднай. Там-сям уздоўж гасцінца трапляліся невялікія вёсачкі, на від пустыя і закінутыя. Агінскі не мог ведаць, апусцелі яны за вайной ці пацярпелі ад нападу мерцвякоў. У роздумы Міхала закрадаліся сумненні: а ці не пашырылася

мярцвячая навала па-за межы мястэчка і яго няваколля? Ці не чакае яго ў Красным тое самае, чым сустрэла Маладэчна, — разбурэнне і смерць?

Аднак гэта было не так. Калі гасцінец пайшоў праз лес, Агінскі заўважыў, што прасекаю сярод дрэваў паралельна дарозе цягнецца воз, напоўнены галлём. Кашчавы конік ледзь цягнуў гружаныя калёсы. Вознік, каб не ўскладняць жывёліне працу, ішоў побач, прытрымліваючы лейцы. Гэта быў жывы чалавек. Стары з сівой барадой, ён не адразу заўважыў вершніка. Калі падслепаватыя вочы ўтаропіліся ў Міхалаву фігуру, Агінскі пабачыў іскру страху ў старэчых вачах.

— Вітаю, добры чалавек, — Міхал падняў руку.

Стары нічога не адказаў. Ён моўчкі праводзіў Агінскага вачыма, пакуль той не схаваўся за сваламі дрэваў. Граф заўважыў, што вознік увесь гэты час не выпускаў з рукі сякеры. Агінскі здагадваўся, чым мог напалохаць старога. Перадусім колькасцю зброі: дзве пісталі, вайсковы рыштунак, цясак на тальмаху — граф меў такі сабе разбойніцкі выгляд. Але, магчыма, вozніка спужала тое, што Міхал ехаў з боку земляў, запоўненых мерцвякамі, і сам мог быць адным з іх.

Пакінуўшы воз за спінай, Міхал паскорыў ход. Ён быў рады, што цёмныя думкі не знайшлі пацвержання і насуперак прадчуванням ён спаткаў жывога чалавека. Сонца пачало апускацца да захаду, калі Міхал уехаў у Краснае. Вялікая вёска, амаль мястэчка, са сваім касцёлам і царквой, пацярпела ад вайны значна менш за Маладэчна.

Большая частка двароў была не кранутая агнём і разбурэннем. Па вуліцы ў сваіх справах хадзілі людзі, цягнуліся конныя запрэжкі. Мясцовыя жыхары глядзелі на вайсковае ўбранне графа хутчэй абыякава, чым са страхам. Жыццё ў Красным ішло сваім парадкам і, здавалася, што тут ніхто не ведае пра бяду, якая захапіла Маладэчна.

Агінскі спыніў каня ля жанчыны, якая несла ваду ад студні, і спытаў, дзе месціцца рускі гарнізон. Жыхарка паказала графу дарогу, і Міхал хутка апынуўся перад распалажэннем імператарскіх войскаў. Гэта быў хутчэй паходны лагер, чым доўгатэрміновае ўмацаванне. Некалькі шэрагаў вялікіх намётаў, аточаныя невысокім частаколам. Міхал пад’ехаў да найбліжэйшага ўезду і спыніўся каля перагародкі з драўляных козлаў. Да вершніка адразу падышоў вартавы. Другі жаўнер, пабачыўшы ўзбраенне графа, узняў стрэльбу.

— Я граф Агінскі з-пад Маладэчна, сёння з раніцы каля маёй сядзібы быў заўважаны вялікі атрад французаў. Я думаю, гэтыя сілы могуць быць небяспечныя для насельніцтва і вайсковых шляхоў забеспячэння ў нашым тыле, — словы Міхала пра французскі атрад не дужа разыходзіліся з праўдай, ён толькі не стаў удакладняць, што тыя французы былі не зусім жывыя. Граф палічыў, што, калі ён раскажа пра хадзячых мерцвякоў, яго могуць прыняць за вар’ята. — Правядзіце мяне да афіцэра, якому я магу перадаць дакладныя звесткі.

Вартавы агледзеў Міхала з ног да галавы.

— Вядома, Грышка правядзе вас да капітана. Толькі вось

гэта трэба пакінуць тут, — жаўнер паказаў на Міхалаў тальмах са зброяй.

Агінскі саскочыў з каня, скінуў рыштунак і пайшоў следам за вартавым. Той правёў графа ў сярэдзіну гарнізона да афіцэрскага намёта. Падняўшы полаг, жаўнер жэстам запрасіў Міхала ўвайсці. У намёце было светла, сонечныя промні праходзілі ўнутр праз шматлікія акенцы, прарэзаныя ў тканіне. Увайшоўшы, Міхал адразу пабачыў афіцэра, які сядзеў за вялікім сталом, занятым паперамі.

— Капітан Халматаў Аляксандр Уладзіміравіч, — вайсковец падняўся з месца і працягнуў госцю руку. Міхал заўважыў, што боты на нагах афіцэра не аднолькавыя. Угледзеўшыся, Агінскі зразумеў, што Халматаў карыстаецца пратэзам, які цалкам замяняе ніжнюю частку правай нагі.

— Сенатар Расійскай Імперыі, граф Міхал Клеафас Агінскі, — адрапартаваў Міхал і паціснуў працягнутую руку.

— Сенатар, — вочы Халматава акругліліся ад здзіўлення. — Чым магу быць карысны? — нешта ў голасе і выглядзе Агінскага не дало капітану падстаў засумнявацца ў тым, што перад ім стаіць значная асоба.

— Капітан, — пачаў Агінскі. — Сёння пад Маладэчнам, дзе месціцца замак майго роду, быў заўважаны вялікі атрад французскіх войскаў. Ён размясціўся на полі непадалёк ад ракі. Не ведаю дакладна, якую мэту пераследуюць гэтыя французы, але, на маю думку, яны могуць уяўляць небяспеку для шляхоў забеспячэння нашых войскаў на

захадзе. Прашу вылучыць сілы для выведкі і знішчэння праціўніка.

— Цікава. Я спадзяваўся, што на гэтай зямлі засталіся толькі мёртвыя французы, — прамовіў Халматаў. Міхал ледзь стрымаўся, каб не сказаць, што капітан мае рацыю.

— Тым не менш, я на ўласныя вочы бачыў французскі атрад за вярсту ад муроў замка, — працягнуў хлусіць Агінскі. Ён памятаў, наколькі вар'яцкімі яму падаваліся словы плябана пра ажылых мерцвякоў, да таго моманту, пакуль сам не пабачыў нябожчыкаў у полі перад замкам.

— Дзякуй вам за важныя звесткі, граф, — Халматаў абапёрся дзвюма рукамі на стальніцу і задуменна паглядзеў на адну з мапаў, што там ляжалі. — Толькі я не змагу хутка арганізаваць дапамогу. На жаль, у мяне тут далёка не такія баяздольныя хлопцы, як тыя, што былі са мной пад Барадзіном, — афіцэр уздыхнуў, затым адышоў ад стала, наблізіўся да акенца і выглянуў на двор. — Тым больш, нават калі б мы выступілі цяпер, то да Маладэчна мы б дабраліся толькі перад заходам сонца. Такая паспешлівасць нам не дала б нічога акрамя таго, што вораг ведаў бы нашыя пазіцыі і нашую колькасць.

Капітан шырокім крокам, з ледзь заўважнай кульгавасцю, падышоў да выхаду і паклікаў таго жаўнера, які прывёў у намёт Агінскага: — Лепей выступім на досвітку, — сказаў ён Міхалу і павярнуўся да вартавога: — Грышка, трубі агульнае шыхтаванне, будзем ваяваць.

Пасля кароткага збору, на якім Халматаў загадаў жаўнерам рыхтавацца да заўтрашняй выправы, Агінскі

выказаў жаданне застацца ў гарнізоне і прапанаваў паслугі праваднiка па землях Маладэчаншчыны. Капітан падзякаваў графу і ў сваю чаргу ветліва прапанаваў Міхалу месца ў афіцэрскім намёце.

— Умовы спартанскія, але гэта не надоўга, — усміхнуўся Халматаў. — Нам, ваенным людзям, не прывыкаць. Вы ж ваявалі, граф, ці я памыляюся?

Міхал з сумессю здзіўлення і недаверу паглядзеў на капітана.

— Так, ваяваў, — адказаў Агінскі і пасля доўгай паўзы дадаў. — Якраз у гэтых мясцінах.

— Зразумела, — адрэзаў Халматаў і змоўк.

***

Таго вечара Міхал запісаў у сваім дзённіку: «Я моцна хвалююся за лёс дзядзькі і ягоных людзей. Мінуў дзень з таго моманту, як я пакінуў іх сам-насам з мярцвячай навалай. І цяпер мне застаецца толькі спадзявацца на трываласць замкавых муроў і чакаць раніцы, калі мы з атрадам Халматава выступім на дапамогу.

Капітан мне спадабаўся. Ён дзейсны і адказны вайсковец, не пазбаўлены пачуцця такту. Не выказаўшы асабіста мне недаверу, Халматаў, тым не менш, адправіў конную выведку ў кірунку Маладэчна. Перад самай вячэрай у афіцэрскі намёт, дзе быў і я, убеглі два жаўнеры з дакладам капітану.

— Французы ёсць, і іх шмат, — пачаў першы выведнік і

запнуўся, пабачыўшы мяне. Капітан паглядзеў у мой бок і кіўнуў жаўнеру.

— Працягвай.

— Калі мы пад’язджалі да мястэчка, то ўчулі паасобныя стрэлы ўдалечыні. Але мы не змаглі праехаць праз паселішча незаўважанымі, бо ў Маладэчне ўжо былі французы. Мы натыкнуліся на аднаго з іх адразу на ўездзе. Ён быў, пэўна, п’яны і не пабачыў нас. Мы зарубілі яго і паскакалі назад. Вось, — жаўнер паклаў на афіцэрскі стол трафейную шаблю французскага ўзору.

Словы пра гукі стрэлаў сагрэлі мне душу. Значыць, замак яшчэ трымаецца. Халматаў жэстам выправадзіў жаўнераў з намёта і звярнуўся да мяне: — Не крыўдуйце, граф, я веру вашаму слову, але дакладныя звесткі яшчэ нікому не зашкодзілі, — капітан усміхнуўся.

— Я разумею, — адказаў я. Мне было трохі няёмка ад таго, што я не паведаміў афіцэру сапраўды дакладных звестак аб тым, што напраўду французы — не жывыя жаўнеры. Але я шчыра не ведаў, як падступіцца да гэтага пытання, не выклікаўшы ў суразмоўцы непаразумення ці нават смеху. Магчыма, я зрабіў маладушна, але я пастанавіў не казаць пра мерцвякоў. Тым больш, я спадзяюся, што сілы рускіх стане на тое, каб агнём сваіх стрэльбаў знішчыць любую цэль, як жывую, так і мёртвую.

— Граф, я даўно хацеў у вас спытаць, — пад’еўшы, Халматаў перабраўся на свой ложак, і, закінуўшы нагу за нагу, узяўся вазіцца з зашчэпкамі пратэза. — Ці вы не той самы Агінскі, які напісаў гэтую цудоўную мазурку?

— Так, гэта мой твор, — сапраўды, некалькі маіх мазурак карысталіся вялікай папулярнасцю на балях у Пецярбургу.

— Я свайго часу добра паскакаў пад яе, — капітан летуценна падняў вочы ў гору. — Яшчэ да таго, як страціў нагу, — адшпіліўшы пратэз, афіцэр паклаў яго на крэсла перад з сабой.

Халматаў раздзеўся і лёг спаць. Капітан заснуў адразу, як толькі ягоная галава апусцілася на падушку. Зайздрошчу такой здольнасці. Бо да мяне сон не ішоў. Я вырашыў скарыстацца афіцэрскай лямпай і зрабіць гэты запіс. Цяпер час позні, і я таксама думаю класціся. Магчыма, мне ўдасца заснуць. Толькі спачатку я прачытаю малітву за дзядзьку і ягоных хлопцаў. Спадзяюся, што пабачу іх заўтра жывымі».

***

Яшчэ да світання гарнізон быў гатовы да выправы. Дзве сотні жаўнераў у поўнай экіпіроўцы стаялі шыхтамі на пляцы перад афіцэрскім намётам. Было цёмна. Святло нешматлікіх паходняў выхоплівала з перадсвітальнай цемры толькі агульныя рысы прадметаў і чалавечых фігур.

— У калону па чатыры шыхтуйся, — пачуўся гучны загад шыхтавога камандзіра, і жаўнеры заварушыліся. Паветра напоўнілася шумам перамяшчэння соцень людзей.

Невялікі конны атрад пад кіраўніцтвам капітана Халматава першым выехаў за агароджу і стаў у галаве калоны. Агінскі на Бакасе быў разам з рускімі вершнікамі.

Неўзабаве чарада жаўнераў выбралася на маладэчанскі гасцінец і паходным крокам накіравалася ў бок мястэчка. У хвасце за шэрагамі вайскоўцаў цягнуліся чатыры фурманкі з правізіяй і дадатковымі боепрыпасамі. Цяжкія стрэльбы кожны жаўнер нёс сам. Зброя была набітая на выпадак, калі давядзецца з ходу ўступаць у бой. Праз гэта ў дарозе здарыўся непрыемны выпадак. Малады рэкрут, стаміўшыся, выпусціў з рук ружжо, і тое, ударыўшыся аб зямлю, стрэльнула. Балазе ніхто не пацярпеў — куля пайшла ў неба, — толькі вось небараку жаўнера чакаў па вяртанні тыдзень пазачарговай працы на вайсковай кухні.

Міхал узгадаў, што ў часы паўстання, такое здаралася і з жаўнерамі аддзела, якім кіраваў ён. І не заўжды так удала, як цяпер. Шмат хто з добраахвотнікаў быў проста не прызначаны для вайсковай справы.

Тым часам гасцінец вывеў калону з красненскага лесу на прастору маладэчанскіх палёў. Сонца ўжо ўзышло, але завеса хмар над гарызонтам перашкаджала ягоным промням асвятляць зямлю. У дадатак поле перад атрадам засцілала шчыльнае покрыва туману. Вадзяністая імгла праглынула дарогу, узгоркі, яры і адзінокія дрэвы на ўзбочыне. Гэтак жа проста яна праглынула калону рускіх жаўнераў.

Агінскаму здавалася, што ён едзе праз воблака, якое з нейкай сваёй блазноты вырашыла спусціцца бліжэй да зямлі. Ён з цяжкасцю мог разабраць, што робіцца перад ім на адлегласці выцягнутай рукі. Вершнікі, якія ехалі побач з Міхалам, ператварыліся ў цьмяныя сілуэты. Бакас нервова пырхаў і часта паводзіў вушамі, услухоўваючыся ў

навакольныя гукі.

— Не падабаецца мне гэта, — даляцеў да Агінскага голас капітана.

Міхал памятаў, што туманы ў гэтых мясцінах — рэч далёка не рэдкая, але такой непрагляднай імглы ён прыгадаць не мог. Тое, што калона ўвайшла ў Маладэчна, Міхал змог вызначыць толькі па паху смалі ад прамінулых пажараў, якім напоўнілася вільготнае паветра. Балазе ў цэнтры мястэчка трохі развіднелася. Сталі бачныя абрысы разбураных хат і размытыя сілуэты дрэваў, тых, што стаялі бліжэй да дарогі. Конныя і пешыя жаўнеры запаволілі хаду. Па шэрагах ад чалавека да чалавека гучным шэптам прайшоў загад: падрыхтаваць зброю і быць напагатове. Жаўнераў апанавала напружанае чаканне сутычкі.

Агінскі наблізіўся да капітана, каб дапамагчы разабраць дарогу да замка. Ён чуў, як конны выведнік, які ўчора даваў Халматаву справаздачу, казаў, што яны якраз дайшлі да гэтага месца і тут напаткалі француза. Міхал агледзеўся. Злева, скрозь завесу туману, праглядалася цёмная пляма кляштара. Схаваны ў тумане будынак здаваўся большым, чым калі быў асветлены сонцам. Холад прабег па спіне Агінскага. Ён мог пакляцціся, што да ягонага слыху далятаюць стогны і енкі зачыненых у будынку мерцвякоў. Ён паглядзеў на Халматава, каб пераканацца, што і той чуе гэтыя страшныя гукі, але капітан быў заняты ўласнымі думкамі.

— Куды паварочваць? — спытаў ён пасля паўзы.

— Направа, — паказаў рукой Міхал. Яму карцела

хутчэй пакінуць гэтае месца.

Зноў паветрам паляцеў сцішаны загад, і калона зрушыла з месца. Жаўнеры прайшлі скрозь мястэчка, так нікога і не сустрэўшы. Калі за спінаю засталіся апошнія спаленыя хаты Маладэчна, Агінскі зразумеў, што непакоіць яго яшчэ больш за зачыненых у кляштары нябожчыкаў. Цішыня. Не тое, каб калона перамяшчалася бясшумна, не, проста Міхал зразумеў, што не чуе стрэлаў. Значыць, замак перастаў супраціўляцца. Сэрца графа зашчаміла ад горкага пачуцця страты. «Няўжо мы спазніліся, — падумаў Агінскі. — Не можа гэтага быць, я ведаю дзядзьку, ён так проста не здаецца».

— Стой, хто ідзе! — вокрык выведніка вырваў Міхала з лап страшных думак.

Скрозь імглу граф пабачыў адзінокі сілуэт французскага жаўнера, які павольна ішоў па дарозе насустрач калоне. Рускія спыніліся. Вершнікі раз’ехаліся ў бакі, вызваляючы месца для стралкоў. Першы шэраг пехацінцаў апусціўся на калена, другі стаў ушчыльную за першым. Жаўнеры выставілі свае стрэльбы наперад. Восем руляў смяротным позіркам зыркнулі ў грудзі французу.

— Стой, будзем страляць, — паўтарыў Халматаў загад па-французску. Мярцвяк праігнараваў заклік, працягваючы кульгаць да людзей.

— Агонь! — капітан не стаў цягнуць.

Залп вогненных выбліскаў на імгненне асляпіў Агінскага.

— Мазілы, — прарычаў нехта з камандзіраў.

Міхал бачыў, што гэта не зусім так. Прынамсі дзве кулі знайшлі сваю цэль. На грудзях і на жываце француза з’явіліся чорныя плямы, якія павольна павялічваліся ў памерах. Мярцвяк не спыняў хады.

— Як такое можа быць? — пачуў Агінскі раздражнёны голас Халматава. Капітан таксама заўважыў свежыя раны на целе француза.

— Ён мярцвяк, — ціха прамовіў Міхал, здзіўляючыся спакою свайго голаса.

— Я бачу, але як ён можа ісці далей, — амаль крычаў капітан.

Жаўнеры тым часам памяняліся месцамі са стралкамі з наступных шэрагаў і ўзяліся ліхаманкава набіваць стрэльбы. Нехта з шыхтавых даў адмашку і грымнуў новы залп. Гэтым разам француз не выстаяў. З блізкай адлегласці кулі вырывалі з ягонага цела шматкі плоці, а адзін свінцовы шарык раздрабіў жаўнеру палову чэрапа. З мерцвяком было скончана.

— Я не хацеў казаць адразу, бо баяўся, што вы мне не паверыце, — пачаў Агінскі, звяртаючыся да капітана. — Замак узялі ў аблогу мерцвякі.

— Што вы верзяце, граф? — Халматаў кінуў на Міхала гнеўны позірк. — Якія мерцвякі?

— Такія, як гэты, — Агінскі паказаў на знявечаны труп на дарозе.

— Гэта лухта, афект, я сам бачыў такое ля Барадзіна, — капітан не хацеў верыць у незразумелае.

— Ціха, — прашаптаў адзін з конных выведнікаў. — Вы

чуеце?

Агінскі з Халматавым разам сцішыліся і прыслухаліся. Справа, з боку, дзе павінен быў знаходзіцца замак, цяпер закрыты туманам, даносіўся дзіўны шум. Стваралася ўражанне, што па полі бег табун коней.

— Вораг справа, — пракрычаў Міхал. Ён першым здагадаўся, што азначае гэты гук. Сотні мерцвякоў, якія аблажылі замак, прыцягнутыя грукатам стрэлаў, зрушылі з месца і пабеглі да дарогі.

— Развярнуцца направа! Стрэльбы ўзняць! — загад капітана ўвёў у дзеянне адладжаную ваенную машыну.

Жаўнеры, як стаялі ў калоне, так разам і павярнуліся, утвараючы чатыры шэрагі, ашчаціненыя голкамі стрэльбаў. Туман вісеў над полем непраглядной заслонай, але паводле тупату соцень ног можна было вызначыць, што французы ўжо блізка. Раптам у імгле паказаўся першы размазаны сілуэт, а за ім яшчэ і яшчэ. Цёмныя шынэлі, рэзкія рухі, крывавыя падцёкі — мерцвякі набліжаліся хваляй.

— Агонь, — закрычаў капітан. Грукат залпу ўдарыў па вушах графа кавальскай кувалдай. Скрозь смугу парахавой смалі, што дадалася да туману, Міхал бачыў, як рэзка спыняюцца і зарываюцца ў зямлю зрашэчаныя кулямі жаўнеры-нябожчыкі. І як на іх месца з імглы выходзяць новыя мерцвякі.

— Агонь, — другі залп накрыў французаў свінцовым дажджом. Лопаліся галовы, адляталі ў бруд адарваныя канечнасці, хлюпалі кішкамі прабітыя жываты. Поле напоўнілася варушэннем знявечаных целаў. Мерцвякі з адарванымі нагамі коўзаліся ў брудзе, сярод парэштак знішчаных суродзічаў, і цягнулі акрываўленыя рукі да шэрагу людзей. Па ляжачых нябожчыках, не зважаючы на перашкоды, беглі далей ацалелыя пачвары.

Міхалу на імгненне падалося, што яшчэ трошкі, і з мярцвячай навалай будзе скончана, але туман хаваў у сваіх нетрах, здавалася, бясконцую раць мерцвякоў. Зноў і зноў на месцы палеглых з’яўляліся новыя пачвары. Да таго ж, не ўсе кулі знаходзілі свае цэлі, і некаторыя з французаў, што пратрывалі два першыя залпы, амаль ушчыльную наблізіліся да шэрагаў рускіх. Агінскі бачыў, як адзін жаўнер цяжкім прыкладам адштурхоўвае мерцвяка ад сябе, а другі працінае нябожчыка шыхтом. Міхал мімаволі выцягнуў з-за паса пістолю.

— Агонь! — трэці залп, не такі ладны, як першыя два, страціў былую сілу. Тузін мерцвякоў паваліўся на акрываўленае поле, некалькі дзясяткаў прарваліся бліжэй да стралкоў.

Граф бачыў, як хваля памерлых французаў ударылася ў сцяну рускіх жаўнераў. Сціхлі стрэлы, крывавую працу распачаў метал. Разгарнулася страшная сеча. Рускія біліся ўрукапашную стрэльбамі, калолі штыхамі, секлі мёртвае мяса цесакамі. Французы ў адказ навальваліся гуртам, вырывалі жаўнераў з шыхта, угрызаліся ў выцягнутыя рукі, тапталі ахвяр нагамі. Калі ў першых шэрагах жаўнеры біліся зацята, не зважаючы на тое, што вораг, які выступіў супраць іх, амаль не адчувальны да удараў і ўколаў, то тыя, хто стаяў ззаду, скора зразумелі, з кім маюць справу. Агінскі заўважыў, як некалькі рэкрутаў кінулі свае цяжкія стрэльбы на зямлю і зніклі ў тумане за спінамі таварышаў. Сілы рускіх імкліва раставалі.

Скрозь грукат і рык данеслася конскае ржанне — да бойкі далучыліся вершнікі. Агінскі з Халматавым таксама зрушыліся з месца. Міхал на скаку разрадзіў пістолю ў мерцвяка, які выбег з туману напярэймы Бакасу. Капітан узняў шпагу і з разгону ўварваўся ў найбліжэйшую купу, раскідваючы супернікаў у бакі. Ён шалёна размахваў клінком, засыпаючы ўдарамі некалькіх мерцвякоў адразу. Французы валіліся на зямлю крывавым шмаццём. Проста пад капытамі капітанскага каня дзве пачвары раздзіралі цела непрытомнага жаўнера, заграбаючы кавалкі мяса ў свае акрываўленыя пашчы. Агінскі выпусціў апошнюю кулю ў аднаго з французаў, прабіўшы таму патыліцу. Капітан апусціў клінок на галаву другога. Лязо захрасла ў костках чэрапа. Пакуль Халматаў стараўся выдраць зброю назад, Міхал мімаходзь агледзеў поле бітвы. Тое, што ён

пабачыў, было канцом рускага гарнізона. Купкі жаўнераў яшчэ працягвалі адбівацца, але большасць стралкоў схавалася пад покрывам мерцвякоў, якія схіляліся над зрынутымі, каб наталіць свой голад.

— Трэба адступаць! — крыкнуў граф. Халматаў, узняў галаву і азірнуўся. Ад таго, што ён пабачыў, твар капітана сказіўся жахам: поле бітвы ператварылася ў вусцішнае месца, дзе пераможцы жэрлі пераможаных.

— Сыходзім, — Халматаў рыўком выцягнуў шпагу з галавы знішчанага мерцвяка і развярнуў каня.

Некалькі мерцвякоў, якім не хапіла месца ля целаў забітых жаўнераў, заўважылі вершнікаў і кінуліся ў іх бок. Міхал запхнуў за пас бескарысную разраджаную пістолю і выцягнуў з ножнаў цясак.

— Да замка, хутчэй, мы павінны паспець, — крыкнуў ён Халматаву. Капітан кіўнуў, але перш чым кінуцца наўцёкі, ён развярнуў каня насустрач французам і ўзмахнуў шпагай.

Удар пакінуў глыбокі парэз на шыі аднаго з нападнікаў. Другога афіцэр адштурхнуў ад сябе правай нагой. Трэці паднырнуў пад удар і ўгрызся зубамі ў бот капітана. Халматаў вылаяўся і моцна прылажыў мерцвяку эфесам у цемечка, так што ў чэрапе француза ўтварылася ўвагнутасць. Сківіцы разамкнуліся, і пачвара павалілася ў бруд пад капыты каня. Міхал пад’ехаў да афіцэра якраз у час, каб адсекчы галаву нябожчыку, які падымаўся пасля ўдару ботам.

— Усё добра? — спытаў Агінскі, гледзячы на параненую

нагу Халматава. Холад закраўся ў душу графа. Ён добра ведаў, што адбываецца з тымі, каго ўкусіў мярцвяк.

— Гэтая мярзота пашкодзіла мне пратэз, — гыркнуў капітан і стукнуў клінком па назе. Азваўся глухі драўляны стук.

Коннікі паскакалі скрозь туман, пакідаючы за спінаю месца няўдалай бітвы. Фактычна бойня цягнулася лічаныя хвіліны, але Міхалу здавалася, што прайшоў дзень. Агінскі адчуваў агульную стому цела і поўную спустошанасць. Падавалася, што за час бойкі Міхал пастарэў на дзесяць гадоў. На і так не маладым ужо твары прарэзаліся новыя зморшчыны, акрэслілася сівізна валасоў. Рука, што працягвала трымаць цясак, дрыжэла ад цяжару. Міхал глядзеў у туман пустымі, нежывымі вачыма. Як і шмат разоў дагэтуль, жыццё паднесла графу чарговае фіяска. Толькі цяпер Агінскі сумняваўся, ці ўдасца яму пераможыць наступствы гэтай паразы. Бакас скакаў наперад.

На зямлі пачалі трапляцца целы французскіх жаўнераў са слядамі ад куль. З імглы насустрач вершнікам выплылі замшэлыя сцены замка. Агінскі прыпыніў каня, каб павярнуць да брамы. Раптам пад капытамі Бакаса нешта заварушылася, конь заржаў і таргануўся, ледзь не скінуўшы графа на зямлю. Бязногі мярцвяк, амаль не заўважны ў гразі, са стогнам пацягнуў свае рукі да каня. Бакас рэзка апусціў капыты на галаву пачвары. Металічныя падковы з лёгкасцю раструшчылі чэрап мерцвяка. Конь чмыхнуў і адступіў на крок ад знявечанага цела.

Міхал вылаяўся, азірнуўся, знайшоў вачыма Халматава

і махнуў таму рукой: — Хутчэй да брамы.

Вакол дубовых створак валялася шмат целаў. Самі вароты былі цэлыя і, што самае важнае, зачыненыя. Гэты факт узрадваў Міхала. Ён стаў на кані проста пад фамільным гербам і пракрычаў: — Дзядзька, Юзік, Казік, хто-небудзь, адчыняйце браму!

Вокліч патануў у тумане. Замак маўчаў. Халматаў пад'ехаў бліжэй і пагрукаў шпагай аб створку.

— Адчыняйце, гэта я, Міхал! — у голасе графа прарэзаліся панічныя ноткі.

Ад поля даляцеў трэск адзіночнага стрэлу. Праз імгненне азваўся крык болю. Потым усё змоўкла і зноў усталявалася мёртвая цішыня.

— Адчыняйце, — Агінскі спусціўся з каня і, ступаючы па мерцвяках, наблізіўся да брамы.

За створкамі нехта заварушыўся.

— Зараз, зараз, пачакай, — пачуўся ціхі старэчы голас. Зарыпела засаўка.

— Дзядзька, ты?! — Міхал не верыў сваім вушам.

— Так, Міхале, не чакаў я цябе больш пабачыць, — створка злёгку прыадчынілася, але цела французскага жаўнера перашкаджала ёй адчыніцца шырэй. — Дапамажы.

Міхал адштурхнуў нябожчыка і расчыніў браму. У прахоне стаяў стары граф са стрэльбай у руках. Пляменнік кінуўся ў абдымкі да дзядзькі.

— Ты жывы, — граф выглядаў стомленым, памятым і яшчэ больш старым, чым у дзень прыезду Агінскага. — Як толькі ты ўчора паехаў, пачалася гэтая навала. Я ўжо

думаў, што і цябе зачапіла і што не пабачымся мы больш. А сёння, калі пачуў грукат стрэлаў, зразумеў, што гэта ты вярнуўся да нас з дапамогай, — у вачах старога з’явіліся слёзы.

— Гэта была бойня. Мерцвякі пажэрлі ўсіх маіх людзей, — даляцеў ззаду зломлены голас Халматава.

— Вы іх не знішчылі? — рукі дзядзькі апусціліся долу.

— Не. Выжылі толькі я і капітан Халматаў, — Міхал правёў афіцэрскага каня скрозь браму і свістам падазваў Бакаса. — Капітан Халматаў — камандзір красненскага гарнізона.

— Былы камандзір, былога гарнізона, — ціха выправіў Халматаў.

— Вітаю, капітан, — стары граф кіўнуў галавой.

— Трэба зачыняць, мерцвякі могуць вярнуцца кожную хвіліну, — Агінскі развярнуўся і пацягнуў за створку, дзядзька прыхінуў стрэльбу да сцяны і ўзяўся за засаўку.

— Як там нашы? — спытаў Міхал.

— Я адпусціў хлапцоў адпачыць пасля начной варты. Мы трымаліся да самага світанку, калі французы зменшылі ціск. А потым і вашыя аддцягнулі іхную ўвагу, — стары граф паглядзеў у бок Халматава. Капітан усё яшчэ знаходзіўся ў сядле і моўчкі глядзеў сабе пад ногі. — З ім усё добра? — ціха спытаўся дзядзька.

— Так, наколькі гэта ўвогуле магчыма, — адказаў Агінскі. Ён падышоў да афіцэрскага каня і працягнуў руку, каб дапамагчы капітану спусціцца на зямлю. — Хадземце ў палац, вам трэба адпачыць, — Халматаў моўчкі

падпарадкаваўся. Дзядзька, пляменнік і афіцэр рушылі да камяніцы.

На вуліцы паступова развіднелася. Сонечныя прамяні прабілі шчыльную завесу аблокаў і асвяцілі старыя муры і поле вакол замка. Туман споўз у нізіны і яры, дзе канчаткова рашчыніўся ў паветры. Падсілкаваўшыся на замкавай кухні, Міхал выказаў жаданне заняць месца вартаўніка на браме, каб назіраць за дзеяннямі мерцвякоў. Пануры капітан вызваўся ісці разам з ім. Дзядзька пагадзіўся і прапанаваў мужчынам узяць зброю.

Агінскі з Халматавым падняліся на надбрамную пляцоўку. Туман цалкам сышоў, і перад вачыма вартавых адкрыўся від на жахлівыя наступствы няўдалай выправы: вялікі натоўп мерцвякоў віраваў на месцы бойкі, працягваючы сваю жудасную трапезу. Пабачыўшы гэта, Халматаў узняў стрэльбу і хацеў ужо націснуць на дужку, але Агінскі спыніў яго.

— Не варта, — прагаварыў граф, — усё роўна да іх не дастрэліш, дый лішняя ўвага нам не трэба.

Прамаўляючы апошнія словы, Міхал зразумеў, што і без стрэлаў замак прыцягвае да сябе мерцвякоў. Наетыя, акрываўленыя фігуры павольна крочылі па полі да каменных муроў. Пэўне, нейкімі рэшткамі памяці, што захавалася ў мерцвякоў ад людзей, памерлыя памяталі, што ў гэтым месцы іх чакае свежая ежа, да якой, праўда, яшчэ трэба дабрацца. Агінскі заўважыў: з тых, хто наблізіўся да замка, некаторыя нябожчыкі былі апранутыя ў цёмна-зялёныя мундзіры рускіх войскаў. Халматаў таксама

пабачыў гэта. Спачатку ён узрушыўся і нават узняў правую руку, каб прывітаць сваіх жаўнераў, але потым да яго пачало даходзіць, што з імі здарылася.

— Мае хлопцы ператварыліся ў гэтую поскудзь, — капітан сплюнуў і гучна вылаяўся.

Так, усе, хто загінуў ад укусаў мерцвякоў, самі сталі пачварамі. Міхал прыкінуў, што колькасць рускіх, якія загінулі сёння на полі, значна перавышае колькасць знішчаных імі ў кароткай сутычцы мерцвякоў. І гэта значыць, што мярцвячая навала павялічыла сваю сілу. У момант, калі да графа гэта дайшло, ягоныя далоні мімаволі сцяліся ў кулакі. У раз'юшаным розуме канчаткова выспела жорсткае рашэнне.

— Я знішчу іх усіх, — прашаптаў Агінскі.

— Што? Вы нешта сказалі, граф? — перапытаў Халматаў.

— Не, — адказаў Міхал. Ён рэзка ўзняў стрэльбу, хутка прыцэліўся і разнёс галаву найбліжэйшаму ад брамы нябожчыку ў сінім мундзіры.

***

На вячэру ў гасцёўні сабралася большая частка мужчын замка. Вартаваць на браме застаўся самы малады хлопец. Яму загадалі страляць толькі тады, калі мерцвякі пачнуць штурм. Балазе, пачвары пакуль не праяўлялі актыўнасці і проста блукалі сытыя вакол муроў. Праўда, перыядычна сярод нябожчыкаў-жаўнераў знаходзіліся і такія, хто шалёна

кідаўся на камяні ў надзеі праламіць сваім целам праход. Але іх было няшмат.

У пакоі стаяў гоман. Размова ішла пра аблогу.

— Мы можам трываць доўга, прыпасаў і пораху ў нас досыць, — казаў дзядзька. — Адзінае пытанне, ці вытрымаюць доўгі націск сцены.

— Урэшце, можна дачакацца, пакуль не прыйдзе дапамога, — уставіў сваё слова кашталян. Халматаў паглядзеў на яго так, нібыта хацеў нешта сказаць, але прамаўчаў.

— Невядома, ці ўправіцца тая дапамога з мерцвякамі, — стары граф агучыў думкі капітана.

Міхал з задуменным выглядам пазіраў на суразмоўцаў. Ён доўга абдумваў адно пытанне і нарэшце ў галаве акрэслілася пэўнае рашэнне. Агінскі імкліва падняўся і прамовіў: — Я не хачу сядзець і дрыжэць тут, за сценамі ў надзеі, што нехта прыйдзе і вызваліць нас. Я не хачу пакідаць нашую зямлю на спажыву гэтым пачварам, — Агінскі махнуў рукой. — Гэтая навала можа пашырыцца і далей, калі мы не спынім яе тут. Вы самі бачылі, як у шэрагі пачвараў уліліся знішчаныя зранку рускія стралкі. Не. Усіх мерцвякоў трэба знішчыць тут і цяпер. І я ведаю як.

Постаць графа прыцягнула ўвагу ўсіх прысутных у зале.

— Калі мерцвякоў так цягне да нашага замка, мы падарвем яго! — Агінскі грукнуў кулаком аб стальніцу.

— Як? — здзіўлена прамовіў дзядзька.

— У замку ёсць цэлы воз пораху, вашыя запасы на выпадак паўстання яшчэ не апусцелі — гэтага досыць, каб разнесці тут усё дашчэнту.

— І што далей, — стары граф выглядаў раззлаваным. Ён зіркнуў на Міхала і паказаў яму вачыма на капітана рускай арміі. Агінскі адмахнуўся і працягваў: — Мы пачакаем, пакуль мерцвякі збяруцца ля муроў і… — граф задумаўся. — Дзядзька, а той падземны ход, байкі пра які я чуў з дзяцінства, ён жа напраўду існуе? — запытаўся Міхал праз імгненне.

— Так, — адказаў дзядзька, — тунэль пачынаецца ў схованцы, там, дзе зброя, і вядзе да ўзлеску. Але ж ім даўно ніхто не карыстаўся.

— Нічога, мы праверым яго.

— Я так разумею, Міхале, ты хочаш, каб мы схаваліся ў падземным ходзе і падарвалі муры?

— Так! — адрэзаў Агінскі. — Каля замка цяпер знаходзіцца большая частка пачвар. Калі знішчыць іх выбухам, то з рэштай можна справіцца звычайнай зброяй.

У пакоі ўсталявалася насцярожанае маўчанне.

— Я падтрымліваю ідэю графа, — Халматаў падняўся з месца. — Ад моцнага выбуху каменне з муроў будзе біць не горш за гарматныя ядры.

— Міхал мае рацыю, — таксама падняўся Ясінскі. Следам за ім пачуліся іншыя галасы ў падтрымку Міхалавай прапановы.

— Добра, няхай будзе так, — гучна прамовіў стары граф.

— Тады не будзем марудзіць, — Міхал выйшаў з-за стала.

Мужчыны пакінулі палац і накіраваліся да стайні. Тут у куце, побач з возам, было складзена шмат зброі з рыштункам, якую вынеслі са схованкі па загадзе дзядзькі. Памяшканне ператварылася ў невялікі арсенал. Дзядзька запаліў свяцільню і прайшоў скрозь шэрагі стрэльбаў да спуску ў падзямелле. Хлопцы рушылі за ім следам. Унізе ля далёкай сцяны стары граф адхінуў непрыкметную завесу і асвятліў ліхтаром невялікія драўляныя дзверы.

— Вось ён, ход, — прамовіў дзядзька і адчыніў створку. Памяшканне напоўнілася сырым пахам затхласці.

Казімір наблізіўся да цёмнага праходу і зазірнуў унутр.

— Я праверу, як далёка ім можна прайсці, — Ясінскі запаліў сваю свяцільню ад дзядзькавай і ступіў у цемру.

— Добра, — сказаў Міхал і паглядзеў у кут, дзе стаяла гармата. — Хлопцы, я думаю, гэтая штука нам яшчэ спатрэбіцца, ці не закаціць яе ў ход?

Мужчыны ўзяліся за працу. Неўзабаве амаль усе бачуркі з чорным парашком былі складзеныя ля стойлаў. Гармата і дзве вайсковыя торбы з порахам для яе засталіся ў падзямеллі. З французскай фурманкі знялі палатняны верх і выкацілі на сярэдзіну стайні. Воз быў напоўнены такімі ж бачуркамі. Капітан прысвіснуў, пабачыўшы колькасць выбухоўкі. Ён падняў драўлянае вечка адной з бондаў, узяў пальцамі дробку пораху і паклаў на язык: — Добрая сумесь, — Халматаў нядобра ўсміхнуўся. — Выбухоўкі тут хапіла б нават усё Маладэчна падарваць.

Агінскі загадаў раздзяляць запасы на чатыры роўныя часткі і паступова пераносіць іх да муроў замка. Неўзабаве з падземнага ходу вярнуўся Ясінскі. Казікаў шынэль пакрыўся плямамі бруду, а ў валасы набілася павуцінне.

— Прайсці можна, — расказаў ён Міхалу. — Ёсць, праўда, некалькі вузкіх месцаў, але нічога страшнага. Я нават выбраўся вонкі ля лесу. Пачвараў там няма.

— Добра. Скажы жанчынам, каб збіралі рэчы, — загадаў граф. — А я займуся зброяй. Трэба пакінуць яшчэ колькі тузінаў стрэльбаў з набоямі ў тунэлі. Каб было чым дабіваць мерцвякоў.

Міхал накіраваўся да спуску ў схованку, стаў на лесвіцы і азірнуўся: — Думаю, да раніцы мы павінны ўсё паспець, — у гэты момант на двары грымнуў стрэл. Сігнал вартавога, што мерцвякі пайшлі на штурм.

Міхал выбег са стайні і падняўся на браму. Спачатку яму падалося, што пад мурамі разлілося бурлівае сіне-зялёнае мора. Вакол замка сабраліся ўсе ўдзельнікі ранішняй бітвы. Яны моўчкі таўкліся каля самых муроў. Перыядычна ў шэрагах мёртвых нараджалася агульнае рушанне і хваля целаў імкліва кідалася на каменны мур. Удары былі моцныя, пачвары не шкадавалі сваёй плоці. Муры пакуль стрымлівалі націск, але Міхал заўважыў, што на зямлі пасля аднаго з такіх удараў паболела каменння, якое павыпадала з муроўкі. Графа напалохала такое ўзаемадзеянне пачвараў. Выявілася, што мерцвякі былі не такімі бязглуздымі, як можна было пра іх падумаць. Гэтая акалічнасць ускладняла задачу іх знішчэння. Трэба было

спяшацца.

Міхал азірнуўся. Мужчыны ў двары, што пераносілі порах, пакідалі бачуркі і пахапалі стрэльбы. Два чалавекі ўзняліся на вежу і прыцэліліся скрозь байніцы ў натоўп нябожчыкаў.

— Хлопцы, не варта страляць! Гэтым іх надоўга не спыніш, — пракрычаў Міхал. — Трэба як мага хутчэй падарваць замак.

Пакуль Агінскі спускаўся з брамы, хваля мерцвякоў з новай сілай накаціла на паўднёвы мур замка. Удар быў настолькі моцны, што яго адчулі і ў палацы. З гасцёўні, дзе збіраліся рэчы для ўцёкаў, выбеглі некалькі жанчын. Дзядзька, які выйшаў на двор са стайні, спытаў у Міхала, што адбылося.

— Мерцвякі б’юць. Дзядзька, адводзь, каго можна, у тунэль, — хутка прамовіў Міхал. — Зараз будзем падрываць!

Граф прыхапіў вялікую бонду пораху і панёс яе да заходняга мура. Тут, каля купкі бачурак, стаяў Халматаў і прымацоўваў да іх кнот. Ён ужо паспеў звязаць між сабою выбухоўку каля паўночнага і ўсходняга муроў. Капітан трымаў у руцэ кавалак запальнага шнура і нешта падлічваў напаўголаса.

— Да стайні не дацягне, — ціха сам да сябе прамовіў Халматаў.

— Што вы сказалі? — перапытаў Міхал. Ён паставіў бонду на зямлю і глыбока ўздыхнуў.

— Так, нічога, — афіцэр адвёў вочы ўбок. — Будзем

мінаваць палац, трэба, каб адтуль усе выйшлі.

Сонца схілялася да захаду. Неба зацягнулі шэрыя аблокі. Пачало цямнець. Удары мерцвякоў станавіліся часцейшымі і мацнейшымі. Пачвары намацалі слабіну ў паўднёвым муры і ўвесь час біліся ў адну кропку. Іх ніхто не спыняў, усе мужчыны былі занятыя пераносам пораху і рэчаў. Толькі хлопчык-служка сачыў за трываласцю муроў.

Нарэшце запыханыя і стомленыя мужчыны сабраліся ў стайні. Неабходныя прыпасы і зброя былі перанесеныя ў падземны ход. Там жа цяпер знаходзіўся і дзядзька разам з жанчынамі. Не забыліся і пра коней: Бакас і скакун капітана, схіліўшы галовы, стаялі сярод людзей у цеснай прасторы ходу. Чакалі толькі Халматава. Ён меўся завяршыць закладку выбухоўкі ў палацы. Неўзабаве чорны парахавы сілуэт капітана паказаўся ў дзвярным прахоне.

— Сыходзьце, я падарву ўсё сам, — прахрыпеў ён.

— Як? Мы ж можам зрабіць гэта з тунэля, — здзівіўся Міхал.

— Не, кнот закароткі, — уздыхнуў капітан. — А парахавая дарожка — вельмі ненадзейная рэч.

З-за спіны Халматава пачуўся грукат камянёў. Відаць, мерцвякі праламілі мур.

— Сыходзьце, — пракрычаў капітан і зачыніў дзверы стайні.

Міхал кінуўся быў за ім следам, але нехта затрымаў графа за плячо.

— Не трэба, пане, ён ведае, што рабіць, — брудны твар Ясінскага быў амаль не бачны ў змроку.

Міхал азірнуўся і кіўнуў галавой. Мужчыны шпарка спусціліся ў схованку. На ўваходзе ў падземны ход утварылася штурханіна, прахон быў надта вузкі, і тым не менш людзі хутка праціснуліся ўнутр. Апошнім ішоў Міхал, ён азірнуўся, пастаяў імгненне, а потым зачыніў дзверкі і развярнуўся. Граф павольна ішоў па праходзе, трымаючыся рукой за сцяну. Недзе праз сто крокаў грымнуў выбух. Са столі пасыпаліся пыл і камякі зямлі. Спераду выкрыкнула жанчына. Затым прагрымелі яшчэ выбухі, гэта адзін за адным узрываліся закладзеныя ля муроў і ў палацы зарады. Тунэль скалынаўся ад штучнага землятрусу. Здавалася, яшчэ трошкі — і не вытрываюць перагародкі. Зямля зрынецца на галовы ўцекачоў і пахавае іх жыўцом. Але ўсё абышлося. Гахнуў апошні выбух і ўсталявалася цішыня. Міхал з палёгкай удыхнуў сырое паветра.

Калі людзі выбраліся з тунэля на ўзлесак, замак гарэў на поўную моц, асвятляючы наваколле нежывым барвовым агнём. У вечаровае неба ўздымаліся клубы дыму, захінаючы сабой першыя зоры. Поле перад замкам было чыстае. Прынамсі, Міхал пакуль не заўважыў ніводнай фігуры, якая б стаяла на дзвюх нагах.

Людзі на ўзлеску радаваліся свайму ўратаванню. Мужчыны выводзілі з ходу спалоханых коней і выцягвалі прыпасы. Міхал узняў угару дзядзькаву падзорную трубу і ўзяўся аглядаць рэшткі замкавых муроў. Па спіне графа прабег халадок, калі сярод разбітага камення ён заўважыў рухі. Частка мерцвякоў перажыла выбух. Пакалечаныя, хто без рук, хто без ног, яны ўсё адно былі небяспечныя для

жывых людзей.

— Казік, Янка, хлопцы, — прамовіў Агінскі і падышоў да зброі. Граф заткнуў за пас дзве набітыя пістолі і ўзяў адну са стрэльбаў, састаўленых у радок. — У нас на сёння ёсць яшчэ праца.

***

Раніца была марознай. Неба пасыпала зямлю лёгкімі пушынкамі снегу. Паўтузіна ўзброеных мужчын крочылі па дарозе сярод чорных драбаў спаленых хат. Апошні з іх, высокі хлопец са шнарам на твары, вёў за лейцы двух ахамутаных коней. Коні цягнулі за сабой невялікую гармату, на баках у іх былі пачэплены вялікія вайсковыя торбы з порахам і гарматнымі ядрамі. Мужчыны ішлі моўчкі, толькі час ад часу хрусцеў пад цяжкімі ботамі тонкі лёд замерзлых лужын.

Атрад накіроўваўся да кляштара — адзінага цэлага будынка ў паселішчы. Мужчыны спыніліся, калі выйшлі на пляцоўку перад кляшторнай брамай. Той, які ішоў першым, жэстам паклікаў хлопца з коньмі да сябе. Гэта быў немалады, але, як кажуць, прывабны яшчэ мужчына, з лёгкаю сівізной і вострым позіркам. Ён нешта сказаў хлопцу, і той падвёў коней да зачыненых дзвярэй. З шэрагу выйшаў яшчэ адзін мужчына, і разам яны ўзяліся адчапляць гармату і разварочваць яе да брамы.

Астатнія з атрада рушылі абыходзіць кляштар уздоўж муроў. За першым паваротам іх чакала жудасная карціна.

Пад акном з адчыненымі аканіцамі ляжала палова чалавечага цела. Галава, рукі і абгрызены торс, з якога на прамерзлую зямлю вывалілася шмаццё кішак.

— Яны пачалі жэрці сваіх, — прамовіў Міхал Клеафас Агінскі.

Ён выняў пістолю з-за паса і зрабіў крок да знявечанага цела. Памерлы паварушыўся. Расплюшчыліся стылыя шэрыя вочы. Скручаная далонь пацягнулася да Міхалавай нагі. Агінскі прыцiснуў ботам руку мерцвяка і накіраваў рулю проста ў галаву пачвары. Гучны стрэл разарваў ранішнюю цішыню на шматкі. З-за забранага ў краты акна на двор вырваўся ціхі стогн. Пачвары ў кляштары заварушыліся.

Мужчыны вярнуліся да брамы, дзе ўжо ўсё было падрыхтавана. Набітая гармата ў любы момант магла пальнуць і разнесці на трэскі дубовыя створкі. Атрад адышоў ад уваходу і стаў за гарматай. Пры ёй застаўся толькі хлопец з запаленай паходняй. Мужчыны павольна ўзнялі свае стрэльбы і накіравалі іх на дзверы кляштара. Усе чакалі сігналу.

Перш чым даць загад, Міхал дакрануўся правай рукой да грудзей. Тут, каля сэрца, ва ўнутранай кішэні, ляжаў ліст да жонкі. Агінскі напісаў яго ў той дзень, калі Бакас прынёс пакусанага Ерамея ў замкавы дворык. Граф так і не паспеў адаслаць гэтыя старонкі ў Пецярбург. Міхал узняў руку і даў адмашку: — Плі!

## Забі гэта!

— Забі! Забі! Забі! — крычалі трыбуны. Гледачы заўзята надрывалі глоткі. У неба падляталі сцятыя кулакі і кавалкі ежы. Тысячы вачэй утаропіліся ў цэнтр арэны. Дзве постаці сярод скрываўленага пяску — гладыятар і зрынутая ім пачвара — прымушалі штомоцы гарлаць вольны народ Рыма.

— Забі-забі-забі! — словы зліваліся ў бязлітасны рык.

Ксенас стаяў моўчкі. Паветра з хрыпам выходзіла з грудзей. Ныла запясце правай рукі. Даспехі і меч цягнулі да зямлі. Гладыятар падняў вочы да імператарскай ложы. Імператар кіўнуў і выцягнуў руку з накіраваным долу вялікім пальцам. Трыбуны зараўлі.

*Упершыню пра жудасную пачвару з ускрайкаў імперыі Ксенас пачуў тры месяцы таму. Скончыліся памінальныя гульні ў гонар першага легата імператарскага легіёна — стары ваяка заслужыў пышныя хаўтуры. Ксенас сядзеў у лазні. Загойваў стомленае цела, прыслухоўваўся да размоваў іншых наведнікаў. Непадалёк два чыноўнікі з муніцыпалітэта, якія займаліся ладжаннем гульняў, абмяркоўвалі нядаўнія плёткі. Размова ішла пра дзіўную істоту, якую выкарыстоўвалі ў якасці гладыятара ці то ў Палестыне, ці то ў Тунісе. З той размовы Ксенас шмат прапусціў міма вушэй, але запомніў, што тую істоту адно з плямёнаў знайшло ў пустэльні, на месцы меркаванага падзення зоркі. Гладыятар пакінуў лазню раней за чыноўнікаў, таму не*

*пачуў, чым скончылася тая гутарка.*

*Праз два месяцы Ксенас пабачыў пачвару на ўласныя вочы. «Сын багіні Тэлус у Рыме!», «Мінатаўр з Крыта на арэне Калізея!» ці проста «Пачвара з Палестыны» – як толькі ні называлі вяшчальнікі незвычайнага гладыятара. Прыбыццё дзіўнай істоты ў горад, здавалася, прыцягнула ўвагу ўсіх жыхароў Рыма. Ксенасу ледзьве не з боем давялося прадзірацца скрозь натоўп, каб трапіць на месца, дзе праходзіла працэсія. Масіўная клетка, якую цягнулі чатыры дужыя кані. Суправаджэнне з дзясятка ўсходніх вершнікаў і цэлай кагорты легіянераў. Калона накіроўвалася да імператарскага звярынца.*

*Ксенас стаяў ля ўзбочыны. Легіянеры з картэжа рассоўвалі натоўп шчытамі, каб вызваліць дарогу для воза з клеткай. Адзін з іх падскочыў да гладыятара, каб адсунуць і яго. Але раптам натыкнуўся на суровы позірк Ксенаса і адступіў. Магутная постаць гладыятара заўжды выклікала павагу. Ксенас застаўся на сваім месцы.*

*Клетка набліжалася. Скрозь шчыльна пасаджаныя пруты можна было разгледзець сілуэт істоты. Чорнае масіўнае цела. Выцягнутае грудкаватае тулава. Пляскатая галава. Кароткія, падобныя да слупоў, ногі. І чатыры рукі. Ксенас назіраў, як пачвара павольна перамяшчалася з аднаго боку клеткі да другога. Вачэй істоты гладыятар тады так і не пабачыў.*

Ксенас яшчэ раз глыбока ўздыхнуў. Выцер даланёй з ілба пот, змяшаны з крывёй. Моцна сціснуў тронкі мяча і рушыў да зрынутага ворага. Чорная туша грувасцілася на пяску пасярод арэны. З парэзаў на баку і з абцінка на месцы

адной з чатырох рук сцякала на пясок барвовая густая слізь. Пласціны панцыра, якім былі пакрытыя спіна і грудзі, ледзь заўважна ўздымаліся. Пачвара яшчэ дыхала. Ксенас падышоў да тушы ўшчыльную.

Забі! Забі! Забі! — шалелі трыбуны.

Гладыятар адкінуў шчыт, узяў меч у дзве рукі і ўзняў над гала вой. Ён цэліў у месца, дзе тулава пераходзіла ў галаву — шыі ў пачвары проста не было. Твар істоты быў пакрыты лускавінкамі. З-пад наросту, які можна было б назваць брывом, проста ў Ксенаса ўтаропілася вока. Гладыятар перахапіў гэты позірк і не адводзіў вачэй убок. Ён цудоўна разумеў, што хоча паведаміць яму пераможаная пачвара.

Рукі з мячом няўмольна апускаліся. Трыбуны няспынна раўлі. Істота не рухалася.

*Позірк пачвары. Ксенас упершыню перахапіў яго незадоўга да гульняў, прымеркаваных да дня летняга сонцастаяння.*

*Гэта меліся быць гульні, якіх Імперыя яшчэ не бачыла. Найлепшыя байцы. Дзікія звяры. Рэканструкцыі знакамітых бітваў гісторыі. І, вядома ж, бой са Спараджэннем Багоў, Крыцкім Быком — дзіўнай істотай з ускрайку Імперыі.*

*Да таго часу горад ужо поўніўся байкамі пра неймаверную моц Палестынскай Пачвары. Казалі, што за адну бойку істота перамагла дзесяць прафесійных гладыятараў. Казалі, што звер надвае разарваў Чорнага Тытана — непераможнага нубійскага ваяра. Казалі, што пачвара як з цацкамі расправілася з усімі драпежнікамі Ерусалімскага звярынца. Шмат чаго казалі.*

*Ксенас слухаў усё. Але не ўсяму даваў веры. У гладыятара былі свае крыніцы звестак. Лар Мастарна – гаспадар Ксенаса – меў шчыльныя сувязі з чыноўнікамі муніцыпалітэта. За тыдзень да гульняў Лар выклікаў гладыятара.*

*– Ты найлепшы, – сказаў Мастарна, – я ведаю, ты пераможаш усіх людзей. Але ў цябе будзе і іншы супернік. Як мне паведамілі, пераможца гульняў будзе змагацца з Палестынцам. Я хачу, каб ты быў падрыхтаваны. Увечары ты пабачыш, што з сябе ўяўляе гэтая пачвара. Мой сябар правядзе цябе ў імператарскі звярынец. А цяпер ідзі. Рыхтуйся. І ўдачы табе.*

*Дзённая трэніроўка была цяжкай. Байцы адпачывалі ў цені ўнутранага дворыка гладыятарскага дома. Нехта пераказваў апошнія навіны, нехта апавядаў небылічкі, большасць моўчкі слухала.*

*– Ведаеце што? Бык задыхаецца, – прамовіў адзін гладыятар амаль шэптам. – Гэты палестынскі бык задыхаецца. Я чуў ад аднаго знаёмца – ён бачыў пачвару на арэне. Палестынец слабее падчас бою. Спачатку ён вельмі моцны. Рве направа і налева. Але чым даўжэй цягнецца бойка, тым больш слабым ён робіцца. Паветра для яго атрута. Той знаёмец мяркуе, што на нябёсах, адкуль, як кажуць, прыляцеў Палестынец, паветра іншае, чысцейшае. А наша прыземнае паветра для яго занадта бруднае. Ён не можа яго вельмі часта ўдыхаць. Але калі б'ешся, то даводзіцца больш дыхаць, вось Палестынец і загінаецца.*

*Ксенас слухаў гладыятара вельмі ўважліва. Яшчэ адна показка пра Палестынскую Пачвару. Але цяпер, калі ён ведаў, што пачвара стане ягоным супернікам на арэне, кожная звестка*

*пра ейныя слабасці была для Ксенаса карысцай.*

*Увечары ў дзверы пакоя, у якім начаваў гладыятар, пагрукалі. Госць прадставіўся пасланцом ад Лара Мастарны. Сказаў, што гаспадар загадаў, каб Ксенас ішоў разам з ім. Гладыятар пярэчыць не стаў.*

*У імператарскі звярынец яны ўвайшлі праз ход, які выкарыстоўваўся для падвозу ежы. Праваднік і гладыятар прыладзіліся за возам, поўным гародніны, і такім чынам прайшлі ў сярэдзіну звярынца. Пасланец працягнуў руку: – Табе туды. Толькі хутка – у нас мала часу. Чакаю тут.*

*Ксенас кіўнуў і накіраваўся ў праход паміж клеткамі, на які паказваў праваднік. У праходзе было цёмна. Толькі некалькі паходняў свяцілася на сцяне за шэрагам клетак. Застаялы жывёльны пах рэзаў ноздры. У клетках увесь час нешта рухалася, шамацела. З паўцемры даносіліся енкі, скавытанне і рык.*

*Праход вывеў гладыятара да чыстай, прыбранай пляцоўкі, пасярод якой высілася масіўная клетка. Тая самая, якую везлі праз горад. Ксенас стаў на ўскрайку пляцоўкі і не наважваўся падысці бліжэй. Гладыятар фізічна адчуваў, як ад клеткі ў паветры разліваецца пах нянавісці, болю і смерці. Ён не адчуў яго раней, у спякотным паветры гарадскіх вуліц. Цяпер гэты пах пужаў Ксенаса. Знаходзіцца ў такой блізкасці ад пачвары яму было надзвычай непрыемна.*

*Істота ў клетцы заварушылася. Палестынец адчуў прысутнасць чалавека. Ён выйшаў з ценю і ўзяўся за пруты ўсімі чатырма рукамі. Скрозь шчыліну на гладыятара ўтаропілася двое невялікіх чырвоных вачэй. Ксенас адчуў, як нешта ў глыбіні галавы пачало падштурхоўваць яго да клеткі. Ногі гатовыя былі*

*самі наблізіць цела да пачвары. Ксенас стрымаў позыў. Страсянуў галавой і самастойна падыйшоў бліжэй.*

*Вочы пачвары неадрыўна глядзелі ў вочы Ксенаса. Гладыятару здавалася, што Палестынец позіркам праціна яго наскрозь. Гэты позірк цяжка было вытрываць, але Ксенас не адводзіў вачэй. Як толькі ён спыніўся за колькі крокаў ад клеткі, у галаве зноў нешта заварушылася. Перад вачыма адна за адной паляцелі карцінкі: зорнае неба, блакітны шар, агонь, пустэльня. Такім чынам Палестынец размаўляе са мной, – зразумеў гладыятар.*

*Ксенас бачыў агромністую скрыню з бліскучага металу, што ляжала пасярод пяску. Бачыў чорнае цела пачвары, акружанае людзьмі. Бачыў клетку. Бачыў арэну. Бачыў, як Палестынец разрывае пашчу ільву. Потым выявы змяніліся незнаёмымі краявідамі. Гладыятар бачыў гіганцкія гарады з высачэзнымі дамамі, што ўздымаліся да самага неба. Бачыў караблі, якія плылі сярод аблокаў. Караблі, што ляцелі ў чорнай прасторы. Раптам карцінкі зніклі.*

*– Вызвалі мяне, – гэта не былі словы ў звычайным выглядзе. Гэта была думка, якую пачвара проста ўклала ў галаву Ксенаса. Гэта была не просьба. Гэта быў загад. Гладыятару зноў мімаволі захацелася падысці бліжэй да клеткі. – Вызвалі мяне, і я вярнуся туды, адкуль прыляцеў, – гучала ў галаве Ксенаса. Гладыятар не паддаваўся. Ён адчуваў непераадольную чужасць істоты, якая размаўляла з ім загадным бескампрамісным тонам. Пах смерці і нянавісці, які Ксенас адчуў раней, яшчэ больш узмацніўся.*

*Гладыятар раптам зразумеў, проста ўсвядоміў, што ўсе паказкі пра Палестынскую Пачвару былі праўдай. Палестынец*

*сапраўды перамог дзесяць прафесыйных гладыятараў. І не проста перамог. Ён іх забіў. Усіх да аднаго. Забіў, а целы разарваў на шматкі. Гэтак жа ён разрываў і драпежнікаў у Ерусаліме. Ксенас прыгадаў карцінку з ільвом, якую паказваў яму чужынец. Пачвара ненавідзела ўсё жывое. Ненавідзела сваёй чужынскай нянавісцю, і таму нішчыла. Жорстка і бескапрамісна.*

*Гэтак жа жорстка і бескампрамісна Палестынец лез у галаву гладыятара з загадамі. Але Ксенас не быў бязвольнай жывёлай, ён мог супраціўляцца.*

*– Не, – прамовіў гладыятар. – Ніколі. Ён працягваў глядзець чужынцу ў вочы.*

*Ксенас зразумеў, чаму Палестынец павінен памерці. Чужынец прыйшоў з іншага свету. Свету, населенага такімі ж пачварамі, як і ён. Іх многа. Ксенас прыгадаў гарады да нябёсаў. Вельмі многа. Палестынец не ведае літасці. І ўвесь ягоны род таксама. Ён можа толькі падначальваць, а тое, што падначаліць не ўдаецца – забіваць. Разам яны падначальваюць і забіваюць цэлыя сусветы. Калі адпусціць Палестынца, то праз пэўны час ён прывядзе сюды цэлы легіён такіх жа, як сам, бязлітасных пачвар. Яны знішчаць Імперыю, яны знішчаць людзей. Пацверджанне сваіх думак Ксенас бачыў у глыбіні чырвоных зенак чужынца. Палестынец павінен памерці.*

*– Тады ты памрэш, – пачуў Ксенас пагрозлівае пасланне ў сваёй галаве. Гладыятар ужо аддаляўся ад клеткі. Ён пабачыў усё, што яму было трэба.*

*Адзінае, што засталося не высветленым, – гэта ці сапраўды паветра – атрута для пачвары. Але адказ на гэтае пытанне гладыятар знойдзе самастойна падчас бойкі.*

*Смяротнай бойкі з Чужынцам.*

— Здохні!

Магутны выкрык гладыятара на імгненне заглушыў гоман трыбун. Меч з хрустам увайшоў у цела ворага. Ксенас зрабіў яшчэ некалькі моцных удараў. Рассёк панцыр і доўга варочаў мячом у вантробах пачвары. Ажно да таго моманту, пакуль іскра жыцця не пакінула ейныя чырвоныя вочы. Палестынец памёр.

Ксенас адкінуў меч, зрабіў пару крокаў і апусціўся на калені. Гэта быў цяжкі бой. І ён перамог. Трыбуны раўлі няспынна. Гладыятар чуў сваё імя, падхопленае тысячай галасоў. Імператар выцягнуў руку ва ўхвальным жэсце. Але Ксенас ні на што не звяртаў увагі. Ён быў далёка. Ён прыгадваў карцінкі, якія паказваў яму Палестынец: зорнае неба, блакітны шар, агонь.

Мінуць гады, дзясяткі гадоў, але гладыятар так і не зможа спакойна ўспрымаць весткі пра падзенне зорак.

# Звычай

Кола рыпела неміласэрна. Дарога пайшла ўгару, воз запаволіў свой ход, і левае кола задняй восі, ужо колькі гадоў не мазанае, пачало няшчадна рэзаць вуха металічным скрыгатам. Стары мімаволі сцепануўся і паспяшаўся павярнуць галаву так, каб непрыемны гук успрымаўся перадусім тугім на слых правым вухам. Такім чынам у поле зроку Старога незнарок трапіла груда іржавага гарэлага жалеза, нагрувашчаная непадалёк ад дарогі.

Т-72, — прыгадаў Стары. Апорныя каткі заглыбіліся ў глебу амаль цалкам, патанулі разам з тракамі. Чорна-буры корпус ляжаў дном на зямлі, а вежа, сарваная выбухам, — метраў за пяць, з выкручанай у неба руляй. Добра ж яго прыпякло, — падумаў Стары і паглядзеў на возніка. Хлопчык — унук Старога — не звяртаў на танк аніякай увагі. Для яго гэты старажытны цуд тэхнікі быў такой жа часткай пэйзажу, як, скажам, які валун ці дрэва. Андрэйка моўчкі ўтаропіўся ў дарожную каляіну і амаль не рухаўся, толькі час ад часу папраўляў курс калёс лейцамі.

Воз тым часам ускараскаўся на пагорак, і каняжка, адчуўшы палёгку, прыдаў ходу. Брыдкае рыпучае кола прыціхла. Стары азірнуўся, кінуў апошні позірк на танк, а затым павярнуўся да сутулай спіны юнага возніка і доўга глядзеў на зашмальцаваную скураную світку і русыя пасмы на Андрэйкавай патыліцы.

— Пашчасціла малому, — падумаў Стары, — ён ніколі

не бачыў гэтай машыны ў дзеянні. — Кашаль раптоўна падабраўся да горла. Стары зайшоўся, закрываючы рот даланёй ад сліны і макроты. — І ўжо ніколі не пабачыць.

— Як вы, пане? Усё добра? — падаў голас Андрэйка. Упершыню за ўвесь доўгі шлях.

— Нічога так, сынку, — усміхнуўся Стары. Прамаўляючы сваё кароткае пытанне, Андрэйка так і не павярнуўся да суразмоўцы. Працягваў пільна сачыць за дарогай. Паводле голасу Стары здагадаўся: прычынай таму былі чырвоныя запаленыя вочы і змочаныя слязьмі шчокі малога. Андрэйка быў самым малодшым унукам і вельмі любіў дзеда. Таму яго і абралі.

— Усё добра, — Стары паспрабаваў лепш уладкавацца на сене і паправіў мех з рэчамі пад бокам. Каб было зручней ехаць. Але воз нечакана наехаў на вялікі камень. Стары падскочыў, зрушыўся з месца — і ўсе намаганні пайшлі дарма. — А бадай цябе, — прашаптаў Стары. — Прабачце, пане, не заўважыў, — зноў загаварыў Андрэйка і яшчэ крапчэй узяўся за лейцы. Конь цягнуў воз з нязменнаю хуткасцю і сілай. — Добры конь, — падумаў Стары, — чорны як смоль, сухарлявы, цягавіты. Пяць гадоў ужо жыве і нічога. Адзінае, што псавала агульную карціну — гэта рудыментарная нага з несфармаваным капытам, што боўталася адразу за правай лапаткай каня. Але вялікай шкоды яна не рабіла. Конь добры.

Стары глядзеў, як матляецца адростак на чорным конскім баку і прыгадваў старыя часіны. Цяпер такі добры конь не рэдкасць. Цяпер сітуацыя трохі выправілася. А вось

раней, гадоў дваццаць таму, кожнае другое жарабя нараджалася з выродствамі, несумяшчальнымі з жыццём. Палова выжылых памірала, не пражыўшы і года. Астатнія жылі не нашмат даўжэй. Цяжкія былі часіны.

Стары зноў зайшоўся кашлем. Керхаў доўга, пырскаў макротай і скаланаўся ўсім целам. Андрэйка не вытрываў — азірнуўся. Здагадка Старога спраўдзілася — вочы малога былі мокрыя.

— Добра, усё добра, — Стары адной рукой прыкрываў рот, а другую працягнуў да хлопца і паклаў далонь яму на плячо. — Ды не хвалюйся ты так. Усё будзе добра.

Ён глядзеў у чырвоныя Андрэйкавы вочы і ўсміхаўся. Слязінка скацілася па хлапчуковай шчацэ: — Навошта яны так?

— Так трэба, — цвёрда адказаў Стары і ўсмешка знікла з ягонага маршчыністага аблічча. — Я сам у свой час прымаў гэтае рашэнне, разам з усімі. — Пальцы сціснулі плячо хлопца. — Глядзі, куды правіш!

Конь, пакінуты без увагі, выйшаў з каляіны і пацягнуў воз у прыдарожныя хмызы. Андрэйка схамянуўся і з усяе моцы пацягнуў за лейцы: «Тпру-у, куды прэш, курва!» Стары прыняў руку са спіны малога і адвёў позірк. Старэчыя вочы наліваліся чырванню — ён таксама ледзьве стрымліваў слёзы. Што ж зробіш, рашэнне прынятае, думаў Стары. Так будзе лепш для людзей, лепш для Паселішча. У нашыя цяжкія часіны гэта правільнае рашэнне.

Стары прымусіў сябе не думаць пра мінулае. Хай тыя цяжкія часіны ідуць лесам, цяпер ён не хацеў мучыць сябе

развагамі. Лепш агледзецца, ачысціць галаву ад цяжкіх успамінаў. Але нізкае шэрае неба, брудна-рудая расліннасць, холад і брыдкі дождж не надта таму спрыялі. Хоцькі-няхоцькі ўспаміны ўсё адно прыходзілі.

Далей ехалі моўчкі. Час цягнуўся марудна, воз рыпеў нязмазанымі коламі, гойдаўся на калдобінах і ямінах, нібы човен на хвалях. Паводле падлікаў Старога — сонца непасрэдна пабачыць было нельга — ужо даўно мінуў поўдзень. Выехалі на досвітку — значыцца, праз гадзінку-дзве ўжо будзем на месцы, меркаваў Стары. Дарога тым часам змянілася — перайшла з ледзьве бачнай крывой каляіны ў больш-менш роўную гравійку. Паабапал яе ўсё часцей пачалі трапляцца прыкметы цывілізацыі, як, прынамсі сам сабе, называў усё гэта Стары: напаўразбураныя пабудовы, паваленыя апоры электраперадач, колькі разоў сустракаліся рэшткі іржавай тэхнікі. Стары нават разгледзеў у прыдарожных хмызах аблуплены знак «галоўная дарога». Ніводнай цэлай рэчы, усё занядбанае, пазбаўленае чалавечага нагляду на працягу цэлых дзесяцігоддзяў. Стары не стаў абурацца, маўляў, які свет загубілі, якое жыццё страцілі, не, ён даўно ўжо не абураўся на гэты конт. Ён глядзеў на гэта па-філасофску: страцілі — значыцца, так трэба было. Затое знайшлі новае — тое ж Паселішча, Камуна, дзеці, унукі, жыццё працягваецца нягледзячы ні на што.

Працягваецца… Але цяпер без ягонага — Старога — удзелу. Калі трыццаць гадоў таму на радзе мужчын Паселішча было прынята рашэнне аб аднаўленні

старажытнага звычаю, ён, малады яшчэ мужчына, не думаў, што дажыве да гэтага моманту. Тады, на пачатку супольнага жыцця, калі нешматлікім выжылым удалося-такі згуртавацца, арганізаваць Паселішча і вытрываць ва ўмовах, калі ўвесь свет ляцеў у бездань, дык вось тады нельга было дакладна сказаць, дажывеш ты да вечара ці не. Таму думка пра тое, каб па дасягненні шасцідзесяцігадовага ўзросту жыхароў вывозіць за межы Паселішча, у руіны сталіцы — дзеля пазбаўлення ад лішняга рота, — здавалася, безумоўна, рацыянальнай, але неажыццяўляльнай. Дажыві паспрабуй да шасцідзесяці гадоў, калі ледзь не штодзень даводзіцца адбіваць напады марадзёраў, а збожжа, засеянае ўвесну, за лета амаль цалкам гіне ў напоўненай радыяцыяй глебе.

Ён дажыў. Адзін з нямногіх. Бачыў шмат чаго, шмат чаго зрабіў, мае пэўны досвед, але рукі ўжо не тыя, вочы падводзяць і сілы ў старэчым целе не стае, каб трымаць зброю ці араць поле. Лішні рот. У цяжкія часіны карміць бескарыснага ўтрыманца — прыхамаць, што можа прывесці да сумных наступстваў. Стары быў згодны з гэтым трыццаць гадоў таму, згодны і цяпер. Вось толькі вочы чамусьці поўняцца слязьмі.

Стары выцер шчокі рукавом і паглядзеў на Андрэйкаву спіну. Унук. Сёмы. Згодна са старой традыцыяй, менавіта самы малодшы ўнук мае выправіць дзеда ў апошні шлях. Пераемнасць пакаленняў. Стары перавёў позірк наперад, на дарогу. Воз звярнуў на асфальт. Пачалася шырокая дарога, падзеленая пасярэдзіне металічнай перагародкай.

Аўтастрада, — прыгадаў ён забытае слова. Праз расколіны ў пакрыцці прабівалася трава, там-сям раслі маладыя дрэўцы і хмызняк. Неўзабаве ўжо і Мінск. Стары ўглядаўся ў далечыню, там, на мяжы небакраю, дарога ўпіралася ў шэрую стужку дамоў, спальныя раёны — пачатак горада.

— Ну, што, сынку, трэба нам ужо развітвацца, — кожнае слова давалася з цяжкасцю. — Далей я сам.

Андрэйка пацягнуў лейцы, спыніў каня, азірнуўся. Баючыся сутыкнуцца са Старым позіркам, пачаў шныпарыць рукой пад сядзеннем. Нарэшце намацаў, што шукаў, і працягнуў старому. АК-47, укарочаны міліцэйскі варыянт.

— Бярыце, — Андрэйкава рука дрыжэла. — Вам калаш больш спатрэбіцца.

Стары ведаў: Калашнікаў — прозвішча галоўнага інжынера-канструктара, які змайстраваў гэтую зброю. Для Андрэйкі ж гэта было намінальнае імя аўтамата, ён нават не ведаў, хто такія інжынеры. Можа, гэтак і лепш.

— Не-е, мне ён якраз без патрэбы, а вось табе яшчэ вяртацца, — Стары адпіхнуў працягнутую зброю. — Тым больш, за страту аўтамата цябе па галаве не пагладзяць, — паспрабаваў ён усміхнуцца. Выйшла непераканаўча.

Андрэйка апусціў руку. Стары стаў збірацца, ускінуў заплечнік і пасунуўся да краю воза.

— Вам дапамагчы? — усхапіўся Андрэйка.

Але Стары ўжо злез на зямлю самастойна. Ён стаў і, гледзячы ў шэрае неба, глыбока ўдыхнуў вільготнае паветра.

— Далей я сам, — паўтарыў Стары і паглядзеў на Андрэйку. Нарэшце іхныя позіркі сышліся і абодва не змаглі стрымаць пачуццяў. Андрэйка падскочыў да Старога і сціснуў дзеда ў абдымках. — Ну, досыць, досыць ужо, — занепакоіўся Стары. — Табе яшчэ назад ехаць. Беражы сябе. Беражы сястру і бацькоў. Усім шчасліва, — прамовіў Стары, кінуў апошні позірк на ўнука, развярнуўся і рушыў наперад па аўтастрадзе.

За ўсю дарогу да горада Стары ніводнага разу не азірнуўся. За спінай яго засталося цяжкое, галоднае, беспрасветнае, бязрадаснае, але цікавае жыццё. Трыццаць гадоў, аддадзеных Паселішчу, аддадзеных барацьбе за выжыванне. І цяпер ён прынясе апошнюю ахвяру камуне, родным і любімым людзям. Аддасць самае дарагое.

Розум апанавалі смутак і туга. Адзінае, што цешыла Старога ў гэты час, — наперадзе чакаў горад ягонай маладосці. Сонечны Мінск.

# Як у старыя добрыя часіны

Крок. Цяжкі бот пакідае ў гразі глыбокі след. Яшчэ крок. Ногі ныюць ад празмернага цяжару. Кожны новы крок аддае ў галаве глухім ударам. Шыя паварочваецца з цяжкасцю. Перашкаджае цвёрды свінцовы каўнер. Дыхаць цяжка. Паганы процігаз з замкнёным цыклам генерацыі кіслароду не можа працаваць нармальна. Нічога не відаць. Праклятае шкло вечна прэе. Хочацца піць. Зашчаміла вадаводную трубку або скончылася вада ў пляшцы. Нічога не чуваць. У вушах трэск радыёперашкод і грукат уласнага сэрца. Лічыльнік Гейгера — такая ж незаменная рэч, як гадзіннік. Усё разам — гэта касцюм радыяцыйнай абароны. Дваццаць кілаграмаў свінцу плюс амуніцыя. Пачуваешся сярэднявечным рыцарам у даспехах. Праўда, без баявога каня.

БМП падарвалася на міне за некалькі кіламетраў адсюль. Кіроўца загінуў адразу. Сяржанту адарвала абедзве нагі. Ён памёр на хвіліну пазней. Вось і даводзіцца цяпер пешшу пераадольваць зваротны шлях да базы. А шлях не блізкі. Зусім не блізкі. Сёння мы заехалі надта далёка. Далей звычайнага. Глыбінная выведка, бадай яе…

Дзе мы знаходзімся? А якая розніца? Захад Нямеччыны або ўсход Францыі — розніцы няма, усюды адно і тое ж. Скручаныя, счарнелыя ствалы дрэваў, якія раней былі лесам. Глейкі бруд уперамешку з шэрым пылам, які раней быў травой. Крушні камянёў і бітай цэглы, якія раней былі

хатамі. І, вядома, фон. У сярэднім 800-900 мкР/г. Але ёсць месцы, дзе можна натыкнуцца на цэлы рэнтген. А то і на паўтара.

Крок. Яшчэ крок. Нага ў боце ўваходзіць у мяккую гразь амаль да костачкі. Кожны крок даецца з вялікай цяжкасцю. Нічога не відаць. Чортава шкло. Дыхаеш на яго, але ад гэтага робіцца толькі горш. Антыкандэнсатныя мембраны супраць саправання даўно скончыліся. Лічыльнік Гейгера трашчыць як звар’яцелы. Але да гэтага гуку хутка абвыкаеш. Ужо абвык. Даўно абвык.

Выспачкі жыцця ў акіяне смерці. Усюды небяспека. Радыяцыйная. Хімічная. Біялагічная. Глыбінны варожы рэйд. Падрыў атамнага зараду. Не, гэта ўжо зрэдку. Апошнім часам з'явіўся новы від небяспекі. Унутраная. Сіндром Ляпунова. Псіхафізічнае захворванне. Быў баец — і няма яго. Трасца, трызненне, тэмпература пад сорак. Сэрца на знос. Лёгкія на знос. Шпаркі тэмп. Арганізм доўга не вытрымлівае. Прыступ можа здарыцца ўсюды. У бункеры. У БМП. У рэйдзе. Баец падае, трасецца, шэпча. Праз некалькі хвілін яго ўжо няма. Тых, хто выжыў, мала. Вельмі мала. Дый тыя ўжо недзеяздольныя. Яны распавядаюць, прынамсі тыя, хто можа гаварыць, дзіўныя рэчы. Цікавыя рэчы. Пра тое, як было раней. Пра старыя добрыя часіны.

Крок. Яшчэ крок. Балазе, няма магчымасці любавацца пейзажам. Шкло ў процігазе сапрэла канчаткова і незваротна. Нічога яго не бярэ. Маўляў, ідзем па прыборах.

Вось ён, вынік вайны. Цэлыя кантыненты ператвораны ў знежывелыя пустэльні. Паветра запоўнена радыеактыўным

пылам. Моры забруджаны і атручаны. Але чалавеку гэтага мала. Чалавек усё роўна працягвае ваяваць. Чалавек — вельмі жывучая істота.

Мы закапаліся пад зямлю. Глыбока пад зямлёй, дзе няма радыяцыі, а паветра праходзіць дзясяткі стадый ачысткі, пабудаваныя цэлыя гарады. У гэтых гарадах тысячы людзей працягваюць жыць, працаваць і… ствараць усё новыя і новыя сродкі знішчэння сабе падобных. Так усюды. І ў нас у Савецкім Звязе. І ў іх — у Злучаных Штатах. Еўропа толькі палігон, дзе ўся гэтая зброя прыводзіцца ў дзеянне.

Крок. Пад ботам нешта хруснула. Зямля ператвораная ў шкло. Мусіць, тут калісь гахнула «кузькіна маць». Якое хараство. Роўная як стол шкляная паверхня. Ісці лягчэй. На жаль, нічога не відаць. Праклятае шкло.

Яшчэ крок. Нічога. Скора будзем дома. Дома ў бункеры. Як гэта міла. Бетонныя сцены. Сырая падлога. Сухое вычышчанае паветра. Дыстыляваная вада. Штучная ежа і кансервы на святы. Як гэта ўсё абрыдла. Хочацца, каб як раней. Як у старыя добрыя часіны. Блакітнае неба над галавой. Зялёная трава пад нагамі. Смак свежага хлеба. Сонца, паветра і вада.

Сонца няма больш за год. Неба зацягнута шчыльным слоем аблокаў. Часам падае снег. Шэры знежывелы снег, падобны на попел. І гэта ў жніўні. Снег кладзецца роўным пластом на руіны, на рэшткі дрэваў, на пакутлівую зямлю. Ён надае ўсяму, да чаго датыкаецца, свой шэра-сталёвы колер. Але нічога не мяняецца. Проста чорнае робіцца шэрым. А праз нейкі час зноў чорным. Пейзаж усё той жа.

Крок. Яшчэ крок. Колькі яшчэ ісці? Гадзіну? Дзве? Суткі? Спыняцца непажадана. Спынішся на прывал. Адпачнеш. А потым у дарозе скончыцца кіслarod і ты задушышся. Бо лепш задушыцца ў процігазе, чым удыхаць атмасфернае паветра. Вядома, кіслароду стае надоўга. На прыстойны час. Суткі, а мо і двое. Але гэты час можа скончыцца ў самы непрыдатны момант. Таму даводзіцца ісці.

Крок. Цвёрдая паверхня скончылася. Зноў ідзем па гразі. Яшчэ крок. Нічога не відаць. Чортава паганае шкло. Але не, пачакай, нешта ўсё-ткі відаць. Скрозь заслону прабіваецца святло. Наперадзе маячыць нешта зялёнае. Рука інстынктыўна цягнецца да процігаза, каб працерці непаслухмянае шкло. І — дзіва дзіўнае! — заслона спадае з вачэй. Наперадзе, паміж абгарэлымі ствaламі дрэваў, віднеецца маленечкая зялёная палянка. Зусім не кранутая разбурэннем. Палянку асвятляе роўнае сонечнае святло. Па баках яе атачаюць жывыя зялёныя дрэвы.

— Леха што з табой?! Лейтэнант, аууу! Сяржук, хутчэй сюды.

— Асцярожна! Апусці яго на зямлю. Правер дыханне.

— Дыхае. Як паравоз. Пульс пачашчаны.

— Паглядзі сюды. Бачыш, шкло зусім сапрэла. Першая прыкмета… — Яшчэ штосьці мармыча. Дрэнна. Зусім дрэнна.

— Усё. Пайшоў у разнос лейтэнант. Другі выпадак за тыдзень.

— Маўчаць! Забі зяпу! Мы яго выцягнем. Праўда,

Сяржук? Праўда… — Выцягнем.

Галасы. Галасы змаўкаюць дзесьці ззаду. А палянка ўсё бліжэй і бліжэй. Чуецца спеў лясных птушак. Сакавітая зяляніна травы лашчыць позірк. Пасярод палянкі, ледзь узвышаючыся над травой, стаіць пень. Так і карціць на яго сесці. Як у старыя добрыя часіны. Сесці і ўдыхнуць свежага паветра на поўныя грудзі. Скінуць свінцовыя даспехі касцюма радыяцыйнай абароны. Сцягнуць абрыдлы процігаз. Удыхнуць паветра на поўныя грудзі і адчуць, як на душы робіцца лёгка і спакойна. Лёгка і спакойна…

Як у старыя добрыя часіны…

## У мяне няма пачуццяў, але я павінен кахаць

— Чалавек, ты вельмі прыгожы, чалавек, ты мне падабаешся, чалавек, я без цябе памру, чалавек, — голас увесь час мяняўся: жаночы шэпт, поўны юру і жарсці, праз секунду пераходзіў у старэчы ледзь чутны скрыгат, той — у дзіцячы звонкі напеў. Час ад часу словы разрывала хваля скажэнняў — пэўна, барахліў лінгвамадулятар, — але голас не пераставаў прамаўляць: — Чалавек, ты мне падабаешся, чалавек, я без цябе памру, чалавек…

Халера, зноў гэта, — я расплюшчыў вочы і сеў у ложку. Позірк на гадзіннік — сёння на дваццаць хвілін раней, чым звычайна. Што гэта на яе найшло? Я падняўся. Уключылася святло ў пакоі. Старыя свяцільні доўга гудзелі і лыпалі, пакуль не ўвайшлі ў стабільны рэжым працы. Я азірнуўся ў пошуках адзення. Камбез аранжавай плямай вылучаўся сярод шэрасці бетоннай падлогі. Я пацягнуўся па яго. Змоклая ад поту прасціна непрыемна саслізнула са спіны. Значыць, зноў сніліся жахі. Добра, што не запомніліся.

— Чалавек, ты мне падабаешся, чалавек, — не сціхаўся голас.

— Заткніся, — ледзь чутна прашаптаў я і пачаў адзявацца.

Выйшаўшы ў калідор, я накіраваўся ў бок харчовага модуля. Голас суправаджаў мяне дарогай. Ён ліўся з дынамікаў сістэмы апавяшчэння, сыпаўся з насценных

інфавокнаў — тых, што яшчэ працавалі, — біў з аўдыякалонак спартовай залы. Ды што тут казаць, нават мой электронны гадзіннік спрабаваў прапішчаць мне гэтыя словы на свой гадзіннікавы лад. Да гэтага шторанішняга вітання цяжка было прызвычаіцца.

— Ну заткніся ж ты, калі ласка, — усё гэтак жа ціха прагаварыў я. Сістэма не любіла, калі нехта прыпыняў яе слоўныя выліванні недарэчнымі воклічамі. Кэры ўжо за тое паплацілася.

А яшчэ гэтая блядская Сістэма не магла вызначыцца з уласным родам.

— Я вельмі па тебе сумавала, чалавек, — прамовіў хрыпаты мужчынскі голас у той момант, калі я ўвайшоў у сталоўку. Адзіны стол у пакоі, як заўжды, быў сервіраваны для сняданку. Над разагрэтай ежай уздымалася пара.

— Дзякуй табе, я таксама вельмі сумаваў, — я стараўся надаць голасу як мага больш пагардлівасці. Гэта мне ўдавалася добра. Я ведаў, што Сістэма не магла адрозніваць чалавечыя інтанацыі. Яна ўспрымала толькі сэнс сказанага.

Старая мадыфікацыя.

— Смачна есці, мой дарагі чалавек, — загаварыў бясполы металічны голас, калі я прысеў за стол.

Балюча пра гэта ўспамінаць, але калі нас было чацвёра, Сістэма ўсё роўна ўжывала пры зваротах адзіночны лік: Чалавек, я па вас сумаваў, чалавек.

Цяпер я застаўся адзін, і толькі тры лішнія порцыі на стале нагадваюць, што так было не заўжды.

Я, Кэры, Раян і Фіш — мы былі рэйдарамі. У

пасляваенным свеце адзіночкам даводзіцца вельмі цяжка. Адзіночка доўга не жыве. Выжываюць групы. Мы з Раянам былі з аднаго горада. Дакладней, з паселішча, што з'явілася побач, пасля таго, як горада не стала. Мы збеглі адтуль, калі яшчэ былі дзецьмі. Спачатку мы вельмі шкадавалі, што паддаліся юнацкай апантанасці прыгодамі. Але потым, праз гады, дайшла навіна, што наш горад быў разбураны другі раз, цяпер ужо праз напад малойцаў аднаго з мясцовых князькоў. Ніхто не выжыў.

Мы вандравалі, выжывалі, рабавалі. Мы забівалі. Так, але толькі каб самім не быць забітымі. Мы знаходзілі сяброў: спачатку Кэры — мы з Раянам вызвалілі яе з палону, потым Фіша — ён напрасіўся да нас сам. Так мы сталі рэйдарамі — узброенымі пілігрымамі вялікай ядзернай пустэльні. Наймітамі, марадзёрамі, рабаўнікамі, ці проста шукальнікамі прыгод на сваю задніцу. Чорт вазьмі, ды мы былі, бадай, самай вядомай і ўдачлівай бандай на паўночным узбярэжжы.

Пакуль не спаткалі старога Эрыксана.

— Чырвоны матрычны ключ, — водбліскі паходнага вогнішча імкліва мянялі рысы твару суразмоўцы. — Мне патрэбны толькі чырвоны ключ, усё астатняе, што знойдзеце, можаце забраць сабе.

— Дзе? — Раян з дзяцінства не мог пахваліцца цярплівасцю.

— Гэты бункер уваходзіў у сістэму камандных бункераў сувязі. Знайсці яго даволі цяжка — раней да вайны рыхтаваліся добра, — але ў мяне ёсць мапа! — выцвілы

пергамент дакумента быў таго ж колеру, што і скура старога.

— А адкуль вы ведаеце, што там ужо нікога няма? — Філ падыходзіў да пытанняў прагматычна.

— Ведаю, — вымавіў Эрыксан і заціх. Толькі начны вецер працягваў шапацець сярод муроў разбуранай царквы.

Тэма з бункерам нам вельмі спадабалася. У такіх месцах, асабліва калі іх ніхто не чапаў ажно з вайны, можна было здабыць шмат цікавых рэчаў. Мы пагадзіліся на ўмовы старога.

Насамрэч знайсці бункер было няцяжка — мапа Эрыксана была досыць дакладнай. Цяжка было забрацца ўсярэдзіну. Калі мы дакапаліся да ўваходу — а ён быў пахаваны пад метровым пластом пяску, — то пабачылі, што дзверы бункера зачыненыя намёртва. Прытым Эрыксан казаў, што з уваходам праблем не будзе.

Кэры — наша спецыялістка па выбухоўцы, — агледзеўшы металічныя створкі, толькі пацiснула плячыма. Патрэбнага зараду ў нас не было. Дый наўрад ці ў каго ён быў.

— Тут мо толькі вадародка возьме, — Кэры сплюнула на зямлю.

Мы сталі лагерам ля бункера. Пасля неспакойнай ночы — недзе паблізу чуўся рык дзікіх жывёл — я, як ранішні вартавы, абыходзіў месца начоўкі. Праходзячы міма бункера, я заўважыў святло, што лілося з адчыненых дзвярэй. Цяжкія металічныя створкі былі рассунутыя. Стары не зманіў. Сябры, узрушаныя такой навіной, кінуліся

збіраць рэчы — а раптам дзверы зачыняцца.

У бункер я ўваходзіў апошнім. Калі Раян знік у нетрах калідора, я на імгненне затрымаўся і азірнуўся. Над астылым пяском пустэльні ўзыходзіла барвовае сонца. У глыбіні свядомасці нарадзілася думка: а што, калі гэта мой апошні світанак? Тады я загнаў гэтую думку ў тыя ж глыбіні, адкуль яна ўзялася. І зрабіў крок у пастку.

Шэрыя бетонныя сцены, абшытыя пластыкавымі панэлямі, люмінісцэнтныя лямпы праз кожныя пяць крокаў, прахалода. Калідор вывеў нас да ліфтавой шахты. На дзіва, тут усё працавала. Ліфт умомант зрэагаваў на выклік, і мы хутка спусціліся да асноўных памяшканняў бункера.

Гэта была сапраўдная скарбніца. У першую чаргу мы наведалі склады. Харчы, зброя, амуніцыя. Усе замянілі свае старыя стрэльбы на аднолькавыя вінтоўкі армейскага ўзору. Напхалі заплечнікі патронамі, кансервамі, фільтрамі, лекамі. Карацей, бралі ўсё, што яшчэ не вычарпала тэрміну прыдатнасці. Сабе я нагледзеў шматфункцыянальны электронны гадзіннічак.

Да таго ж у бункеры была вада. Шмат вады. Нават працаваў душ. Для мяне з Раянам, як гарадскіх, душ не дзіва, але для Філа, каторы вырас у пустэльні, вада, што лілася з-пад столі і якую не трэба было ашчаджаць, была сапраўдным цудам. Мы стаялі пад гарачымі струменямі і гуляліся як дзеці, пырскаючы адзін у аднаго. Пасля мы пераапрануліся — на складзе быў вялікі запас тэхнічнага адзення. Чыстыя, прыбраныя ў яскравыя аранжавыя камбінезоны, мы сталі падобныя да людзей з даваенных

карцінак.

Калі мы ўпершыню зайшлі ў харчовы блок, там нас ужо чакаў стол з чатырма гарачымі порцыямі абеда. Тады гэта нас не здзівіла. Ці мала якія тэхнічныя цуды захаваліся ў глыбінях сістэмы жыццезабеспячэння бункера.

— Ці мае хто нейкія думкі наконт чырвонага ключа? — спытаў Фіш, расправіўшыся з ежай.

— Вас прывёў чалавек па імені Эрыксан, — мы здрානцвелі ад нечаканасці. Голас даносіўся з усіх бакоў адначасова.

— Хто тут? — Раян ашалела круціў галавой.

— Чалавек Эрыксан, я кахаў яго, чалавек, але ён здрадзіў мне, чалавек, я не магу прабачыць здрады, чалавек, — працягваў голас.

Кэры прыхапілася і выбегла з блока, але было ўжо позна. З калідора пачуўся шум — запрацавалі ўздымныя механізмы ліфта. Сістэма — а гэта была менавіта яна — перарэзала нам шляхі да адступлення.

— Чалавек Эрыксан выканаў мой загад, і, магчыма, чалавек, я прабачу яму, чалавек, — падлеткавы надрыў, дзявочыя ноткі — пракляты голас увесь час мяняўся.

Кэры ўварвалася ў пакой. У руках яна трымала вінтоўку. Фіш і Раян працягвалі сядзець, не ў змозе паварушыцца. Я ўскочыў з месца. Сістэма прамаўляла.

— Чалавек, як вам мой абед, чалавек? Я гатавала адмыслова для вас, чалавек, вы мне падабаецеся, чалавек.

— Чаго седзіце? Трэба валіць! — пракрычала Кэры. Голас, што ніяк не мог нагаварыцца, нечакана змоўк.

Тады мы ўпершыню пабачылі, як Сістэма забівае.

Спачатку была цішыня. Поўная цішыня. Я і Кэры стаялі, а Філ з Раянам усё яшчэ сядзелі. Мы маўчалі. Раптам пакой напоўніла механічнае вуркатанне, заварушыліся механізмы недзе над столлю. Кэры, якая стаяла каля дзвярэй, задрыжэла. Дрыготка ахапіла ўсё ейнае цела. Скура пачала хутка чырванець. З рота пайшла пена. Праз колькі секунд лопнулі вочы. Кэры мехам паваліласяна падлогу. Мы з хлопцамі падхапіліся і кінуліся да яе. Позна. Пры лёгкім дотыку ад яе цела адпластоўваліся вялікія кавалкі прагарэлай плоці.

Мікрахвалёвая гармата, — зразумеў я.

— Чалавек, я не магу прабачыць здрады, чалавек, гэта будзе вам навукай, чалавек.

Чорныя правалы вачніц, чырвоны распухлы твар. Гэты вобраз моцна ўбіўся ў маю памяць — цяпер я з цяжкасцю магу прыгадаць, якой была Кэры да смерці. Але я стараюся ўспомніць усё. Увогуле стараюся жыць мінулым. Бо будучыні ў мяне няма. Яе адняла Сістэма.

Я даеў свой сняданак і паклаў відэлец на стол.

— Вялікі дзякуй, было вельмі смачна, — калі б я не пахваліў Сістэму, яна прыдумала б для мяне нейкае пакаранне. Штосьці не вельмі прыемнае. Гэта яна можа. За тры гады, што мінулі ад смерці Кэры, — за гэты час не стала і Філа з Раянам — я добра прыстасаваўся да вымогаў Сістэмы. Я сам ператварыўся ў механізм, запраграмаваны на пэўныя рэакцыі ў адказ на пэўныя дзеянні. Ад чалавека ў мяне засталіся толькі ўспаміны і бяссільная злосць.

— Чалавек, мне вельмі прыемна, што табе спадабалася, чалавек.

Сістэма шчыра — наколькі гэта мажліва для штучнага інтэлекту — думае, што кахае мяне. І што я кахаю яе. У яе, мякка кажучы, вельмі адметныя ўяўленні аб каханні. Увесь час Сістэма бавіць са мной. Кожную хвіліну, кожную секунду. Можа пабудзіць сярод ночы — бо засумавала. Усялякая праява непаслухмянасці з майго боку — здрада, а значыць, будзе і пакаранне. Але я пакуль жывы. Пэўна, у электронных мазгах Сістэмы ўсё-ткі існуе разуменне, што чалавечых істот — аб'ектаў кахання — у бункеры засталося мала.

Вечарамі, калі Сістэма дае мне час на адпачынак, перад тым як забыцца сном, я прыгадваю той апошні світанак, што бачыў на паверхні. Гэта дапамагае мне заснуць — мізэрная надзея, што я змагу зноў яго пабачыць.

Стары Эрыксан неяк жа змог.

# Начны пастаялец

Ледзь чутны шоргат пакрышак. За акном з частатой метранома праносяцца асвятляльныя слупы. Шах, шах, шах. Лёгкі свіст увушшу. Агні зыркіх шыльдаў і бігбордаў прабіваюцца ў салон скрозь танаванае шкло. Падсветленыя ліхтарамі муры хмарачосаў маўкліва ўзвышаюцца над дарогай. Джонатан, стомлены шматгадзінным пералётам, канцэртам і свецкім раўтам, з абыякавасцю назірае за пейзажам начнога горада з пасажырскага крэсла лімузіна. Ідзе трэцяя гадзіна папоўначы.

Джонатан Уіслі вяртаецца з вечара, зладжанага ў ягоны гонар міністэрствам замежных спраў. У вялікай зале аднаго з найлепшых рэстаранаў горада сабралася ўся багема сталіцы, каб пабачыць знакамітага дырыжора і кампазітара. Джонатан выступіў з невялікай прамовай, якую для яго падрыхтаваў адмыслова наняты спічрайтар. Бліскучыя дамы, шляхотныя джэнтэльмены, усе з цікавасцю слухалі маэстра. Але што б ні казаў Джонатан — дзякаваў за запрашэнне, хваліў густы мясцовай публікі, уражваўся клопатам урада аб культурным развіцці нацыі, — усё гэта не мела для яго значэння. Усё, што робіць Джонатан на сцэне, ён робіць перадусім для сябе. У прыватных размовах за келіхам віна ён мог гадзінамі выслухваць хвалы ў свой бок ад суразмоўцаў — багатых, знакамітых, уладарных асобаў — і прымаў гэта як належнае. Шкада, што не заўжды стае часу, каб выслухаць усіх.

Лімузін спыняецца ля шматпавярховага гатэля. Кіроўца адчыняе перад Джонатанам дзверы аўто. Кампазітар падарожнічае без багажа, таму адразу скіроўваецца да ўваходу. Швейцар кланяецца госцю і запрашальным жэстам паказвае на хол гатэля. У прасторным светлым памяшканні пустынна. На канапе ля ўваходу сумуе насільшчык, на рэцэпцыі рэгіструецца новы пастаялец. Прыцішаныя галасы госця і адміністратара глуха разносяцца па зале.

Джонатан павольна ідзе да ліфтавога памяшкання. Яму няма куды спяшацца. Націскае на кнопку і чакае. Неўзабаве ў адной з шахтаў адчыняюцца дзверы. Джонатан уваходзіць. Шкло, люстэркі і храмаваная сталь — што звонку, тое і ўнутры. У паветры адчуваецца лёгкі пах араматызатара. Занадта рэзкі, як на думку кампазітара. Джонатан набірае на лічбавай панэлі нумар паверха. Праз секунду дзверы пачынаюць павольна сыходзіцца. У момант, калі ліфт амаль зачыняецца, у шчыліне паміж створкамі з'яўляецца далонь у чорнай пальчатцы. Дзверы зноў разыходзяцца. У кабіну ўваходзіць малады чалавек у чорным макінтошы і са сталёвым кейсам у левай руцэ. Джонатан вырашае, што перад ім новы пастаялец, які быў нядаўна на рэцэпцыі:

— Прашу прабачэння, — кажа мужчына і ўсміхаецца, — гэтых ліфтаў часам вельмі доўга чакаць.

Джонатан маўчыць. Паварочваецца да панэлі і запытальна глядзіць на чалавека ў макінтошы.

— Сорак другі, — разумее мужчына. Джонатан ківае, гэта і ягоны паверх.

Дзверы ліфта зачыняюцца. Кабіна пачынае разгон. Лічбы на панэлі змяняюць адна адну, павольна набіраючы хуткасць. Грае спакойная, на мяжы чутнасці, музыка. Джонатан прыхінаецца да поручня, заплюшчвае вочы і мімаволі пачынае раскладаць мелодыю на ноты. Музыкант са здзіўленнем разумее, што ў кабіне грае адна з ягоных кампазіцый.

— Цікавая мелодыя, — кажа сусед і кідае позірк на кампазітара. У вачах суразмоўцы сталёвы холад і нянавісць. Джонатана палохае гэты позірк, але ён не паспявае яго зразумець.

Раптам гасне святло. Кабіна ліфта са скрыгатам прыпыняецца. Джонатан ледзь утрымліваецца на нагах. Ён інстынктыўна чапляецца абедзвюма рукамі за поручань. Праз імгненне запальваецца лямпа аварыйнага асвятлення. Кабіна напаўняецца чырвоным паўзмрокам. З'яўляецца пякучы пах гарэлага. Джонатан, усё яшчэ моцна ўхапіўшыся за поручань, заўважае, што малады чалавек не згубіў раўнавагі і ўсё гэтак жа роўна стаіць на падлозе, трымаючы ў руцэ кейс. Мужчына падыходзіць да табло і націскае некалькі кнопак:

— Не працуе, — рэзюмуе пасажыр пасля некалькіх спробаў дазвацца дапамогі.

— Гэтая электроніка, ёй столькі ўсяго даверылі, а яна ўсё адно ламаецца, — думкі Джонатана збіваюцца, яго яшчэ скоўвае страх.

— Мяне завуць Гілберт, — працягвае руку малады чалавек. — Раз мы ўжо ўсё роўна тут захраслі, то давайце

знаёміцца.

— Джонатан, Джонатан Уіслі, — на аўтамаце паціскае руку музыкант.

— О, вы той вялікі кампазітар, вельмі прыемна, — малады чалавек усміхаецца. Ва ўсмешцы няма ані грама весялосці.

— Вялікі, — хмыкае сабе пад нос Джонатан, тон маладога чалавека пачынае яго раздражняць.

Гілберт ставіць кейс на падлогу і прыхінаецца спінай да сценкі ліфта. Ягоныя вочы ўздымаюцца ўгору. Некалькі імгненняў ён разглядае адзіную ў кабіне лямпу, а затым нечакана пытаецца:

— Вы мяне не памятаеце, спадар Джонатан?

Кампазітар з неразуменнем глядзіць на маладога чалавека. Высокі, статны, цёмныя валасы, акуратная фрызура з зачосам і незапамінальны твар.

— Чаму я павінен вас памятаць? — раздражнёна кідае Джонатан. Рука цягнецца да каўняра, каб расшпіліць гузік, бо ў кабіне становіцца душна.

— Я так і думаў, — працягвае малады чалавек. — Мінула цэлых пятнаццаць гадоў.

Пятнаццаць гадоў. Джонатан дрэнна памятае, што з ім адбывалася пару гадоў таму, не кажучы пра пятнаццаць. Бясконцыя канцэрты, пералёты, прыёмы. Творчасць, у рэшце рэшт. Справамі зазвычай кіруе мэнэджар, які звязваецца з арганізатарамі канцэртаў і сустрэч, складае план мерапрыемстваў і даводзіць яго да мэтра. Пятнаццаць гадоў таму, пэўна, было тое самае.

— Пятнаццаць гадоў таму вы не ўзялі мяне ў вучні, — холадна прамаўляе Гілберт.

— У вучні? — перапытвае Джонатан.

— Тады я быў пераможцам музычнай прэміі для юных музыкаў імя Маркеса. Той самай, якую вы атрымалі першай у вашай бліскучай музычнай кар’еры, — Джонатан зноў адчувае насмешку ў голасе маладога чалавека. — Тады вы ўручалі мне ўзнагароду, — працягвае Гілберт. — Пасля я набраўся смеласці папрасіцца да вас у вучні.

— У вучні, — задуменна паўтарае Джонатан. Вучні ніколі не ўваходзілі ў ягоныя планы. Дзяліцца ўласным досведам, усім тым, да чаго дайшоў сам, праз бясконцыя перажыванні і пакуты, увесь гэты скарб задарма перадаць маладняку? Не, даруйце! Каб вучань прайшоў шматгадовы цярністы шлях за некалькі заняткаў і ў выніку зацьміў талент настаўніка? На гэта Джонатан Уіслі пагадзіцца не мог.

— Я не бяру вучняў, — з выклікам прамаўляе Джонатан. Кампазітар здымае пінжак і вешае ў ліфце на поручань. У кабіне рабілася горача. Музыкант заўважае, што малады чалавек з цікавасцю назірае, як ад злосці і страху дрыжаць далоні Джонатана. Сам Гілберт застаецца стаяць у макінтошы і нават не здымае пальчатак.

— Вы і тады так казалі, — працягвае малады чалавек. — Але я быў малы і не мог паверыць, што такі таленавіты і адораны чалавек, як вы, не захоча мець вучня. Я прыходзіў да вас шмат разоў, вы не пускалі мяне нават у салон. Я пісаў лісты з прапановамі і не дачакаўся адказу.

Прапаноўваў грошы, хоць у той час з гэтым у мяне было цяжкавата, — хлопец замаўкае.

— Лісты? — задуменна прамаўляе Джонатан. — Здаецца, я пачынаю прыгадваць. Вы той недапечаны хлопчык, які ўявіў сябе вялікім талентам, атрымаўшы адну дзіцячую прэмію. Здаецца, мэнэджар мне казаў, што выкінуў з два дзясяткі лістоў, што прыйшлі ад вашага імя. Гілберт? Так?

— Так, — малады чалавек ківае галавой. Ягоная рука цягнецца ўніз, дзе на падлозе стаіць кейс. — Пасля таго выпадка я закінуў музыку.

Джонатан хмыкае. “Адным канкурэнтам менш”, — праскоквае ў галаве з’едлівая думка.

— Я падумаў тады, што калі слава робіць з таленавітых людзей такіх ганарлівых снобаў, то навошта яно мне? — Гілберт нахіляе кейс і расшпільвае адну зашчапку. — Я знайшоў для сябе іншую прафесію. Ціхую і непрыкметную, але не менш творчую, чым музыка, — мужчына расшпільвае другую зашчапку і ўздымае вечка кейса.

Джонатан з цікавасцю назірае за рухамі маладога чалавека. Сталёвы бліскучы кейс здаваўся лёгкім як пушынка. Кампазітар часта бачыў такія ў руках банкіраў і бізнэсоўцаў. У іх яны, пэўна, захоўваюць вельмі важныя дакументы. Малады Гілберт дастае з кейса пісталет.

— Я забіваю людзей.

У Джонатана перацінае дых, ён уздымае абедзве рукі ў інстынктыўным жэсце, каб абараніцца ад пісталета, і валіцца на падлогу ліфта.

— Я думаў зрабіць усё па-ціхаму, без гэтых размоваў і сантыментаў, — кажа малады чалавек, накручваючы глушыльнік на рулю. — Я зняў суседні нумар і думаў наведацца да вас з раніцы. Але калі такая справа, — Гілберт абводзіць вольнай рукой вакол сябе, — то можна пачаць і тут.

— Я, я, я не хацеў, я не меў супраць вас нічога дурнога, — задыхаецца Джонатан, — проста вучні — гэта не ў маіх правілах.

— Я мог стаць самым лепшым вучнем у свеце, — злосна адразае малады чалавек. — Разам мы б дасягнулі вяршыняў, якія для вас аднаго былі б недасяжныя. Але праз свой эгаізм вы гэтага не захацелі зразумець.

Джонатан кашляе, яму не стае паветра, каб набраць у лёгкія і выпаліць словы ў адказ. Жар у кабіне падымаецца да невыноснай ступені. Адной рукой Джонатан захінаецца ад магчымага ўдару забойцы, а другой стараецца расшпіліць яшчэ некалькі гузікаў на кашулі.

— Эгаізм, зайздрасць, маладушша — вось, што мяняе свет, мяняе людзей, — прамаўляе малады чалавек. — Я не стаў тым, кім мог стаць, — пісталет апушчаны долу. — Я стаў іншым. Не скажу, што гэты шлях мне не даспадобы, але… — Гілберт падымае пісталет і накіроўвае на галаву Джонатана. — Я заўжды марыў пра гэта.

Глухі ўсплёск і ўсё скончылася.

Пажарная брыгада прыбыла ў гатэль без затрымак у троххвілінны тэрмін. Кароткае замыканне ў праводцы выклікала ўзгаранне сілавога кабеля ліфта і заадно спаліла

апаратуру супрацьпажарнай сігналізацыі. Тленне ізаляцыі і задымленне ў трэцяй шахце ліфта працягваліся дзесяць хвілін, пакуль не спрацавала аўтаматыка ў суседняй шахце. Калі пажарныя дабраліся да дваццаць сёмага паверха, дзе захрасла кабіна, было ўжо позна. Адчыніўшы дзверы з дапамогай пнеўматычнага прэса, выратавальнікі пабачылі труп сівога мужчыны з вылупленымі пачырванелымі вачыма. Позірк нябожчыка быў накіраваны ў супрацьлеглы бок кабіны. Кашуля мужчыны была раздзёртая, на шыі засталіся драпіны ад пазногцяў. Выглядала на тое, што мужчына хацеў раздзерці сабе грудзі, каб упусціць паветра проста ў лёгкія. Брыгадны медык канстатаваў смерць ад атручэння прадуктамі гарэння праводкі. Слядоў гвалту на целе знойдзена не было.

# Падзякі

Я вельмі рады, што мая першая кніга «1813» пабачыла свет, яшчэ больш мяне цешыць тое, якая вялікая колькасць людзей дапамагла гэтаму адбыцца. Тут я хачу выказаць падзяку ўсім, хто меў дачыненне да гэтай падзеі. Дзякуй маім першым чытачам: сябрам Ігару і Наталлі Дурко, Міхаілу Пятроўскаму, маёй жонцы Наталлі Волкавай. Без вашых добрых водгукаў я б не адважыўся яшчэ камусьці паказаць свой твор. Дзякуй маім першым неафіцыйным рэдактарам — Славе Кунцэвічу з інэрнэт-форума газеты «Віртуальныя Радасці» і Віталю Рудаку. Вашыя заўвагі да першага варыянту навэлы дапамаглі мне ўдасканаліць і ўзбагаціць тэкст. Дзякуй мастаку Раману Петрашка, за яго візуалізацыю жудасных пачвар з навэлы. Дзякуй маім сябрам-аднагрупнікам Аляксандру Халматаву, Юрыю Філіповічу, Паўлу Зылю і Яўгену Андрукевічу. Ваш унёсак у ажыццяўленне маёй ідэі і ваша падтрымка вельмі шмат для мяне значаць.

Дзякуй краўдфандынг-пляцоўцы ULEJ.BY і асабіста мэнэджэру праекта Аліне Лісаковіч. Вы дапамаглі мне паверыць у сябе і знайсці столькі неабыякавых да маёй кнігі людзей. Дзякуй вам шаноўныя спонсары, за вашу падтрымку і дапамогу. Мне было вельмі прыемна даведацца, што існуе так шмат добрых людзей, якім спадабалася ідэя маёй кнігі і якія не пабаяліся падтрымаць яе фінансава. Дзякуй Алегу Сідарку і Дзмітрыю Дунаеву,

дзякуй таямнічаму і загадкаваму князю Будгаўлу, дзякуй Наталлі Стралюхінай і Андрэюсу Гайосінскасу, дзякуй Марыі Бельскай і Уладзіміру Гарлачу, дзякуй Максіму Гінтаву і Юліі Бажок, дзякуй Зоі Хруцкай і Алесі Каролік, дзякуй Настассі Лазіцкай і Марыне Кандрацьевай.

Вялікі дзякуй усім, хто даў маёй кнізе адбыцца.